**Вячаслаў Ракіцкі. Сто адрасоў свабоды. 1980—2010.**
(Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 330 с.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

«Сто адрасоў свабоды» — першая спроба сыстэматызацыі беларускай геаграфіі незалежнасьці й дэмакратыі.

Рэдакцыйная рада:
*Уладзімер Арлоў, Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Аляксандар Лукашук, Вячаслаў Сіўчык, Сяргей Харэўскі*

Мастак *Генадзь Мацур*
Рэдактар *Вінцук Вячорка*

Фота на вокладцы Яўгена Ацецкага, пераможцы конкурсу Радыё Свабода 2006 г.


FOL

ISBN 978-0-929849-38-6

# Зьмест

# 101-ы адрас

Увесну 2009-га мы сядзелі за круглым сталом у тэлестудыі Радыё Свабода ў Празе і абмяркоўвалі галоўныя тэмы тыдня, у ліку якіх быў ліст на блянку ЖРЭА з патрабаваньнем да арандатараў вызваліць памяшканьне на менскай вуліцы Варвашэні, 8, дзе пад бел-чырвона-белымі сьцягамі над уваходам месьцілася сядзіба БНФ, верагодна, самае свабоднае беларускае месца за ўвесь час існаваньня незалежнай Рэспублікі Беларусі, і я спытаўся ва ўдзельніка той перадачы Вячаслава Ракіцкага — ці павесяць там калі-небудзь мэмарыяльную шыльду і дзе яшчэ, з пункту гледжаньня сучаснай гісторыі, варта было б павесіць, — і вось праз два гады карпатлівых пошукаў, працяглых спрэчак і нечаканых удакладненьняў вы трымаеце ў руках ягоны адказ на гэтае пытаньне.

Адказ поўны, але сьпіс не завершаны.

Вы самі можаце яго працягнуць.

І 101-ы адрас — гэта тое месца, дзе вы цяпер разгарнулі гэтую кнігу.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# Першае публічнае калядаваньне ў савецкім Менску

## МЕНСК, ВУЛІЦА КАРЛА МАРКСА, 36

У двары гэтага дому 25 сьнежня 1980 году сябры моладзевай суполкі «Беларуская сьпеўна-драматычная Майстроўня» наладзілі сьвяткаваньне Калядаў — першую ў найноўшай гісторыі Беларусі публічную нацыянальную акцыю. Адбылося сутыкненьне зь міліцыяй. З гэтай акцыі адкрыта пачаўся рух за адраджэньне незалежнасьці Беларусі



Сьнежань, 1980 год, савецкі Менск брэжнеўска-машэраўскай эпохі — шэры горад, пустыя крамы, замест рэкламы лёзунгі пра адзінства партыі і народу.

І раптам — карнавал!

Некалькі дзясяткаў маладых людзей з каляднай зоркай прайшлі па Ленінскім праспэкце, мінулі тэатар імя Янкі Купалы і павярнулі на вуліцу Карла Маркса. Адзінкавыя мінакі агаломшаныя. Што гэта? Якія Каляды ў савецкім горадзе? І тым ня меней шмат у каго спрацоўвала генэтычная памяць: людзі кідалі ў калядоўныя торбы пачастункі.

Кульмінацыя адбылася ў двары дому, дзе жыў кумір патрыятычнай моладзі пісьменьнік Уладзімер Караткевіч. Моладзь паднялася на паверх, дзе жыў пісьменьнік. Пазванілі ў дзьверы. Узгадвае паэт, тады студэнт філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту **Сяржук Сокалаў-Воюш**:

> «Караткевіч выйшаў да нас, мы пачалі сьпяваць. А ў гэты час у двор заехалі два міліцэйскія «казлы». Міліцыянты думалі, што нас няшмат, таму сталі казаць, каб выходзілі па адным. Калі ж убачылі, што нас так шмат, ужо ня ведалі, што з намі рабіць. А нашыя мастакі вырабілі перад тым значкі з каляднай зоркай, і цяпер пачалі прышпіляць ім гэтыя значкі, размаўляць зь імі. Тады капітан, які кіраваў міліцыянтамі, зьехаў з гэтымі дзьвюма машынамі. Тыя з нас, што былі наверсе ў Караткевіча, працягвалі калядаваць. Караткевіч некалькі разоў выносіў нам і віно, і цукеркі. А калі Караткевіч даведаўся, што нас унізе спрабуюць забраць, ён патэлефанаваў Барадуліну. І яны пасьля званілі

ў менскія пастарункі, каб высьветліць, куды нас забралі, як нас выцягнуць з гэтай сытуацыі. Але нас, на шчасьце, не забралі».

Моладзь, натхнёная разуменьнем жыхароў дому і даволі лёгкай перамогай над міліцыянтамі, крочыць далей, на Цэнтральную плошчу. Пісьменьнік, тады студэнт факультэту журналістыкі **Сяргей Дубавец** памятае:

«Калі мы выйшлі з двара дому, дзе жыў Караткевіч, а таксама Адамчыкі, нас дагнаў Глобус (пісьменьнік Уладзімер Адамчык, сын пісьменьніка Вячаслава Адамчыка — **В.Р.**) і перадаў, здаецца, пушку печыва са словамі «Гэта ад сям'і Адамчыкаў». Мы на дзіва шмат накалядавалі. І калі ішлі па Цэнтральнай плошчы зь мяхамі, поўнымі пачастункаў, сутыкнуліся зь міліцыяй. Мы якраз абмяркоўвалі, куды нам падацца, бо студэнты, ясна, галодныя людзі. Савецкі час — галодны час...»

Міліцыя выхапіць з натоўпу хоць кагосьці не змагла: калядоўнікі стаялі шчыльным гуртом. Забраць усіх ці то не змаглі, ці то пабаяліся. Калядоўнікі заскочылі ў тралейбус і паехалі калядаваць далей — у «мастакоўскі дом» на вуліцы Сурганава.

Удзельнікі Беларускай сьпеўна-драматычнай Майстроўні потым неаднаразова ладзілі Каляды, Гуканьні вясны, Купальлі ў Менску, Заслаўі, Вязынцы. Са сьпяваньня песень у Майстроўні нараджаўся заснаваны на фальклёры абрад, які выліваўся ў публічныя акцыі з палітычным сэнсам. Так пачынаўся рух за адраджэньне нацыянальнай памяці і гісторыі. Так з культуры нараджаўся рух за незалежнасьць і свабоду.



## Беларуская сьпеўна-драматычная Майстроўня

### МЕНСК, ВУЛІЦА ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ, 6

У гэтым доме, дзе месьціўся філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, з 1979 па 1983 год дзейнічала Беларуская сьпеўна-драматычная Майстроўня — першае ў найноўшай гісторыі моладзевае згуртаваньне, якое мела на мэце адраджэньне нацыянальнай культуры й выхаваньне нацыянальнай сьвядомасьці

Майстроўня ўзьнікла зь сяброўства студэнтаў філфаку Вінцука Вячоркі, Сержука Сокалава-Воюша, студэнта журфаку Сяргея Дубаўца, іншых маладых людзей. Яны распрацоўвалі схемы працы дзеля нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня Беларусі ад саветаў. Іхныя амбітныя мэты захапілі іншых студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Пазьней далучыліся да суполкі студэнты іншых навучальных установаў, асьпіранты, рабочыя. З прыходам кампазытара Ларысы Сімаковіч згуртаваньне афармляецца ў Беларускую сьпеўна-драматычную Майстроўню. Сябры згуртаваньня бачылі сябе пераемнікамі адраджэнскага руху ў Заходняй Беларусі 1920-х гадоў. А назву прапанавала студэнтка філфаку **Ірына Марачкіна** (Крук):

> «Пры канцы 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі віравала беларускае жыцьцё. У Вільні вельмі актыўна працавала Беларуская драматычная майстроўня. І з гэтай цікавай моладзевай арганізацыяй у кірунках дзейнасьці мы супадалі. Гэтае незвычайнае слова «Майстроўня» вельмі дакладна адпавядала таму, як мы там сябе майстравалі, стваралі».

Майстроўцы адраджалі сьвяты традыцыйнага беларускага календара — Гуканьне вясны, Купальле. Гуканьне вясны ў Зялёным Лузе атрымала шырокі розгалас. Першая публічная акцыя — сьвяткаваньне Калядаў у 1980 годзе — адбылася з умяшаньнем міліцыі, але бяз арыштаў.

У 1980 годзе была пастаўленая народная драма «Цар Максымілян» у нацыяналістычнай рэдакцыі Ўладзіслава Галубка — мэтафарычны, выразна антыталітарны твор. Успамінае **Вінцук Вячорка**:



> «У «Цару Максыміляну» было некалькі калярытных эпізодаў, якія заўсёды ўспрымаліся гледачамі вельмі радасна. Прыкладам, калі Поп і Дзяк, увасобленыя Дубаўцом і Сокалавым-Воюшам, вянчаюць Цара зь ягонай новай жонкай. Відавочна, што за гэтым хавалася мэтафара паняволеньня Беларусі фальшывай, мройлівай ідэалёгіяй. Цара граў Сяргей Запрудзкі, ягоную жонку — Алена Амельчыц (Анісім). «Вянчаюцца бацяны, акі бусялы» — гэтая фраза выклікала рогат у гледача».

Пазьней майстроўцы сталі ладзіць археалягічна-архітэктурныя талокі па Беларусі. Талокі давалі магчымасьць легальна выяжджаць з моладзьдзю і адукоўваць яе нацыянальна й палітычна. У 1983 годзе пры Майстроўні ўтварылася Таварыства беларускай школы зь Віктарам Івашкевічам на чале. З 1983 году Майстроўня зьбіралася ў Палацы культуры Беларускага савету прафсаюзаў.

13 чэрвеня 1984 году актывісты Майстроўні выйшлі на дэманстрацыю пратэсту супраць зносу будынку гарадзкога тэатру на пляцы Волі ў Менску. Зразумела, несанкцыянаваную. Дэманстрантаў затрымала міліцыя. Далейшае існаваньне Майстроўні стала немагчымым. Пасьля спыненьня дзейнасьці Майстроўні яе актывісты стварылі ў Менску ў 1985—1986 гадох Клюб імя Ўладзімера Караткевіча, а ў 1987 годзе — клюб «Талака».

Найважнейшы вынік працы Майстроўні — нацыянальна сьведамыя людзі, якія сталі прафэсіяналамі ў розных галінах і палітычнымі лідэрамі дэмакратычных зьменаў.

## Падпольныя зборкі «На паддашку»

**МЕНСК, ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 18**

«На паддашку» — тут у майстэрні мастака Яўгена Куліка з канца 1960-х і да канца 1980-х падпольна зьбіралася патрыятычная беларуская інтэлігенцыя, адраджалася нацыянальная культура, ладзіліся мастацкія ды асьветніцкія акцыі



«На паддашку» — пад такім назовам у гісторыю незалежніцкага руху ўвайшла майстэрня мастака Яўгена Куліка ў Менску. Яна сапраўды месьцілася пад дахам дому, з вокнаў якога быў відаць велізарны будынак КДБ. А таму трэба было захоўваць канспірацыю, — успамінае гісторык **Міхась Чарняўскі**:

> «У нас быў умоўны знак. Калі там усё спакойна, калі нікога чужога няма, тады Яўген Кулік вешаў на вакно белы ручнік. І мы ўжо глядзелі: ага, ручнік ёсьць, значыць, можна заходзіць. Магчыма, часамі і стукачы заходзілі, але ў прынцыпе іх не было сярод нас».

На паддашку цягам 20 гадоў, з канца 1960-х, зьбіралася амаль уся нацыянальна арыентаваная беларуская інтэлігенцыя — пісьменьнікі, артысты, навукоўцы, у тым ліку і сябры гэтак званага акадэмічнага асяродку, разгромленага ўладамі. Касьцяк жа складалі мастакі.

Тут быў свайго кшталту клюб, дзе спрачаліся пра адраджэньне нацыянальнай гісторыі й культуры, пра мастацтва й цэнзуру, тут нараджаліся ідэі асьветніцкіх акцыяў, якія самі тутэйшыя заўсёднікі пасьля і ажыцьцяўлялі.

У 2000 годзе ў інтэрвію газэце «Наша ніва» **Яўген Кулік** патлумачыў фэномэн гэтай групы беларускіх нацыяналістаў:

> «Мы займаліся самаадукацыяй і самавыхаваньнем. Мы трохі больш за іншых ведалі гісторыю, гісторыю ў шырокім сэнсе і гісторыю мастацтва. Фактычна гэта была ў асноўным культурніцкая работа, але мы абсалютна не цураліся праяваў

грамадзкай працы. У нас не было ні статуту, ні нейкіх праграмных дакумэнтаў, гэта я ўжо потым стаў старшынём Культурніцкай камісіі БНФ, і тое, відаць, з прычыны свайго аўтарытэту, з-за таго, што мяне будуць слухацца. У грамадзкім пляне ўсё пачыналася з Купальля, з падпольных Купальляў, і гэта якраз прыпадала на самыя чорныя гады: 1973, 1974, 1976. Так, падчас сьвяткаваньня Купальля ў Заслаўі па ваколіцах хадзілі міліцыянты з аўчаркамі і стаялі пажарныя машыны, было вельмі вусьцішна».

Канцэптуальнымі выставамі на паддашку адзначылі юбілеі Казімера Малевіча, Міколы Гусоўскага, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Драздовіча. Мастакоў абвінавачвалі ў нацыяналізьме, спрабавалі прымусіць здымаць тыя творы, дзе быў герб Пагоня ці бел-чырвона-белы сьцяг. Беспасьпяхова.

А да тысячагодзьдзя Беларусі, якое ў 1980 годзе з ідэі Міколы Ермаловіча адзначалі на паддашку, Яўген Кулік падрыхтаваў паштоўку з Пагоняй. Паштоўка праз Польшчу патрапіла ў Лёндан, дзе і была выдадзеная беларускай эміграцыяй. Грымнуў скандал, пачаліся допыты, звальненьні з працы. Тым ня меней патрыятычная інтэлігенцыя працягвала культурна-асьветніцкую справу.

А калі пры канцы 1980-х Яўген Кулік атрымаў новую майстэрню на вуліцы Танкавай, таксама на паддашку, дык там зьбіралася ўжо ня толькі культурніцкая, а і палітычная апазыцыя.



## Дысыдэнцкі клюб на менскай вуліцы імя Дзімітрова

### МЕНСК, ВУЛІЦА ДЗІМІТРОВА, 3

На гэтым месцы знаходзіўся будынак былой сынагогі, які з 1977 па 2001 год цалкам займалі мастацкія майстэрні. Гэта быў асяродак творчай інтэлігенцыі — архітэктараў нацыянальнага адраджэньня канца XX стагодзьдзя

Пасьля Другой усясьветнай вайны будынак канца XIX стагодзьдзя, які належаў габрэйскай грамадзе, аддалі мастакам пад майстэрні. Пры канцы 1970-х, калі для іх быў пабудаваны дом на вуліцы Сурганава, мэтры выяўленчага мастацтва туды і пераехалі. А іхныя былыя майстэрні пачалі абжываць маладзейшыя — Аляксей Марачкін, Віктар Маркавец, Алесь Шатэрнік, Мікола Назарчук, Уладзімер Сулкоўскі. Яны і праславілі гэты дом.

Прасторная й сьветлая майстэрня, у якой працавалі Марачкін і Маркавец, стала своеасаблівым дысыдэнцкім клюбам, дзе адбываліся неафіцыйныя выставы й канфэрэнцыі. Там мастакі разгортвалі экспазыцыі да юбілеяў Міколы Гусоўскага, Язэпа Драздовіча, Аляізы Пашкевічанкі (Цёткі). Упершыню там адбылася прэзэнтацыя апальнага мастака, нонканфарміста Тодара Копшы. Там дыскутавалася беларускасьць Казімера Малевіча. Там абмяркоўвалі ідэю стварэньня Беларускага Народнага Фронту, а пасьля і рыхтавалі аздабленьне мітынгаў і шэсьцяў БНФ.

У дом на Дзімітрова прыходзілі мастакі Яўген Кулік, Пётра Драчоў, мастацтвазнаўцы Міхась Раманюк і Зянон Пазьняк, пісьменьнікі Васіль Быкаў, Уладзімер Караткевіч, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, гісторыкі Мікола Ермаловіч і Міхась Чарняўскі, філёзаф Уладзімер Конан. Панавала атмасфэра нонканфармізму і дысыдэнцтва, — успамінае **Аляксей Марачкін**:

> «Я памятаю, як заходзіў да нас Уладзімер Караткевіч. Заўсёды прынцыповы Яўген Кулік, гледзячы на працы Алеся Шатэрніка, крытыкаваў, што ён яшчэ не дарос да таго, каб паставіць помнік Рагнедзе ў Заслаўі, што трэба дарасьці і ўсьвядоміць, што ты робіш. Слухаў гэта Караткевіч, а пасьля кажа: „Хлопцы, мы ўсё чакаем, ці дарасьцем мы, ці не, а тым часам нейкі прыблуда прыедзе з далёкіх краёў, не зьвязаных зь Беларусьсю, і тут жа нам паставіць свой помнік, а мы будзем пляскаць у ладкі“».



Натуральна, ля дысыдэнцкага дому рэгулярна пасьвіліся міліцыянты й невядомыя людзі ў цывільным. Але да затрыманьняў не даходзіла. Калі пры канцы 1990-х гадоў пачалі руйнаваць стары Менск, сярод першых кандыдатураў на знос быў асяродак вольных творцаў — дом на Дзімітрова. Тады, — кажа **Віктар Маркавец**, — мастакі прапанавалі вярнуць яго габрэйскай грамадзе і такім чынам захаваць для гісторыі:

> «Але, на жаль, нам, як і нікому, гэта не ўдалося. На знак разьвітаньня ў гэтай майстэрні, ужо ў пустым, закінутым будынку мы з Алесем Разанавым наладзілі нашую апошнюю выставу».

Гэта было 25 сакавіка 2000 году. У наступным годзе будынак, у якім сфармаваўся касьцяк будучай мастакоўскай суполкі «Пагоня», зьнесьлі.

## Першы рок-канцэрт пад адкрытым небам

## МЕНСК, ТРАЕЦКАЯ НАБЯРЭЖНАЯ, 4

22 красавіка 1984 году каля гэтага будынку адбыўся канцэрт гурту «Мроя» — першы беларускі рок-канцэрт пад адкрытым небам. Канцэрт запачаткаваў удзел беларускіх музыкаў у нацыянальна-культурным і дэмакратычным адраджэньні краіны



Траецкае прадмесьце літаральна ад першага дня яго адбудовы аблюбавала для сваіх збораў гэтак званая нефармальная моладзь — ад культурніцка-палітычных аб'яднаньняў «Майстроўня» і «Талака» да гіпі й панкаў. У стылізаванай пад сярэднявечча «Карчме» за кубачкам кавы дыскутавалі і пра будучыню Беларусі, і пра заходнюю рок-музыку.

А 22 красавіка 1984 году тут адбылася падзея, якая ўвайшла ў гісторыю як айчыннай музыкі, гэтак і нацыянальна-вызвольнага руху.

У той дзень на набярэжнай Сьвіслачы нефармальныя мастакі ладзілі сваю выставу пад адкрытым небам. Былі расстаўленыя карціны й мальбэрты, а на ганку крамы «Вянок» выступаў гурт «Мроя», заснаваны ў 1981 годзе ў Менскай мастацкай вучэльні. У яго складзе былі Алег Дземідовіч, Лявон Вольскі, Уладзя Давыдоўскі, Юрась Ляўкоў. Успамінае **Лявон Вольскі**:

> «Публіка досыць культурная была. Усім было цікава, што гэта за зьява такая — цэлая праграма па-беларуску? Былі мастакі, людзі, блізкія да мастацтва, нейкія, як пазьней казалі, нефармалы. У Траецкім у карчме зьбіраліся гіпі, панкі. Яны адразу выбеглі паглядзець: што адбываецца, што гэта за рок-гурт грае? Пасьля доўга-доўга нас віншавалі. Мы не былі ні гіпі, ні панкі, але недзе блізка каля іх. Для таго часу мы выглядалі досыць сьмела. У мяне былі вельмі доўгія валасы. Уладзя Давыдоўскі, хаця і пастрыгся перад войскам, але валасы былі цалкам пафарбаваныя ў чорны колер. Алезіс (Алег Дземідовіч — **В.Р.**) таксама быў пафарбаваны, толькі ў жоўты колер. Гэта было вельмі

сьмела, бо тады ўсіх стрыглі, а фарбавацца і наагул было не прынята».

Праз нейкія пару месяцаў музыкі пайшлі ў войска. А затым зноў зьядналіся. Папулярнасьць «Мроі» ў моладзі была вялікая. Музыкі давалі шмат канцэртаў. У 1989 годзе запісалі на ўсесаюзнай фірме «Мелодия» кружэлку «Дваццаць восьмая зорка». У пару гэтак званай перабудовы «Мроя» становіцца культавым гуртом, адным са знакаў імкненьня беларускае моладзі да свабоды.

У 1994 годзе ўдзельнікі «Мроі» мяняюць назоў на N.R.M. («Незалежная Рэспубліка Мроя»). Мяняецца і музычны стыль, але застаецца нязьменнай пазыцыя музыкаў. Яны выступаюць ня толькі ў клюбах ці на канцэртных пляцоўках, але і на апазыцыйных маніфэстацыях. Як і на сваім першым выступе пад адкрытым небам «Мроя», гэтак і сёньня N.R.M. грае музыку свабоды.



## Моладзь супраць чыгуннай бабы

### МЕНСК, ВУЛІЦА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ, 28. ГАТЭЛЬ «ЭЎРОПА»

Насупраць гэтага будынку 13 чэрвеня 1984 году адбылася першая ў найноўшай гісторыі Беларусі акцыя пратэсту. 13 маладых людзей пікетавалі руйнаваньне помніку гісторыі й культуры — будынку Менскага гарадзкога тэатру (гатэлю Поляка), у якім у 1852 годзе была пастаўленая першая беларуская опэра «Ідылія» («Сялянка») С.Манюшкі ды К.Крыжаноўскага на лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча. Усіх удзельнікаў пікету затрымалі

У той момант, калі сьцены гістарычнага будынку зарыпелі-застагналі пад моцнымі ўдарамі чыгуннай бабы, менскія студэнты, сябры Беларускай сьпеўна-драматычнай Майстроўні зьбіраліся ў Палацы прафсаюзаў на свае традыцыйныя сьпеўкі ды лекцыі. Нічым не матываванае зьнішчэньне будынку, які прастаяў у самым цэнтры гораду 200 гадоў, азначала для іх культурна-гістарычную катастрофу. І яны пайшлі на адчайны, неверагодны для Беларусі таго часу ўчынак, апошняе, што можна было зрабіць.

Успамінае мовазнаўца, тады студэнт-філёляг **Зьміцер Саўка**:

> «Мы перайшлі на сходкі, што цяпер насупраць гатэлю «Эўропа», і працягвалі скандаваць «Руйнуецца помнік гісторыі». Хвілінаў, можа, дзесяць мы голасна выказвалі сваё незадавальненьне. А затым да нас пад'ехаў міліцэйскі «казёл», зь якога выйшлі міліцыянты й пачалі выцягваць з нашай купкі па адным, па два чалавекі. Першага схапілі ці не Вінцука Вячорку і павалаклі ў аўтамабіль. Потым узяліся за іншых хлопцаў, дзяўчат пагрузілі апошнімі. Нас даставілі ў Цэнтральнае аддзяленьне міліцыі».

Увечары таго ж дня невядомыя асобы расьпісалі патрыятычнымі лёзунгамі будынкі раённага камітэту камсамолу і КДБ Савецкага раёну Менску. Адзін з галоўных лёзунгаў: «Хай жыве Беларусь!»

Бліжэй да ночы затрыманых пачалі выпускаць зь міліцыі. А затым пайшлі лісты ў рэктараты навучальных установаў. Пачаліся разьбіральніцтвы, усім пагражала адлічэньне, але на радыкальныя захады



супраць студэнтаў кіраўнікі ВНУ не пайшлі. Пратэстоўцы надалей засталіся пад пільным вокам КДБ.

Тым першым досьведам палітычнага пратэсту яны ганарацца. Ён, як кажа мастак, тады студэнт архітэктуры **Артур Клінаў**, загартаваў маладых людзей:

> «Той досьвед мяне зрабіў больш адкрытым для рэвалюцыі. Пасьля першага выпрабаваньня я быў больш гатовы да рэвалюцыйных зьменаў. Зрабіць наступны крок ужо было ня так страшна. І па сёньня я адчуваю гонар, што ўзяў удзел у той акцыі».

Маладыя людзі, выйшаўшы на вуліцу з сваім шчырым абурэньнем, не ўсьведамлялі, што гэта была першая публічная акцыя пратэсту ў пасьляваеннай гісторыі краіны, якая засьведчыла, што моладзевы нацыянальны рух перайшоў ад культуралягічных акцыяў да адкрытай формы пратэсту.

Вось імёны ўдзельнікаў першага адкрытага палітычнага пратэсту ў найноўшай гісторыі Беларусі: Ларыса Сімаковіч, Вінцук Вячорка, Віялета Ефіменка, Алена Клімовіч, Артур Клінаў, Алесь Костка, Наталя Лазоўская, Юлія Лыскова, Марына Лычкоўская, Васіль Матусевіч, Ігар Міклашэвіч, Зьміцер Саўка.

# Антысавецкая «Група Незалежнасьць»

## МЕНСК, 2-ГІ ЗАВУЛАК БАГРАТЫЁНА. ЦЭНТРАЛЬНЫ ЦЕПЛАВЫ ПУНКТ

У гэтым будынку ў 1984—1985 гадох падпольна зьбіралася антысавецкая нацыяналістычная «Група Незалежнасьць», якая распрацоўвала пляны змаганьня за незалежнасьць Беларусі і вызваленьня яе ад бальшавізму



Такіх невялікіх будак, у якіх месьцяцца пункты менскіх цеплавых сетак, у сталіцы нямала. Але адна зь іх, што стаіць на 2-м завулку Багратыёна, мае падставы, каб застацца ў гісторыі.

Падпольная «Група Незалежнасьць» (першы назоў — «Беларуская талеранцыйная грамада») з засьцярогі перад сачэньнем КДБ вяла працу ў строгай канспірацыі. Яўген Івашкевіч, будучы студэнтам, працаваў яшчэ наглядчыкам на цепласетках і меў ключы ад гэтай будкі. Так група яго сяброў атрымала канспіратыўнае памяшканьне з бойлерам для нагрэву вады, парай-тройкай імправізаваных крэслаў, нечым накшталт стала. Група падпольшчыкаў — Алесь Бяляцкі, Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Віктар і Яўген Івашкевічы, Гэнік Лойка, Алесь Костка, Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Суша, пэўны час Генадзь Сагановіч — у 1984—1985 гадох зьбіралася пры цьмяным асьвятленьні менавіта ў такім інтэр'еры (скарыстоўвалі таксама іншыя памяшканьні, а ў цёплую пару выяжджалі з гораду).

У першай палове 1980-х гадоў па ўсёй Беларусі пачалі ўзьнікаць і пашырацца нефармальныя моладзевыя гурткі — прысьвечаныя рок-музыцы, сьпевам, турызму. На думку Вінцука Вячоркі, Алеся Сушы, Віктара Івашкевіча, Сяргея Дубаўца, прадстаўнікі «Незалежнасьці» павінны былі быць у кожнай з моладзевых груповак. Успамінае **Вінцук Вячорка**:

> «Гэтыя суполкі трэба было, што называецца, апладняць палітычнай пазыцыяй. У нас да таго часу ўжо была сфармаваная палітычная плятформа, якая прадугледжвала змаганьне за незалежнасьць Беларусі і вызваленьне яе ад бальшавізму».

Назоў «Групы Незалежнасьць» ужо быў вынесены ў тытул шэрагу самвыдавецкіх бюлетэняў. Прыкладам, бюлетэню «Бурачок» / «Вітажэнец». Менавіта ў той будцы плянавалася тэматыка падпольных выданьняў, а некаторыя зь іх нават аддрукоўваліся там. Канспірацыя й дысцыпліна былі жорсткія, і тым ня меней часам міліцыя трапляла на іх сьлед, — кажа **Яўген Івашкевіч**:

> «Калі мяне затрымалі, распаўсюд быў інсьпіраваны мною, без узгадненьня з астатнімі сябрамі групоўкі. Гэта значыць, я разносіў часопіс з парушэньнем дысцыпліны. А так усё рассылалася па пошце. Падчас разносу мяне і затрымалі. На вуліцы мяне спыніў патруль міліцыі і адвёз у пастарунак. Як мяне вылічылі, па якой наводцы, дагэтуль я ня ведаю. Пасьля мяне адвезьлі дадому, спадзеючыся, што я ім вынесу друкавальную машынку і астатак часопісу. Я ім ня вынес, а ноччу давялося ўсё гэта зьнішчыць. Было паведамленьне ў інстытут. Дэкан правёў са мной размову. Так што для мяне сур'ёзных наступстваў ні на працы, ні ў інстытуце не было».

«Група Незалежнасьць» стала палітычным хрыбтом і апірышчам аб'яднаньня «Талака» і пазьней Канфэдэрацыі беларускіх суполак. Рашэньне «Незалежнасьці» стала ключавым для ператварэньня Канфэдэрацыі ў фактычна інфраструктуру Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».



## «Талака» на Нямізе

## МЕНСК, СТАНЦЫЯ МЭТРО «НЯМІГА»

Увосень 1985 году ў часе археалягічных раскопак на месцы станцыі мэтро «Няміга» пачало фармавацца моладзевае гістарычна-культурнае згуртаваньне «Талака» — самая вялікая і ўплывовая ў савецкую эпоху нефармальная дэмакратычная арганізацыя

«Талака» пачыналася як клюб аховы гістарычнай і культурнай спадчыны. Фактычна яна стала пераемніцай Беларускай сьпеўна-драматычнай Майстроўні. Былыя майстроўцы ды іхныя маладзейшыя аднадумцы шчасьліва знайшліся ў часе сумесных вечарынаў (прыкладам, у менскім ЖЭСе № 85 на вуліцы Бяды, дзе на вечарыне памяці Караткевіча ў 1985 годзе абвясьцілі пра стварэньне клюбу імя пісьменьніка), вывучэньня беларускай мовы на прыватных кватэрах (у прыватнасьці, у кватэры Віктара Івашкевіча, дзе мову выкладаў Вінцук Вячорка) і асабліва на розных талоках, адбудоўваючы гістарычныя помнікі.

Першай такой талакой стаў удзел у археалягічных раскопках на месцы будучай станцыі мэтро «Няміга», што вяліся пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка. Маладыя нацыяналісты адгукнуліся на заклік у газэце «Вячэрні Мінск» стаць валянтэрамі. У часе раскопак і вырашылі аб'яднацца.

Праз гады адзін зь лідэраў «Талакі» **Сяргей Вітушка** ўспамінае:

> «Увесь горад быў наш. Мы зьбіраліся штодзень чатыры і нават больш гадоў. Цяжка назваць куточак, дзе мы б не былі. І ў кожным куточку рабілася нейкая беларуская гісторыя. Мы гаварылі па-беларуску, мы рабілі беларускую працу. Мы жылі беларускім жыцьцём. Сёньня я магу прывесьці вас у Траецкае прадмесьце і паказаць той брук, які мы ўкладалі восеньню 1985 году. Пасьля працы заставаліся ды ішлі ў карчомку папіць кавы. За размовамі ўмацоўвалася наша еднасьць. Слоўца «суботнік» надта муляла ў роце. І, здаецца, Гэнік Лойка прапанаваў слова «талака», і яно прыжылося».



Чынны ўдзел узялі талакоўцы ў стварэньні музэю драўлянага дойлідства ў Строчыцах.

Ля вытокаў «Талакі» былі Сяргей Вітушка, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Алесь Суша. Клюб аб'ядноўваў каля 60 чалавек, але на яго паседжаньні і асабліва мерапрыемствы прыходзіла значна болей людзей.

Талакоўцы працягвалі традыцыі сваіх папярэднікаў з Майстроўні, ладзячы фальклёрныя сьвяты і клапатліва адраджаючы абрады, рытуалы, песьні.

Пачалася адкрытая палітызацыя нацыянальна-культурніцкай дзейнасьці. На першым публічным мітынгу, арганізаваным «Талакой» ў абарону Верхняга гораду на пл. Волі ў 1988 годзе, гучалі абвінавачаньні ў бок камуністычных уладаў, рэфрэнам праходзіла ідэя нацыянальнага адраджэньня. Сярод палітызаваных акцыяў — сумеснае з латыскай моладзьдзю воднае ралі па Дзьвіне супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, вандроўка па Прыпяці супраць бяздумнай мэліярацыі, «пацыфісцкі» паход на Лідчыну супраць савецкай атамнай зброі, разьмешчанай у Беларусі. Натуральна, «Талака» мела дачыненьне да самвыдавецтва. У 1986—1987 гадох талакоўцы — сябры «Групы Незалежнасьць» выдавалі машынапісны часопіс «Бурачок».

З прыкладу «Талакі» паўставалі падобныя арганізацыі ў іншых гарадох Беларусі. «Талака» ініцыявала стварэньне Канфэдэрацыі беларускіх суполак у 1987 годзе. Яна спрычынілася да арганізацыі Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

# Гуканьне вясны ў Траецкім прадмесьці

## МЕНСК, ТРАЕЦКАЯ НАБЯРЭЖНАЯ

На гэтым месцы 20 красавіка 1986 году было жорстка разагнанае моладзевае фальклёрнае сьвята «Гуканьне вясны». Удзельнікі савецка-аўганскай вайны, якімі кіравалі з ЦК ЛКСМБ і Менскага гаркаму КПБ, жорстка зьбівалі школьнікаў за беларускую мову і беларускія песьні



У сярэдзіне 1980-х гадоў нарастае моладзевы рух за адраджэньне беларускай культуры. Узмацняецца і супрацьдзеяньне яму з боку камуністычных уладаў. Дзеля гэтага ўжываецца сіла, КДБ арганізуе правакацыі.

20 красавіка 1986 году ў Траецкім прадмесьці Менску Саюз мастакоў ладзіў традыцыйную Выставу аднаго дня. У яе рамках навучэнцы Рэспубліканскай школы-інтэрнату музыкі й выяўленчага мастацтва імя Ахрэмчыка вырашылі правесьці «Гуканьне вясны». Больш за месяц з энтузіязмам падлеткі рыхтаваліся да сьвята, малявалі значкі, рабілі з паперы птушак, развучвалі народныя песьні. Натуральна, разам зь дзецьмі ў Траецкім прадмесьці былі іхныя настаўнікі.

На беразе Сьвіслачы вучні расставілі на мальбэртах свае творы. Гэта была іхная першая публічная выстава. А затым пачалі вадзіць карагоды і сьпяваць. І тут, успамінае ўдзельнік таго сьвята **Дзяніс Раманюк**,

> «...зь некалькіх кропак, утварыўшы кола, зьявіліся маладыя хлопцы, адназначна старэйшыя за нас, сталі адбіраць гэтых папяровых птушак, рваць іх, разганяць карагод. А старэйшых з нас нават біць па тварах. І калі дзяўчаткі ўступаліся, іх таксама пахамску адштурхоўвалі. Усё гэта адназначна было сплянавана. Доказам таму — літаральна празь некалькі хвілінаў, як гэты разгон адбыўся, зьявіліся людзі ў цывільным, якія тут жа пачалі задаваць пытаньні. Побач бегалі гэтыя воіны-«аўганцы» і крычалі, што мы нацыяналісты».

Падзея атрымала розгалас у прэсе, выклікала абурэньне інтэлігенцыі. Тады ж і стала вядома, што

разгон сьвята і зьбіцьцё падлеткаў арганізавалі ЦК ЛКСМБ і Менскі гаркам КПБ. Некалькі дзясяткаў гэтак званых воінаў-інтэрнацыялістаў, якія толькі што вярнуліся з савецка-аўганскай вайны, нацкавалі на моладзь, сказаўшы ім, што ў Траецкім зьбіраюцца беларускія нэанацысты, каб адзначыць дзень нараджэньня Гітлера. Пра гэта «аўганцы» пазьней самі распавялі пэдагогам школы.

Сьведчыць мастак, пэдагог **Рыгор Сітніца**, які быў тады разам зь дзецьмі:

> «Пасьля некаторыя з гэтых хлопцаў прыходзілі да нашых вучняў, прасілі прабачэньня. Яны ў прынцыпе зразумелі, што адбылася элемэнтарная «падстава». Натуральна, што нашая заява ў міліцыю ніякага працягу не атрымала».

Беларускіх дзяцей білі за тое, што яны гаварылі й сьпявалі па-беларуску. А міліцыянты спакойна назіралі за апэрацыяй, распрацаванай КДБ.



## Дэманстрацыя па вадзе ад Друі да Дзьвінску

МЯСТЭЧКА ДРУЯ БРАСЛАЎСКАГА РАЁНУ, ТРАЕЦКІ КАСЬЦЁЛ БЭРНАРДЫНЦАЎ

29 красавіка 1987 году з гэтага месца стартавала экалягічнае воднае ралі пратэсту супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС — адна з найбольш масавых акцыяў грамадзкага руху ў абарону вялікіх тэрыторыяў Беларусі і Латвіі, якім пагражала затапленьне. Пазьней будаўніцтва ГЭС спынілі

Будаваць гідраэлектрастанцыю ў Даўгаўпілсе (былым Дзьвінску) пачалі яшчэ ў 1979 годзе. Вышыня дамбы паводле праекту мела скласьці 20 мэтраў, а даўжыня меркаванага вадасховішча — 200 кілямэтраў на тэрыторыі Латвіі й Беларусі. Калі б гэта адбылося, дык былі б затопленыя запаведныя даліны Дзьвіны і шмат вёсак.

На заклік Дайніса Іванса (пазьней кіраўніка Народнага Фронту Латвіі) пачаўся грамадзкі рух супраць будаўніцтва ГЭС. Латыскія «зялёныя» разам з гістарычна-культурніцкімі аб'яднаньнямі зьвярнуліся да беларускага клюбу «Талака» з ініцыятывай наладзіць сумесны чын — воднае ралі, каб прыцягнуць увагу грамадзкасьці ды ўладаў да магчымай экалягічнай і гуманітарнай катастрофы.

Да заклiку талакоўцаў далучыліся сябры іншых суполак з розных гарадоў Беларусі.

«Аднак, — узгадвае адзін зь лідэраў «Талакі» **Сяргей Вітушка**, — супраць гэтага было шмат процідзеяньняў. Усіх, каго маглі, загналі на першамайскую дэманстрацыю. Пагражалі: калі ня пойдзеце на дэманстрацыю, выганім з унівэрсытэту. Усякімі спосабамі стараліся адвадзіць людзей ад тае вандроўкі. Тым ня меней многія паехалі».

Каля сотні чалавек — беларусаў і латышоў — сабраліся ў Друі, ля Траецкага касьцёлу бэрнардынцаў. Мясцовыя ўлады паспрабавалі не дапусьціць акцыі. Узгадвае пісьменьнік **Уладзімер Арлоў**:

> «Мяне зь Віктарам Івашкевічам у часе падрыхтоўкі да адплыцьця затрымалі міліцыянты. З нас спрабавалі сарваць мэдальлёны, прысьвечаныя ралі. Маё пісьменьніцкае пасьведчаньне дапамагло нам



> тады вызваліцца і ў нейкім сэнсе стрымала імпэт міліцыі. Але трэба сказаць, што міліцыя і людзі ў цывільным былі крыху разгубленыя ад колькасьці маладых людзей, якія прыехалі для ўдзелу ў ралі, нягледзячы на тое, што ў вагоны, якія ішлі да Друі, квіткі проста не прадавалі, і людзі дабіраліся туды рознымі іншымі шляхамі».

Уладзімер Арлоў выступіў на імправізаваным мітынгу на беразе Дзьвіны. І караван чаўноў паплыў у бок Латвіі да Дзьвінску (Даўгаўпілса). Болей ім ніхто не перашкаджаў, тым болей што на той час паміж Беларусьсю і Латвіяй мяжы не было. Чаўны былі ўпрыгожаныя харугвамі, плякатамі. Гэта была адна зь першых акцыяў, на якой выкарыстоўвалася сымболіка ў нацыянальных бел-чырвона-белых колерах.

У канцэртах падчас прыстанкаў бралі ўдзел рок-гурт «Мроя», Сяржук Сокалаў-Воюш, Алег Паўлёнак, Зьміцер Сідаровіч, латыскія гурты. Нацыянальна сьведамая моладзь дзьвюх краінаў разам сьпявала (напісаная дзьвюхмоўная песьня «Бяжы, Дзьвіна — Skrien Daugava»), актыўна абменьвалася грамадзка-палітычным досьведам.

Латыская прэса шмат пісала пра «дэманстрацыю на вадзе». Не засталася яна незаўважанай і ў Беларусі. Гурт «Мроя» за ўдзел у ёй быў пазбаўлены памяшканьня для рэпэтыцыяў у Доме літаратара. А «Талака», наадварот, з мэтай лепшага нагляду за ёй атрымала пакой у будынку Менскага гаркаму камсамолу на плошчы Леніна.

# Першыя палітычныя Дзяды ля помніку Янку Купалу

## МЕНСК, ПАРК ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

1 лістапада 1987 году суполка «Тутэйшыя» наладзіла першае ў найноўшай гісторыі адзначэньне Дзядоў у форме палітычнага мітынгу. Упершыню сталінскія рэпрэсіі былі публічна названыя генацыдам



Помнік прароку беларускага адраджэньня Янку Купалу ў парку ў цэнтры Менску стаў асабліва прывабным для адраджэнцаў найноўшага часу. 17 сакавіка 1983 году тут «гукалі вясну». А 1 лістапада 1987 году менавіта ля помніку Янку Купалу, які спазнаў сталінскія рэпрэсіі, маладыя літаратары-нонканфармісты з аб'яднаньня «Тутэйшыя» адрадзілі беларускія Дзяды. Старадаўняй традыцыі паміналыня памерлых яны надалі новую форму й палітычнае значэньне.

Сябры літаратурнай суполкі «Тутэйшыя» ўшанавалі Дзядоў мітынгам-рэквіемам. Рэй вёў адзін зь лідэраў «Тутэйшых» **Анатоль Сыс**. Тут ён прачытаў свой верш «Маналёг „Тутэйшага“»:

«...І Радзіма твая, паглядзі,
— русакосая Янычаршчына,
а калісьці ты гаварыў,
а калісьці ты нават кляўся:
не патухне Зьніч на Гары!
Ён патух. Ты яму пакайся
за ягоны пакутны прах,
за Радзіму сваю нявінную,
янычары яе ў палях
крумкачам ды ваўкам пакінулі,
ты пакайся за свой спакой,
што зубамі ня грыз вяроўку,
бо здушыўся і ты на ёй,
ад жывёльнага поту мокры,
кайся, кайся за свой жывот,
не забудзься і пра Купалаў,
бо цяпер ты адзін — народ,
быццам храм на шляху вандалаў.

ДЫ ПАКУЛЬ ТЫ ЯШЧЭ ЖЫВЕШ,
ЗАПАЛІ ПРАД КУПАЛАМ СЬВЕЧКУ,
ПРАЧЫТАЎ? ДЫК СПАЛІ МОЙ ВЕРШ,
А ВАНДАЛАМ СКАЖЫ:
Я ВЕЧНЫ!»

А затым у палкай прамове Анатоль Сыс упершыню заявіў, што ў савецкі час сьмерць выбірала тых, хто ня ўмеў і не жадаў схіляць галаву. І прачытаў доўгі сьпіс расстраляных палітычных і дзяржаўных дзеячоў БССР, пісьменьнікаў і паэтаў. Упершыню на публічным мітынгу сталінскія злачынствы былі названыя генацыдам.

Ужо праз дзень у прэсе разгарнулася кампанія супраць «Тутэйшых». Іх абвінавачвалі ў паклёпе на камуністычную ўладу, у фашызьме й экстрэмізьме, натуральна, у няведаньні значэньня слова «генацыд». І толькі артыкул Васіля Быкава ў «Советской Белоруссии» спыніў цкаваньне «Тутэйшых».

З тае пары і да нашага часу Купалаў парк — месца змаганьня за свабоду. У ім адбываліся мітынгі ў абарону дэмакратыі і свабоды слова, палітызаваныя паэтычныя чытаньні. Тут шмат разоў адзначаўся Дзень Незалежнасьці.



# Першы Вальны Сойм пад Ракавам

## ВЁСКА ПАЛАЧАНКА ВАЛОЖЫНСКАГА РАЁНУ. ДЗІЦЯЧЫ АЗДАРАЎЛЕНЧЫ ЛЯГЕР «ПАЛАЧАНКА»

Тут у сьнежні 1987 году адбыўся Першы Вальны Сойм беларускіх суполак, на якім акрэсьлілася радыкалізацыя моладзевага руху. Быў вызначаны курс на нацыянальна-культурнае і дэмакратычнае адраджэньне і суверэнітэт Беларусі

У другой палове 1980-х гадоў па ўсёй Беларусі ўзьніклі сотні нефармальных моладзевых суполак дзеля адраджэньня нацыянальнай культуры: «Талака», «Тутэйшыя», «Сьвітанак», «Агмень», «Нашчадкі», рок-клюб «Няміга» (Менск), «Талака» (Гомель), «Паходня» (Горадня), «Крыніцы», «Сакавік» і рок-клюб (Наваполацак), «Узгор’е» (Віцебск), «Край» (Берасьце), «Сябрына» (Вільня), «Повязь» (Ворша), «Рунь» (Ліда), «Маладзік» (Полацак) і шмат іншых. Паўставала патрэба каардынаваць дзейнасьць, яднаць намаганьні па ўсёй краіне дзеля нацыянальна-культурнага й дэмакратычнага адраджэньня Беларусі, за наданьне беларускай мове статусу дзяржаўнай.

26—27 сьнежня 1987 году ў санаторыі «Палачанка», што пад Ракавам, адбыўся 1-шы Вальны Сойм беларускіх суполак. Афіцыйна ён называўся «Рэспубліканскай нарадай моладзевых аб’яднаньняў гісторыка-культурнага і краязнаўчага кірунку». Удзельнічалі ў ім некалькі соцень чалавек з усёй Беларусі, а таксама госьці зь Літвы.

Паэт **Алесь Аркуш** прадстаўляў полацкае літаратурнае аб’яднаньне «Крыніцы»:

> «Было такое ўражаньне, што сапраўды працэс мусіць рухацца наперад, што немагчыма яго прытармазіць. І ўсё ж моладзі, якая прыехала, трэба было мець нейкую сьмеласьць. Гэтая моладзь ужо была структурызаваная ў нацыянальныя моладзевыя асяродкі. У прынцыпе, мы ўсе так ці інакш адзін аднаго ведалі — ці то зьбіраліся на Купальлі, ці то разам выходзілі на мітынгі. Так, у нас у Наваполацку ўвесь час адбываліся экалягічныя мітынгі, якія мы арганізоўвалі, і да нас прыяжджалі госьці з розных моладзевых арганізацыяў. Гэта ўсё было адно кола, і цяпер ужо, сабраўшыся разам, мы абмяркоўвалі, як павінна паўставаць краіна, што яна павінна быць незалежнай, нацыянальна арыентаванай».



Фактычна Вальны Сойм пацьвердзіў стварэньне Канфэдэрацыі беларускіх суполак. Акрамя дыскусіяў пра сувэрэнітэт, дзяржаўнасьць беларускай мовы, дэмакратыю — паэты чыталі вершы, барды і рок-музыкі сьпявалі.

Праз некалькі месяцаў па выніках дыскусіяў склалі і распаўсюдзілі самвыдавецкім чынам «Адозву ініцыятыўнай групы Канфэдэрацыі Беларускіх моладзевых суполак». У дакумэнце адкрыта заяўлялася, што толькі «фактычная сувэрэннасьць Беларусі... дазволіць ажыцьцяўляць найбольш адпаведныя характару рэспублікі палітычныя, эканамічныя і культурныя праграмы не па цэнтралісцкіх мадэлях». У адозьве гучаў заклік да моладзевых суполак працаваць дзеля незалежнасьці, дэмакратызацыі Беларусі, разьвіцьця нацыянальнай культуры. Натуральна, што нацыянальным суполкам было не па дарозе з камсамолам.

У студзені 1989 году на Другім Вальным Сойме ў Вільні Канфэдэрацыя беларускіх суполак — як палітычны зьвяз дзеля барацьбы за незалежнасьць краіны і супраць праяваў сталінізму — была афіцыйна абвешчаная.

# «Тутэйшыя» ў Доме літаратара

## МЕНСК, ВУЛІЦА ФРУНЗЭ, 5

У Доме літаратара з 1987 па 1990 год зьбіраліся сябры нефармальнага літаратурнага аб’яднаньня «Тутэйшыя», якое стала лідэрам маладога пакаленьня беларускіх літаратараў у руху да свабоды



Незалежнае аб’яднаньне маладых літаратараў-нонканфармістаў «Тутэйшыя» ўзьнікла ў 1987 годзе, каб «абараняць свае погляды і перакананьні, супрацьстаяць жалезнай герархічнай структуры Саюзу пісьменьнікаў». Грамадзкая актыўнасьць і пэўны нігілізм у дачыненьні да старэйшых пісьменьнікаў выклікалі ў тых зваротную рэакцыю.

Успамінае **Міхась Скобла**:

> «У 1988 годзе на пісьменьніцкім зьезьдзе ў Доме літаратара мне давялося выступаць ад імя «Тутэйшых» з праграмнай заявай. У ёй мы асабліва нікога не скідалі з параходу сучаснасьці, але ў сваім выступе я закрануў Івана Навуменку, тагачаснага віцэ-прэзыдэнта Акадэміі навук, дзе акурат перад зьездам была забароненая вечарына «Тутэйшых». Я ледзь пасьпеў закончыць, як пабачыў, што па праходзе да трыбуны нясецца Іван Якаўлевіч. Масіўны, як зубар. Помню нават, што мільганула думка: «Растопча». Я хуценька спусьціўся ў залю з другога боку сцэны. А пісьменьнік-акадэмік абхапіў, як цацачную, трыбуну і кінуў у залю пытаньне, якое потым увайшло ў пісьменьніцкі фальклёр: «Падыміце рукі тыя, хто піша лепей за Навуменку?!» Ніхто, вядома, рук угору не ўзьнімаў. Помню іранічную ўсьмешку на твары Васіля Быкава і вясёлы позірк Максіма Танка з прэзыдыюму».

«Літаратура — гэта Бацькаўшчына», — гэтымі словамі пачынаўся «Маніхвэст» аб’яднаньня. «Тутэйшыя», як яны самі заяўлялі, займаліся «рэанімацыяй беларуса».

Адзін са стваральнікаў аб’яднаньня **Анатоль Сыс** казаў:

«Няхай я альбо нехта іншы з „Тутэйшых“, да прыкладу, Міхась Скобла, не далічымся вершаў, аднак гэта кампэнсуецца ў некалькі разоў нашымі паходамі „ў народ“».

І яны давалі ўрокі літаратуры ў школах, выступалі перад калгасьнікамі й рабочымі, ладзілі публічныя нацыянальныя сьвяты.

Пасьля першага публічнага адзначэньня Дзядоў 1 лістапада 1987 году, дзе сталінскія злачынствы былі названыя генацыдам, стала зразумелым, што «Тутэйшыя» ў шэрым аднапартыйным палітычным жыцьці Беларусі становяцца рэальнай сілай. А праз год імі ж арганізаваныя Дзяды, якія выліліся ў паход на Курапаты й жорсткую сутычку зь міліцыяй, сталі паваротным момантам у палітычнай гісторыі Беларусі.

«Тутэйшыя» праіснавалі да 1990 году. Літаратурная арганізацыя так і не набыла эстэтычнага адзінства, што засьведчылі выдадзеныя яе сябрамі калектыўныя альманахі «Літаратура» і зборнік «Тутэйшыя». А існаваць самастойнай палітычнай арганізацыяй пасьля ўтварэньня БНФ ужо ня мела сэнсу, бо шэраг «тутэйшых» зблізіліся з Фронтам ці сталі яго сябрамі.

У гісторыі «Тутэйшыя» засталіся сымбалем радыкальна настроенага пакаленьня 1980-х гадоў.



## Першы апазыцыйны мітынг на плошчы Свабоды

### МЕНСК, ПЛОШЧА СВАБОДЫ, 2А. ГАРАДЗКАЯ РАТУША

20 сакавіка 1988 году на месцы разбуранай на той час гарадзкой ратушы адбыўся першы за савецкую гісторыю апазыцыйны мітынг, арганізаваны аб’яднаньнем «Талака». Людзі пратэставалі супраць пракладкі праз гістарычны цэнтар Менску лініі мэтро, якая разбурала архітэктурныя помнікі. На мітынгу ўпершыню публічна выступіў будучы лідэр нацыянальнай апазыцыі Зянон Пазьняк

У выніку пракладкі другой лініі мэтро празь Верхні горад і будаўніцтва станцыі «Няміга» пачалі разбурацца гістарычна-культурныя помнікі: з прычыны вібрацыі пайшлі расколіны па мурох цяперашняга праваслаўнага катэдральнага сабору й тэатру імя Янкі Купалы. Раней ужо быў зьнесены дом Валентага Ваньковіча, узьняліся сякеры над дрэвамі Аляксандраўскага сквэру, плянаваўся знос некалькіх будынкаў Верхняга гораду.

Моладзь з «Талакі» выйшла на кантакт зь вернікамі, актывістамі праваслаўнай грамады. Разам склікалі мітынг у абарону нацыянальных і рэлігійных каштоўнасьцяў. Халодным сакавіцкім днём у сквэры на плошчы Свабоды, на месцы зруйнаванай гарадзкой ратушы сабралася нямала неабыякавых людзей, перадусім дзеячоў мастацтва, літаратуры, навукі, а таксама моладзі, саміх талакоўцаў, іхных сяброў і знаёмых. Шмат было і выпадковых мінакоў, якія далучаліся да мітынгу. Бальшыня зь іх успрымала занепакоенасьць лёсам старасьветчыны пазытыўна.

Узгадвае гісторык мастацтва, рэстаўратар **Сяргей Харэўскі**, які выступаў на мітынгу першы:

> «Гэнік Лойка з Алесем Косткам у пурыстычным запале зрабілі транспаранты, напісаўшы сьлёган «Уратуйма нашае места». Мінакі, якія спыняліся, чухалі патыліцы: што б гэта магло значыць? Там былі фатаздымкі старога Менску. Міліцыянтаў было толькі пару чалавек, якія самі ўважліва слухалі маю палымяную прамову. Неўзабаве зьявіўся і Зянон Пазьняк, які працягнуў дыскусію».

Гэта быў першы публічны выступ будучага лідэра



апазыцыі. Расказвае адзін з арганізатараў мітынгу **Віктар Івашкевіч**:

> «Упершыню публічна так радыкальна гучала, што камуністычныя ўлады сьвядома руйнуюць помнікі гісторыі, каб пазбавіць беларусаў памяці. Пазьняк казаў, што гэта пачалося яшчэ царскім урадам, які ўзарваў ратушу на тым месцы, дзе мы зараз стаім. Ён называў гістарычна-архітэктурныя помнікі, якія нішчыліся не падчас войнаў, а менавіта ў мірны час былі ўзарваныя акупацыйнай расейскай адміністрацыяй. Упершыню публічна заяўлялася, што беларусы знаходзяцца пад расейскім прыгнётам. Людзі слухалі з заміраньнем. Гэта была першая публічная адкрытая заява, што мы — апазыцыя палітычным уладам. Гэта быў першы крок, а таму страшнаваты».

Выступіў Кастусь Тарасаў, іншыя дзеячы культуры. Акцыя прынесла частковы плён. Улады пайшлі з грамадзкасьцю на дыялёг. Была створаная грамадзкая камісія, на падставе рэкамэндацыяў якой зробленыя тэхнічныя захады, каб зьменшыць вібрацыю ад цягнікоў. Паўтара дзесяцігодзьдзя пасьля таго пратэсту ўлады не руйнавалі горад масава. Важным было і тое, што мітынг арганізоўваўся супольна зь вернікамі. Пазьней некалькі актывістаў праваслаўнай грамады далучыліся да БНФ і нават былі ў яго кіраўніцтве.

## Газэта «Літаратура і мастацтва»

# МЕНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 19. РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

3 чэрвеня 1988 году, у пару галоўнага рэдактара Анатоля Вярцінскага, у газэце «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці», які запачаткаваў новую хвалю нацыянальнага Адраджэньня



Сяргей Навумчык, дэпутат таго Вярхоўнага Савету, які абвясьціў незалежнасьць Беларусі, неяк напісаў, што 3 чэрвеня 1988 году Беларусь, якой яшчэ кіравала з Масквы Палітбюро ЦК КПСС і ў гарадох і вёсках якой вонкава нічога не мянялася, прачнулася іншаю. У той дзень газэта творчай інтэлігенцыі «Літаратура і мастацтва» надрукавала артыкул археоляга Зянона Пазьняка ды інжынэра Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці». Артыкул нёс такую праўду, пасьля якой Беларусь не магла ня стаць іншай.

У артыкуле называлася прыблізная лічба забітых у Курапатах — ня меней як 102 тысячы чалавек (у кожным пахаваньні ў сярэднім 200 нябожчыкаў). Але рэальная лічба, пісалі аўтары, — болей як 200 тысячаў чалавек.

Публікатар артыкулу, тагачасны галоўны рэдактар «Літаратуры і мастацтва» **Анатоль Вярцінскі** кажа, што асаблівага страху наконт таго, ці друкаваць артыкул, у яго не было:

> «Быў іншы страх — страх перад тымі фактамі, перад тым жудасным малюнкам, які адкрывалі аўтары. Гэта не магло не прывесьці ў шок. Я разумеў, што гэта абавязкова трэба друкаваць, хаця ў той час мы хадзілі пад уладай ЦК КПБ. Мы параіліся зь Зянонам Пазьняком і прыйшлі да высновы, што каб адчуваць сябе больш упэўнена, калі раптам умяшаюцца Галоўліт або хтосьці з супрацоўнікаў ЦК, трэба падстрахавацца й заручыцца падтрымкай сапраўднага аўтарытэту. Мы і папрасілі Васіля Ўладзімеравіча Быкава напісаць прадмову. Ён на той час ужо быў ляўрэатам Ленінскай прэміі й Героем сацыялістычнай працы».

Як ні дзіўна, але ніякай рэпрэсіўнай рэакцыі не было. Была рэакцыя іншая, — узгадвае Анатоль Вярцінскі:

> «На трэці або чацьверты дзень пасьля зьяўленьня артыкулу «Курапаты — дарога сьмерці» мне патэлефанаваў старшыня прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Георгі Станіслававіч Таразевіч і папрасіў адзін асобнік газэты для сябе асабіста».

Праўда пра Курапаты, шырэй — пра злачынствы камуністычнага рэжыму, стала падставай для ўтварэньня той восеньню «Мартыралёгу Беларусі» і аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту. Вакол БНФ у змаганьні супраць камунізму і за нацыянальнае вызваленьне аб'ядналіся тысячы беларусаў.

Тым часам «Літаратура і мастацтва», якая ў пару галоснасьці стала вельмі папулярным і аўтарытэтным выданьнем, працягвала тэму Курапатаў. Быў надрукаваны яшчэ адзін артыкул Зянона Пазьняка — «Шумяць над магіламі сосны», за які рэдакцыі ўжо давялося пазмагацца, адстойваючы рацыю аўтара.

А калі мець на ўвазе іншыя публікацыі, зьвязаныя са станам беларускай мовы ці з датрыманьнем правоў чалавека, «Літаратура і мастацтва» пры канцы 1980-х — напачатку 1990-х гадоў была самай пасьлядоўнай газэтай у адстойваньні ідэяў нацыянальна-культурнага і дэмакратычнага адраджэньня Беларусі, штуршок якому праўдай пра Курапаты сама ж і дала.



# Дом кіно ў Чырвоным касьцёле

## МЕНСК, ВУЛІЦА САВЕЦКАЯ, 15

19 кастрычніка 1988 году ў касьцёле Сьвятога Сымона і Сьвятой Алены, дзе тады месьціўся Дом кіно, былі ўтвораныя Беларускае грамадзкае гістарычна-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі» і арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Драматычныя падзеі, якія разгортваліся ўвечары 19 кастрычніка 1988 году ў Доме кіно Саюзу кінэматаграфістаў БССР (раней і цяпер — касьцёле Сьв. Сымона і Сьв. Алены), вызначылі цэлы шэраг наступных падзеяў найноўшай гісторыі Беларусі. А мо і ўсю гэтую гісторыю.

Праўда пра злачынствы сталінізму, якая пашырылася з адкрыцьцём Курапатаў, выклікала хвалю антыкамунізму, і найперш у літаратурным, мастацкім і навуковым асяродзьдзі. Хісткі стан камуністычнай улады пачалі скарыстоўваць суседзі-прыбалты дзеля свайго вызваленьня, ствараючы народныя франты.

Гісторыя давала шанец і беларусам. Пра гэта, адкрываючы ўстаноўчы сход Таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі», казаў пісьменьнік **Васіль Быкаў**:

> «Мы павінны скласьці велічны мартыралёг нашых страт і нашых пакутнікаў. Гэта ляжа вуглавым камянём у падмурку нацыянальнай сьвядомасьці, стане важным элемэнтам гістарычнай памяці і гарантам. Гарантам будучыні народу, які праз генацыд, кроў і зьнявагу з упартасьцю асуджанага ірвецца да сонца, дабра і справядлівасьці» .

Заля, у якой была і моладзь, і тыя, хто прайшоў сталінскія лягеры, і творчая эліта (Стэфанія Станюта, Максім Танк, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін), выбухнула авацыяй. Адчулася і злавеснае шыпеньне некалькіх дзясяткаў чыноўнікаў, якіх заслалі, каб сарваць сход.

Было зразумела, што ўтвараецца палітычная арганізацыя для дэмакратызацыі грамадзтва, што яна пойдзе далей за складаньне сьпісу ахвяраў. Таму і кіраўнік



Таварыства павінен быць адданы ідэям дэмакратызацыі й нацыянальнага Адраджэньня, пазбаўлены страху, — патлумачыў Васіль Быкаў і прапанаваў кандыдатуру Зянона Пазьняка.

Гэта ўжо выклікала страх у чыноўнікаў. Да трыбуны кінуўся прадстаўнік ЦК КПБ Расьціслаў Бузук. Вось гістарычны запіс таго эпізоду:

«Быкаў: „Наступнае, што павінна быць: хто супраць кандыдатуры? Прашу падняць рукі! Хто ўстрымаўся? Няма! Усё!“ (воплескі)

Бузук: „И это — демократия?“

Галасы з залі: „Так, дэмакратыя!“»

Далей сход вёў **Зянон Пазьняк**, і ён прапанаваў тое, чаго чакалі:

> «... я выстаўляю на галасаваньне наступную прапанову: утварыць пры таварыстве „Мартыралёг“ арганізацыйны камітэт... арганізацыйны камітэт па стварэньні Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне“».

І адразу ж пасьля галасаваньня зачытаў папярэдне падрыхтаваны сьпіс тых, хто меў узяцца за стварэньне Народнага Фронту: Васіль Быкаў, Алесь Бяляцкі, Анатоль Варава, Вінцук Вячорка, Ніл Гілевіч, Анатоль Грыцкевіч, Юры Дракахруст, Міхась Дубянецкі, Вячаслаў Жыбуль, Яўген Кулік, Мікола Купава, Валеры Масьлюк, Пётра Садоўскі, Алесь Суша, Генадзь Тумаш, Сымон Сьвістуновіч, Міхась Ткачоў, Алег Трусаў, Ігар Чарняўскі, Міхась Чарняўскі, Яўген Шунейка, Васіль Якавенка. На просьбу залі дадалі і самога Пазьняка.

Так пачалася новая беларуская палітычная эра.

## Дзяды-1988: ад менскіх Усходніх могілак да Курапатаў

МЕНСК,
ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.
УСХОДНІЯ МОГІЛКІ

Тут 30 кастрычніка 1988 году зьбіраліся людзі, каб памянуць памерлых. Адзначэньне Дзядоў вылілася ў адкрытую акцыю пратэсту супраць камуністычнага гвалту, жорстка, з ужываньнем сьлезацечнага газу, разагнаную міліцыяй



Тым непагодным восеньскім ранкам 30 кастрычніка 1988 году цягнікі менскага мэтро да канцавой станцыі «Ўсход» не даходзілі. Сотні людзей пехам ішлі на Ўсходнія могілкі, каб на Дзяды памянуць памерлых. А на падыходзе іх чакалі тысячныя сілы міліцыі ды ўнутраных войскаў. Людзей хапалі й кідалі ў «варанкі», труцілі газам.

Стала зразумела, што плянаваны мітынг тут не адбудзецца. Тады вырашылі ісьці ў Курапаты. Калёна расьцягнулася ці не на кілямэтар. Але міліцыя з дубінкамі ўжо чакала і ў Курапатах. І Зянон Пазьняк, старшыня аргкамітэту БНФ, вырашыў правесьці мітынг-рэквіем проста ў полі.

Каб лепей было бачыць і чуць тых, хто прамаўляў, людзі прыселі — як на малітву. Пасьпелі выступіць толькі тры чалавекі. Архіўныя запісы захавалі выступы прамоўцаў.

Пісьменьнік **Уладзімер Арлоў**:

> «Гісторыя дала беларусам, бадай, апошні шанец — застацца народам, які жыве на сваёй зямлі і сам вырашае свой лёс. Ня выкарыстаць гэты шанец — значыць учыніць злачынства і перад памяцьцю продкаў, і перад наступнымі пакаленьнямі. Ушануем нашых герояў, ушануем мужных і сумленных людзей, што спрадвеку жылі на беларускай зямлі. У гэты надзвычай адказны для будучыні Айчыны час яны побач з намі».

Мастацтвазнаўца і палітык **Зянон Пазьняк**:

> «Сябры, я зачытаю вам дэклярацыю таварыства «Мартыралёг», створанага для высьвятленьня злачынстваў сталіншчыны й высьвятленьня нашых

стратаў, усіх загінулых у 20-я, 30-я, 40-я, 50-я гады ў час сталінскага тэрору. Вы бачыце, што нашая прэса друкуе толькі аднабаковую інфармацыю тых людзей, якія выступаюць супраць перабудовы, і тое, што мы тут вымушаныя сабрацца за горадам у полі, сьведчыць аб іхнай пазыцыі. Яны нам нават месца каля нашых продкаў, каля могільніку не далі, але нічога, мы на сваёй зямлі, і яна нас зразумее...»

Яшчэ выступіла маладая паэтка з Барысава Тацяна Зіненка. І тады — успамінае Ўладзімер Арлоў —

«...адбылося, напэўна, першае ўзьняцьцё нашага нацыянальнага сьцяга за некалькі дзесяцігодзьдзяў, прынамсі, публічнае. Адзін юнак расшпіліў сваё паліто, і высьветлілася, што ён быў абкручаны бел-чырвона-белым сьцягам. І калі гэты сьцяг быў падняты над галовамі, гэта і паслужыла своеасаблівым сыгналам атакі на нас. Мы ўжо даўно былі аточаныя некалькімі шчыльнымі кольцамі міліцыі ды ўнутраных войскаў. Прычым мне добра запомнілася, што ў форме ўнутраных войскаў былі людзі неславянскага аблічча, гэта значыць, што яны наўрад ці разумелі, што адбывалася. Прагучалі каманды з розных бакоў: «Расьсякай!», і на нас кінуліся».

Сотні зьбітых, атручаных газам людзей — такая перамога ўладаў. Адчуваньне сябе часткай народу, які асьмеліўся на адкрыты пратэст, — такая перамога ўдзельнікаў «Дзядоў» 1988 году.



# Мітынг на менскім стадыёне «Дынама»

## МЕНСК, ВУЛІЦА КІРАВА, 8. СТАДЫЁН «ДЫНАМА»

19 лютага 1989 году на галоўнай арэне стадыёну «Дынама» адбыўся першы ў Беларусі дазволены ўладамі шматтысячны мітынг у падтрымку Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Раней і пазьней гэта выглядала б фантасмагорыяй, але 19 лютага 1989 году 40 тысячаў чалавек пад бел-чырвона-белымі сьцягамі сабраліся на менскім стадыёне «Дынама» на заклік Беларускага Народнага Фронту. Быў самы пік гарбачоўскай перабудовы — першая спроба дэмакратычных выбараў у Вярхоўны Савет СССР. І створаны Фронт вырашыў заявіць пра свае сур'ёзныя палітычныя намеры падтрымкаю групы кандыдатаў у дэпутаты, а заадно й давесьці да людзей свае ідэі.

Тады адбыўся першы досьвед масавага раскідваньня ўлётак з запрашэньнем прыйсьці на мітынг. Тады яшчэ была магчымасьць зьмясьціць абвесткі ў моладзевых газэтах — «Знамени юности» і «Чырвонай змене».

Было холадна, людзі стаялі на трыбунах, унізе былі выступоўцы. Было выдатнае гукаўзмацненьне, якое даносіла да кожнага чалавека словы, што раней уголас і на такую аўдыторыю ў Беларусі не вымаўляліся. Выступалі Зянон Пазьняк, Юры Хадыка, Міхась Ткачоў… Вёў мітынг Вінцук Вячорка. Шэраг вядомых людзей, прыкладам, доктар эканамічных навук Макс Куняўскі, які неўзабаве стане кіраўніком Саюзу прадпрымальнікаў і арандатараў, упершыню публічна заяўлялі пра сваю дэмакратычную пазыцыю.

Былі і правакатары, дзесьці каля тысячы, — кажа прафэсар **Юры Хадыка**, які ў сваёй прамове быў прадказаў, што змаганьне за незалежнасьць Беларусі будзе цяжкім і доўгім:

> «Я параўнаў Фронт зь лёгкай кавалерыяй Вялікага Княства, якая, паводле аднаго з апісаньняў, атакавала праз воўчыя ямы, запаўняючы іх целамі сваіх рыцараў і коней. Я сказаў, што такая нашая роля ў гэтым, а пераможуць нашыя наступнікі, якія і прывядуць краіну да канчатковай свабоды й незалежнасьці. І тады мяне стала абсьвістваць група людзей у норкавых шапках. На адной з трыбунаў была такая жоўтая пляма ад гэтых намэнклятурных шапак. Крычалі: «Кастрыраваць яго!» І калі раздаўся сьвіст, я зьвярнуўся да людзей: «Глядзіце, яны прыйшлі, каб сарваць наш мітынг!» Тады выбухнуў стадыён сьвістам у адказ. І намэнклятура, якая ў такі прымітыўны спосаб хацела перашкодзіць росту ўплыву Народнага Фронту, замоўкла».



Той мітынг на «Дынама» стаў моцным і эфэктным стартам усенароднага змаганьня за перамены. Полымя зь менскага «Дынама» перакінулася на вуліцы й плошчы іншых гарадоў краіны.

## Паход па жывы этэр на вуліцы Камуністычнай

# МЕНСК, ВУЛІЦА КАМУНІСТЫЧНАЯ, 6

25 лютага 1990 году пад ціскам дзесяцітысячнага мітынгу прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту камуністычныя ўлады вымушаныя былі даць жывы этэр на Беларускім тэлебачаньні, якое тады тут месьцілася, лідэрам апазыцыі Зянону Пазьняку, Вінцуку Вячорку і Аляксею Марачкіну



У 1990 годзе адбываліся чарговыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР, але кампанія ўпершыню была падобная да сапраўды выбарчай.

25 лютага на плошчы тады яшчэ імя Леніна праходзіў шматтысячны мітынг прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту. Той мітынг яшчэ запомніўся і тым, што на яго вымушаны быў прыйсьці і трымаць адказ перад народам нават першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў. І калі ён выйшаў на трыбуну ў традыцыйнай намэнклятурнай футравай шапцы, плошча пачала скандаваць «Шапку здымі!» Разгублены ўсемагутны сакратар зьняў яе, і гэты ягоны «дэмакратычны» жэст народ вітаў воплескамі.

А напярэдадні Беларускае тэлебачаньне цкавала БНФ, запалохвала людзей, каб яны не прыходзілі на плошчу. І мітынг галасаваньнем прыняў рашэньне ісьці да будынку тэлебачаньня з патрабаваньнем жывога этэру для БНФ.

На шляху да калёны далучаліся яшчэ людзі, і каля будынку тэлебачаньня было ўжо каля дзесяці тысячаў чалавек. Яны цалкам запоўнілі вуліцу Камуністычную ад праспэкту да вуліцы Чырвонай, пляцоўку перад будынкам тэлебачаньня й набярэжную ракі Сьвіслачы.

Пасьля некалькіх гадзінаў супрацьстаяньня ўлады здаліся — пабаяліся штурму цытадэлі хлусьлівай прапаганды. Дэлегацыю ў складзе Зянона Пазьняка, Вінцука Вячоркі ды Аляксея Марачкіна прапусьцілі ў будынак. Спынілі трансьляваную праграму, і пачаўся амаль паўгадзінны жывы этэр. Успамінае **Вінцук Вячорка:**

«Мы меркавалі, што там будзем самі, але з намі выпусьцілі вядучага модных тады вялікіх дыскусійных праграмаў Сяргея Вінаградава. Тым ня менш, калі былі ўключаныя камэры, мы захапілі ініцыятыву: выклалі нашыя патрабаваньні, абверглі ўсе паклёпніцкія інсынуацыі, якія ліліся на галовы суграмадзянаў добрыя пару тыдняў, і заклікалі падтрымаць на бліжэйшых выбарах кандыдатаў у дэпутаты ад Народнага Фронту. Спадар Вінаградаў спрабаваў пасьля ўсё перавесьці ў пуставатую дыскусію, але галоўная справа была зробленая. Я ведаю па водгуках: многія людзі падумалі тады, што ўлада ў краіне ўжо зьмянілася на дэмакратычную. Пасьля заканчэньня перадачы павісла змрочная паўза, а пасьля ў студыю запусьцілі завезеных перадавікоў вытворчасьці й вэтэранаў, якія бэсьцілі нас і гаварылі: „перестройку начни с себя“».

А каб супакоіць народ на вуліцы, што дэлегацыя не арыштаваная, а сапраўды выступае ў жывым этэры, на ганку тэлебачаньня ўсталявалі манітор, і тыя, хто былі ў першых шэрагах, змаглі пабачыць і пачуць тое, што адбывалася. Кожнае слова сваіх лідэраў людзі віталі воплескамі й клічам «Жыве Беларусь!».

На выступ у наўпроставым этэры лідэры БНФ атрымалі мандат непасрэдна ад народу. Такая наўпроставая народная дэмакратыя ў той час магла пакіраваць нават тэлебачаньнем.



## Дом літаратара

# МЕНСК, ВУЛІЦА ФРУНЗЭ, 5

У гэтым доме з 1976 па 2006 год месьціўся Дом літаратара Саюзу пісьменьнікаў БССР (Саюзу беларускіх пісьменьнікаў) — адзін з найважнейшых асяродкаў руху за незалежнасьць і свабоду Беларусі ў канцы XX — пачатку XXI стагодзьдзя

Дом літаратара з другой паловы 1980-х і да сярэдзіны 2000-х, аж пакуль улады не забралі яго ў пісьменьнікаў, быў адным з найважнейшых асяродкаў свабоды для людзей літаратуры, мастацтва, журналістаў, навукоўцаў. Нудныя сходы «пра ролю літаратуры ў камуністычным грамадзтве» зьмяніліся гарачымі дыскусіямі пра будучыню Беларусі на ўсіх паверхах Дому, са сцэны актавай залі засьпявалі свабодалюбныя барды й беларускія рок-гурты. Тут праводзіліся зьезды й канфэрэнцыі апазыцыйных партыяў і рухаў, утвараліся недзяржаўныя арганізацыі, групы падтрымкі выпрацоўвалі тактыку барацьбы дэмакратычных кандыдатаў на выбарах у Вярхоўны Савет 12 і 13 скліканьняў.

У 1988 годзе кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў прытуліла ў Доме літаратара і арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту. Пакой № 306, дзе працаваў літаратурным кансультантам Алесь Емяльянаў, стаў часовым штабам будучага БНФ.

Тагачасны сакратар Саюзу пісьменьнікаў **Ніл Гілевіч** успамінае, як ціснулі ўлады на старшыню Саюзу Максіма Танка:

> «Усё, бывала, зойдзе й кажа: «Ніл Сямёнавіч, трэба ж нешта рабіць. Я ж вас прасіў неаднойчы. Хай яны пакінуць Дом літаратара. Бегаюць тут нейкія патлатыя хлопцы па лесьвіцы, туды-сюды, проста як гаспадары тут». Я тады клічу да сябе Алеся Емяльянава і кажу: «Алесь, на наступным паседжаньні сакратарыяту разглядаецца пытаньне аб прысутнасьці ў тваім пакоі штабу БНФ. Абяцай, каб заспакоіць Яўгена Іванавіча, што хутка штаб ня будзе тут. На цябе трошку пасварацца прысутныя. Ты на гэта не зьвяртай увагі». Ён абяцаў, але гэта яшчэ цягнулася доўга. Натуральна, раз кіраўніцтва Саюзу не выганяе з будынку аргкамітэт, тады ўлады пайшлі іншым шляхам. Аднойчы ноччу міліцыя ўзламала дзьверы ў 306-ы пакой і ўварвалася туды, нешта шукалі забароненае».



Актыўнасьць пісьменьнікаў у змаганьні за дэмакратыю й незалежнасьць Беларусі стала прычынай таго, што Аляксандар Лукашэнка забраў іхны Дом. Так лічыць паэт **Уладзімер Някляеў**, былы старшыня Саюзу:

> «Я быў арганізаваў сустрэчу сяброў Рады Саюзу пісьменьнікаў з Лукашэнкам. І ён нам сказаў: «Вы там будзеце праводзіць адзін за адным апазыцыйныя сходы, скіраваныя супраць улады, а я вам буду пакідаць для гэтага маёмасьць?! Не, браткі мае, гэтага ня будзе!» У нашым Доме былі такія спрэчкі пякельныя пра будучы лёс нашай краіны, там было столькі аптымізму і столькі горычы разьлілося! Вось калі б гэтыя сьцены агучылі ўсё тое, што яны чулі, а рэчы, якія там пазаставаліся, змаглі б выдаць эмоцыі тых людзей, якіх яны бачылі, гэта магло б стаць такім віртуальным музеем, падобнага якому ў Беларусі няма».

З Дому літаратара пад жалобна аздобленымі бел-чырвона-белымі сьцягамі ў прысутнасьці тысячаў людзей выносілі труны Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Пімена Панчанкі, уклад якіх у барацьбу за свабоду быў ня меншы, чым у літаратуру.

# Музэй Максіма Багдановіча ў Менску

## МЕНСК, ВУЛІЦА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА, 7А

Музэй Максіма Багдановіча пры канцы 1980-х і ў 1990-я гады быў адным з асяродкаў беларускага асьветніцтва, фармаваньня грамадзкіх арганізацыяў і праваабарончага руху



У другой палове 1980-х гадоў на хвалі перабудовы ў СССР сталі папулярнымі абраньні кіраўніцтва самім калектывам. Вось і пры стварэньні музэю Максіма Багдановіча яго калектыў прагаласаваў за 28-гадовага літаратара Алеся Бяляцкага. Міністэрства культуры было ў разгубленасьці: Бяляцкі ўжо засьвяціўся як актыўны нацыяналіст-адраджэнец, нават быў арыштаваны за арганізацыю Дзядоў у 1988 годзе. І тым ня менш, празь месяц ваганьняў, яго ўсё ж прызначылі. Прывёў з сабой Бяляцкі і групу маладых амбітных аднадумцаў.

Закіпела праца і ў стварэньні музэю, і ў беларускім асьветніцтве. Пад бел-чырвона-белым сьцягам, які яшчэ ня быў дзяржаўным, ладзіліся адна за другой вечарыны, паэтычныя й фальклёрныя сьвяты. А ў «Беларускай хатцы» (філіі музэю) адбываліся нават соймы БНФ.

Тым часам пачалі ўзьнікаць першыя беларускія няўрадавыя арганізацыі, перад якімі паўстала праблема юрыдычных адрасоў. І Бяляцкі дазволіў зарэгістравацца на музэйнай плошчы некалькім дзясяткам суполак.

У музэі знайшлі прытулак рэдакцыі газэтаў «Свабода» і «Наша ніва». Узгадвае былая супрацоўніца музэю **Паліна Качаткова**:

> «У 1990 годзе ў маленечкі пакойчык, які быў у нас, заехала на арэнду газэта «Свабода». Тады там зьявіліся Ігар Гермянчук, Сяргей Харэўскі, Сяргей Дубавец. Жыцьцё кіпела. У нас былі сумесныя сьвяты. Штогод мы ладзілі Каляды. Пасьля Алесь Бяляцкі ўвёў такі панятак, як «сябра музэю». Тыя,

хто працаваў у газэтах «Свабода» і «Наша ніва», лічыліся сябрамі музэю».

А вось што кажа пра той час **Сяргей Дубавец**:

«Якраз у музэі Багдановіча я перадаў функцыі рэдактара газэты «Свабода» Ігару Герменчуку. У мяне ад пачатку была задума адрадзіць «Нашу Ніву». «Свабода» была патрэбная, каб набраць досьведу, аўтараў і ўвогуле ўцягнуцца ў гэтую справу. Але Гермянчук ператварыў гэты мой «фальстарт» у самую папулярную беларускую газэту. І пачаў ён гэта рабіць менавіта ў музэі Багдановіча».

**Алесь Бяляцкі** ўзгадвае, як у 1998 годзе яго выклікалі ў Міністэрства культуры:

«На той час сытуацыя з правамі чалавека рэзка пагоршылася, і мы паралельна зь беларускай культурніцкай працай у музэі распачалі працу і ў праваабарончым цэнтры «Вясна-96». Адпаведна, пытаньне ў міністэрстве было пастаўлена рубам: ці, як яны тады казалі, мы займаемся палітыкай, ці культурай? Я напісаў заяву па ўласным жаданьні й сышоў з музэю».

Разам зь ім зышлі таксама Тацяна Равяка, Паліна Качаткова, Алена Кісялевіч. Далей іхная дзейнасьць будзе зьвязаная з абаронай правоў чалавека. Праваабарончы цэнтар «Вясна» (так ён называецца ад 1999 году) на чале з Алесем Бяляцкім — найбольш дзейсная і аўтарытэтная беларуская праваабарончая арганізацыя.



# Сядзіба Таварыства беларускай мовы

## МЕНСК, ВУЛІЦА РУМЯНЦАВА, 13

У гэтым доме з 1989 году месьціцца Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны — масавае грамадзкае аб’яднаньне для прапаганды й пашырэньня нацыянальнай мовы й культуры, дэмакратычных каштоўнасьцяў

На хвалі перабудовы пры канцы 1980-х гадоў ідэя стварыць Таварыства беларускай мовы была з энтузіязмам падхопленая літаратарамі, мастакамі, навукоўцамі, настаўнікамі. Устаноўчы зьезд БНФ 25 чэрвеня 1989 году ў Вільні прыняў рэзалюцыю ў падтрымку стварэньня Таварыства, а празь дзень — 27 чэрвеня 1989 году — у Менску прайшоў устаноўчы зьезд ТБМ, які выбраў першым старшынём арганізацыі яе ініцыятара паэта Ніла Гілевіча. У Таварыства запісваліся сотні, тысячы чалавек па ўсёй краіне.

Стаўленьне дзяржавы да новага аб’яднаньня тады не было варожае. ТБМ імя Скарыны заняло офіс у самым цэнтры сталіцы.

І хоць у Менску Таварыства беларускай мовы ўсе дваццаць гадоў знаходзіцца ў адным і тым жа офісе, утрымацца ў ім было няпроста, — узгадвае гісторык **Алег Трусаў**, які кіруе ТБМ з 1999 году:

> «У 1998 годзе ТБМ за даўгі выкінулі з гэтага офісу. Даўгоў нам дзяржава налічыла ў пераліку на даляры каля 15 тысяч. Апячаталі офіс. На трактары вывезьлі ўсю мэблю, усе нашыя архівы закінулі ў нейкі вільготны падвал. Думалі, што ніхто туды больш ня вернецца. Тым ня меней тагачасны старшыня ТБМ Генадзь Бураўкін арганізаваў збор сродкаў за мяжой і ў Беларусі. Мы заплацілі й вярнуліся. Гэта ўнікальны выпадак для Беларусі, калі недзяржаўная арганізацыя вяртаецца ў свой офіс. Напачатку 2000-х гадоў нас таксама хацелі выкінуць. У адказ мы сабралі 50 тысяч подпісаў грамадзянаў, і нас ня выкінулі. Наша сядзіба таксама вытрымала некалькі нападаў прафашыстоўскіх арганізацыяў. Яны абмазвалі фарбамі нашую шыльду, малявалі свастыку. Мы ня раз зьвярталіся ў КДБ, міліцыю выклікалі. Вядома, нікога не знайшлі. А аднойчы самі ўлады ў нас бомбу шукалі».



Але сапраўдныя цяжкасьці пачаліся пасьля рэфэрэндуму 1995 году пра мову й дзяржаўную сымболіку. Таварыства перажыло цяжкі крызыс.

Адрадзілася ТБМ і ўздыхнула з палёгкай у часе перапісу насельніцтва 1999 году. Высілкі актывістаў у прапагандзе мовы далі плён: дзьве трэціны насельніцтва назвалі беларускую мову роднай, 37 адсоткаў заявілі, што размаўляюць на беларускай мове. З гэтага моманту пачынаецца ўздым ТБМ, які працягваецца па сёньняшні час, — кажа яго старшыня Алег Трусаў:

> «Мы можам сабраць дзясяткі тысяч подпісаў, каб, напрыклад, загучала па-беларуску чыгунка. Усю чыгунку, усе электрычкі перавялі былі на расейскую мову. Калі я першы раз напісаў ліст кіраўніцтву чыгункі, мне сказалі, што купілі ў Маскве праграму, і «она по-белорусски не понимает». Мы паслалі ім дзесяць тысяч лістоў грамадзянаў, прыходзіць нам ліст з паведамленьнем, што праграма пачала «понимать». Яшчэ пяцьдзясят паслалі, і праграма ня толькі «поняла», але і загаварыла».

Жыве мова — жыве народ.

# Беларускі Фонд культуры

## МЕНСК, ВУЛІЦА СТАРАЖОЎСКАЯ, 5

У гэтым будынку з канца 1980-х гадоў зьдзяйсьняліся ініцыятывы Беларускага фонду культуры, скіраваныя на вяртаньне беларусам рэпрэсаваных камуністычнымі ўладамі культурна-гістарычных каштоўнасьцяў. Тут працавалі моўная камісія БФК і рэдакцыя часопісу «Спадчына»



Беларускія інтэлектуалы-незалежнікі ў другой палове 1980-х гадоў для рэалізацыі сваіх ідэяў стараліся скарыстацца зь любога шанцу, які давала перабудова. Так, у 1987 годзе паўстаў Беларускі фонд культуры, першым старшынём якога быў пісьменьнік Іван Чыгрынаў.

Сябры Фонду распрацавалі й ажыцьцяўлялі праграмы вяртаньня на радзіму й захаваньня мастацка-культурных каштоўнасьцяў, аднаўленьня традыцыйнае культуры. Нацыянальна сьведамыя інтэлектуалы прапанавалі стварыць пры Фондзе моўную камісію, якую ачоліў Пётра Садоўскі. Яна распачала змаганьне за ўкараненьне беларускай мовы ў сфэры адукацыі, культуры, навукі, гандлю, войска.

Сябры камісіі не абмяжоўваліся заклікамі ці дыскусіямі ў прэсе, што таксама было важным, але і рабілі канкрэтныя справы. Прыкладам, Пётра Садоўскі й Вінцук Вячорка ў супрацы зь Міністэрствам адукацыі склалі беларускую «Чытанку для дзіцячага сада», якая і была выдадзена ў 1990 годзе 70-тысячным накладам. Расказвае **Пётра Садоўскі:**

> «У чытанку мы ўключалі творы замежных аўтараў. Мы бралі арыгіналы й самі рабілі адаптацыю. Прыкладам, «Трое парасятак» ці «Чаму ў слоніка доўгі нос?» Была вучэбная праграма, і мы павінны былі яе трымацца. Трэба было ўключыць нейкі тэкст пра кастрычніцкую рэвалюцыю, і мы ўзялі ў паэта Алега Мінкіна верш «Кастрычнік», у якім не было нічога пра рэвалюцыю, проста пра кастрычнік, які фарбуе лісьце. Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў на нашую замову некалькі вершаў для самых малых. Напрыклад:

«Мы вядзём паіць на рэчку
кучаравую авечку.
Пі, авечачка, ваду
і вяртайся ў чараду».

Моўная камісія нядоўга працавала пры Фондзе культуры, да яе непазьбежна радыкальнай пазыцыі старшыня Фонду Іван Чыгрынаў ня быў гатовы. Яе ідэі й напрацоўкі сталі ажыцьцяўляць Беларускі Народны Фронт і Таварыства беларускай мовы. Палажэньні канцэпцыі, распрацаванай камісіяй, увайшлі ў Закон аб мовах, прыняты ў 1990 г.

У гэтым жа будынку на вуліцы Старажоўскай ад 1988 году месьцілася і рэдакцыя часопісу «Спадчына», які паўстаў як выданьне Фонду культуры. Першым галоўным рэдактарам быў Іван Чыгрынаў. Але пазьней заснавальнікам выданьня стаў калектыў рэдакцыі. Наклад першага недзяржаўнага культурніцкага тоўстага часопісу ў 1990-я гады, калі там працавалі Кастусь Тарасаў, Вінцук Вячорка, Уладзімер Ляхоўскі, Алесь Анціпенка і Вячаслаў Ракіцкі (галоўны рэдактар), набліжаўся да 10 тысяч асобнікаў.

«Спадчына» вярнула сучасным беларусам сотні рэпрэсаваных бальшавікамі тэкстаў — Янкі Купалы, Вацлава Ластоўскага, Францішка Аляхновіча, Браніслава Тарашкевіча, Юркі Віцьбіча, Язэпа Германовіча, Кастуся Акулы, Льва Гарошкі, Язэпа Малецкага і яшчэ дзясяткаў аўтараў, якія былі пад забаронай савецкай улады.



## Пісьменьнік Васіль Быкаў у Менску

## МЕНСК, ВУЛІЦА МАКСІМА ТАНКА, 10

У гэтым доме з 1978 па 2003 год жыў пісьменьнік Васіль Быкаў — выдатны творца і змагар за свабоду Беларусі

Творы пісьменьніка Васіля Быкава перакладзеныя на больш як паўсотні моваў народаў сьвету, але нідзе яго не чыталі, ня слухалі й не любілі так, як у Беларусі. Ён быў найвышэйшым маральным аўтарытэтам змаганьня супраць знакаў беларускай бяды — таталітарызму й дыктатуры — і цэнтральным удзельнікам падзеяў непасрэдна на барыкадах. Ягонае слова на сходах і мітынгах было, бадай што, вырашальным.

Прадмова Васіля Быкава стала наймацнейшаю падтрымкаю публікацыі гістарычнага артыкулу Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці». Накаўтам для камуністычнай улады стаў найактыўнейшы ўдзел пісьменьніка ў стварэньні Народнага Фронту.

Быкаў, які прайшоў вайну і камуністычны цынізм, выдатна разумеў каштоўнасьць і цану свабоды. Ён і іншым дапамагаў зразумець гэта, — кажа пісьменьнік, журналіст **Аляксандар Лукашук**:

> «Першы раз у гэты дом я прыйшоў да Быкава (дакладней, да паштовай скрынкі) з рукапісам сваёй першай кнігі пра сталінскія злачынствы — патрэбная была аўтарытэтная прадмова. І Быкаў мяне вельмі зьдзівіў, калі пазваніў праз дзень і запрасіў прыйсьці. Васіль Уладзімеравіч пазьней уключыў гэтую прадмову ў свой збор твораў, а для мяне яна назаўсёды застанецца самай вялікай узнагародай. Пасьля тут я бываў ня раз. І калі ўжо жыў за мяжой і прыязджаў у Менск зь Мюнхэну, а пасьля з Прагі, абавязкова заходзіў у знаёмы чырвоны цагляны дом, падымаўся на дзявяты паверх, і заўсёды гасьцінная гаспадыня Ірына Міхайлаўна частавала. Мы з Васілём Уладзімеравічам выпівалі па кілішку. Сядзелі за невысокім столікам у невялікім рабочым кабінэце, застаўленым кнігамі, фатаздымкамі, часопісамі. Размовы былі пра палітыку й літаратуру. У суседнім пакоі ля ложку стаяў кароткахвалёвы прымач, па якім гаспадар рэгулярна слухаў «Свабоду». Сам ён называў гэты рытуал «патрэбай і звычкай душы». Гэтую кватэру ў яго спрабавалі адабраць, скарыстаўшы часовы пераезд у Прагу, каб выпісаць гаспадароў. Гнюснасьць уладаў балюча знэрвавала Быкава, якому заставалася жыць некалькі тыдняў. З гэтага дому Быкаў адправіўся ў шпіталь, зь якога ўжо не вярнуўся».



Дома ў Быкавых бывалі пісьменьнікі й перакладнікі, рэжысэры й навукоўцы, беларускія й замежныя палітыкі, чытачы й знаёмыя з усяго сьвету.

Васіля Быкава ў апошні шлях з Дому літаратара на Ўсходнія могілкі па галоўным праспэкце сталіцы пад дарагімі ягонаму сэрцу бел-чырвона-белымі сьцягамі праводзілі дзясяткі тысяч людзей. А наўздагон тэлевізары выплёўвалі абразьлівыя словы Лукашэнкі…

Гэта было агульнанацыянальнае пахаваньне Пісьменьніка, Чалавека, Беларуса, які ў найноўшай гісторыі нацыі стаў сымбалем яе свабоды.

# Пісьменьнік Алесь Адамовіч

## МЕНСК, ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 76А

У гэтым доме жыў выдатны беларускі пісьменьнік Алесь Адамовіч — гуманіст, мысьляр, ідэоляг змаганьня супраць таталітарызму



1 чэрвеня 1986 году пісьменьнік Алесь Адамовіч піша ліст генэральнаму сакратару ЦК КПСС Міхаілу Гарбачову. У лісьце на падставе меркаваньняў найбуйнейшых беларускіх вучоных ён сьцьвярджае, што пасьля чарнобыльскай катастрофы «Беларусь перажывае нешта супастаўнае толькі з трагедыяй у гады мінулай вайны» і што «пад пытаньнем само існаваньне (фізычнае) дзесяцімільённага народу». Гарбачоў прысылае ў Беларусь, дзе хаваюць праўду пра катастрофу, камісію з 60 чалавек. За гэта камуністычная ўлада БССР выганяе Мікалая Барысевіча з пасады прэзыдэнта Акадэміі навук, Васіля Несьцярэнку — з Інстытуту ядравай энэргетыкі, Аляксандра Кузьміна — з ЦК КПБ, а Алеся Адамовіча — зь Менску, ня даўшы, натуральна, ужо заслужанага ім званьня акадэміка.

Алесь Адамовіч ганарыўся сваім укладам у адкрыцьцё праўды пра маштаб Чарнобылю. Ганарыўся ён і сваім удзелам у разьвянчаньні сталінізму й таталітарызму. Народным галасаваньнем Адамовіч быў абраны ў склад усесаюзнай антысталінскай арганізацы «Мэмарыял».

Прычыны аўтарытарызму й таталітарызму **Алесь Адамовіч** сфармуляваў у апошнім інтэрвію па-беларуску, якое ён даў Аляксандру Лукашуку:

> «Жывучы тут, у Маскве, я бачыў, як бясьсільле ўлады правакуе ўладу фашысцкую, уладу рэстаўрацыйна-камуністычную. Правакуе ўсіх тых, хто можа нас адкінуць у страшэнную прорву і ГУЛАГу, і Асьвенціма, і чаго хочаш».

Пісьменьнік-пацыфіст, Адамовіч вітаў адмову Беларусі ад атамнай зброі, а скасаваньне СССР лічыў

выратаваньнем і народаў камуністычнай імпэрыі, і ўсяго сьвету. Адамовіч стаў адным з інтэлектуальных сымбаляў эпохі кананьня камунізму й савецкай імпэрыі. Ён быў філёзафам і ідэолягам найноўшага часу.

Ягоная менская кватэра была месцам, дзе гаспадар і госьці (інтэлектуалы й творцы дэмакратычных поглядаў) гадзінамі абмяркоўвалі праблемы свабоды, мастацтва, літаратуры, палітыкі, — кажа літаратуразнаўца **Міхась Тычына**:

> «Яго хапала на ўсё. Гэта ягоны характар. Адамовіч — гэта дэтанатар. А што ён узарваць хацеў? Гэта ён сам сказаў у адным са сваіх запісаў — «я дамогся таго, што імя Сталіна дыскрэдытаванае, што была сказаная праўда пра Чарнобыль» — і гэтак далей. Ён зрабіў багата».

Пацыфісцкія, антыкамуністычныя, антытаталітарныя погляды ў Беларусі 1980-х гадоў, якую Адамовіч назваў Вандэяй перабудовы, выклікалі ярасьць у чыноўнікаў ЦК КПБ. Ужо з Масквы ён ня раз прыяжджаў у Менск на Чарнобыльскія шляхі й антытаталітарныя мітынгі. Ягонае палкае й аргумэнтаванае слова дадавала сілаў беларускім змагарам за свабоду.

Адамовічаў гуманізм быў вельмі небясьпечны для антыгуманнай камуністычнай улады, якая дажывала апошнія гады, і спрыяў яе хутчэйшаму канцу.



## Гісторык Мікола Ермаловіч

# МАЛАДЗЭЧНА, ВУЛІЦА ВЯЛІКІ ГАСЬЦІНЕЦ, 72

У гэтым доме зь сярэдзіны 1980-х і да пачатку 1993 году жыў выдатны беларускі гісторык, патрыёт, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху Мікола Ермаловіч

Мікола Ермаловіч — адна з найярчэйшых асобаў найноўшай гісторыі Беларусі.

Не ў сталіцы, не ў акадэмічным інстытуце ці на ўнівэрсытэцкай катэдры, а ў правінцыйным горадзе, сам-насам з уласнымі думкамі ён зрабіў вялікае адкрыцьцё ў навуцы, якое абгрунтоўвала гістарычнае права беларусаў на дзяржаўную самастойнасьць.

Праца «Па сьлядах аднаго міту» стала культавай для беларускіх патрыётаў, а імя яе аўтара Міколы Ермаловіча — сымбалем плёну навуковага й грамадзянскага вальнадумства.

Ягоная праца ў Маладэчне, у сутнасьці, была працай навукоўца-падпольшчыка. Ягоныя дасьледаваньні — дысыдэнцтвам. А сам факт працы над рукапісамі й першакрыніцамі чалавека, які амаль ня бачыў, быў гераічным вычынам.

Ён штодня езьдзіў электравікамі ў Менск, дзе ў беларускай залі Нацыянальнай бібліятэкі ня толькі чытаў і натаваў. У калідоры яго заўсёды чакалі прагныя да праўды асьпіранты, студэнты. І Ермаловіч апрабоўваў перад імі свае «крамольныя» тэорыі. А ў маладэчанскай кватэры пісаў ня толькі гістарычныя працы, але й свае «Гутаркі», якія сталіся фактам падпольнай, самвыдавецкай публіцыстыкі. Успамінае тагачасны лідэр маладэчанскай патрыятычнай моладзі краязнавец **Міхась Казлоўскі:**

> «Ён калісьці гаварыў, што была нейкая нарада, на якой наша мясцовае кіраўніцтва казала пра пагрозу нацыяналізму ў грамадстве. А Ермаловіч ім са сьмехам адказаў: «И у нас есть подобное ископаемое». Якраз у тыя часы, у 1970-я гады, і выходзілі ягоныя «Гутаркі». Безумоўна, ён гэта не афішаваў. Казаў мне: «Вось людзі пішуць, пачытай». Пазьней я ўжо зразумеў, што іх ён сам пісаў і друкаваў».



Шмат хто ў Маладэчне і чытаў тыя «Гутаркі», і слухаў публічныя выступы выдатнага гісторыка, прыкладам, у моладзевай суполцы «Беларуская хатка». Мікола Ермаловіч і слынны краязнаўца Генадзь Каханоўскі, якіх часта называлі мясцовымі Кірылам і Мяфодзіем, былі цэнтральнымі фігурамі ўнікальнага беларускага асяродку, які існаваў у Маладэчне. Міхась Казлоўскі кажа: «Калі тычылася нейкай важнай, прынцыповай пазыцыі, Ермаловіч казаў: „Разумны чалавек на кампраміс ідзе, а на капітуляцыю — не!“»

Мікола Ермаловіч загінуў пад коламі аўтамабіля ў Менску. Яго імя й працы назаўсёды застануцца ў падмурках беларускай незалежнасьці.

## «Беларуская хатка» ў Маладэчне

МАЛАДЭЧНА,
ВУЛІЦА ФРАНЦІШКА
СКАРЫНЫ, 19

З 1982 па 1990 год у гэтым будынку месьцілася суполка патрыятычнай моладзі «Беларуская хатка» — асяродак беларускай культуры й вольнай думкі



Маладэчанская суполка «Беларуская хатка» цікавая ўжо тым, што ўзьнікла яна не ў студэнцкім ці гуманітарным, а ў рабочым і інжынэрна-тэхнічным асяродзьдзі. Усё пачалося ў 1981 годзе з таго, што правесьці навагоднюю вечарыну ў якасьці Дзеда Мароза папрасілі маладога рабочага Міхася Казлоўскага. Ён зрабіў гэта па-беларуску.

Людзям спадабалася, і вакол Казлоўскага на любові да беларушчыны аб’ядналіся каля паўтара дзясятка маладых людзей. Для сваіх зборак яны афармілі пакой у інтэрнаце заводу «Спадарожнік» у нацыянальным стылі й назвалі яго «Беларуская хатка». На літаратурныя вечарыны, актуальныя дыскусіі, сустрэчы зь пісьменьнікамі, артыстамі зьбіраўся поўны пакой гледачоў.

Заўважыла суполку і ўлада, і ня толькі гарадзкая, — кажа **Міхась Казлоўскі:**

> «Памяшканьне было вялікае. Купленыя былі сталы, крэслы ў беларускім стылі. Сьцены аформленыя стэндамі пра беларускую гісторыю, літаратуру, мастацтва, культуру. У цэнтры — партрэты Янкі Купалы й Якуба Коласа. Тут жа герб «Пагоня», перамаляваны зь нейкай працы Міколы Купавы. Бел-чырвона-белыя сьцягі зьявіліся пазьней, недзе ў 1989 годзе. Тады са сьвітай да нас завітаў старшыня Вярхоўнага Савету Георгі Таразевіч. І ён вельмі разумна паставіўся да таго, што ў нас віселі бел-чырвона-белыя сьцягі і герб «Пагоня». Нас сабралася чалавек сорак. Ён сказаў, што пытаньне сымболікі трэба разглядаць, будзем думаць».

А адкрылася «Беларуская хатка» ў 1982 годзе вечарынай, прысьвечанай Максіму Багдановічу. З дакла-

дам выступаў гісторык-дысыдэнт Мікола Ермаловіч. Зрэшты, ён і яшчэ адзін тутэйшы іншадумец, гісторык і краязнавец Генадзь Каханоўскі заўсёды былі побач з патрыятычнай моладзьдзю.

Суполка пашырала справу. Яшчэ ў двух пакоях разьмясьцілі мастацкую гасьцёўню Язэпа Драздовіча і літаратурны музэй Уладзімера Караткевіча. Выпускалася насьценная газэта «Беларус», ладзіліся для ўсяго гораду Купальлі. «Беларускую хатку» мясцовая інтэлігенцыя лічыла асяродкам беларускай культуры й вольнай думкі. І калі на яе аснове паўстала аб'яднаньне «Крывіч», вакол яго згуртаваліся больш за паўсотні актывістаў.

Спыніла існаваньне суполка натуральным чынам. Хтосьці пайшоў у палітыку, хтосьці пакінуў горад, хтосьці заняўся іншымі справамі. Міхась Казлоўскі піша кнігі, выдае альманах «Куфэрак Віленшчыны» — працягвае справу сваю і свайго слыннага папярэдніка Генадзя Каханоўскага.



## Паэтка Ларыса Геніюш

## МЯСТЭЧКА ЗЭЛЬВА, ВУЛІЦА САВЕЦКАЯ, 7

У гэтым доме з 1956 па 1983 год жыла выдатная беларуская паэтка і патрыётка, адна з кіраўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі, пакутніца ГУЛАГу Ларыса Геніюш. Яе дом, нягледзячы на няспыннае сачэньне КДБ, быў месцам паломніцтва нацыянальнай інтэлігенцыі Беларусі

Мястэчка Зэльва ў 1970—1980-я гады было беларускаю Мэкаю для нацыянальнай творчай інтэлігенцыі. Да цудоўнай паэткі й сьветлай асобы Ларысы Геніюш ехалі паэты, празаікі, мастакі, навукоўцы. Ва ўмовах расейска-камуністычнай акупацыі яны лічылі яе дом выспачкай вольнае, незалежнае Беларусі, маленькай Беларускай Народнай Рэспублікай. Ларыса Геніюш, паэтка і былы генэральны сакратар Ураду БНР, пасьля арышту ў Чэхіі й васьмі гадоў савецкіх турмаў і лягероў адмовілася прыняць савецкае грамадзянства, лічыла сябе грамадзянкай БНР.

Пасяліўшыся на радзіме мужа, у Зэльве, яна жыла пад пільным наглядам КДБ, чыя сядзіба была ў доме праз дарогу. Натуральна, і кожны, хто прыяжджаў да нязломнай беларускай патрыёткі, разумеў, што трапляў у чорныя гэбісцкія сьпісы.

Успамінае мастак **Уладзімер Басалыга**, які афармляў першае пасьля яе вызваленьня выданьне зборніку вершаў «Невадам зь Нёмана»:

> «Мы ехалі да яе, як да праменьчыка свабоды, якога так не хапала ў тыя часы. Яна пыталася пра беларускую мову, ці размаўляюць на ёй мастакі. Мы пасядзелі ў хаце, паглядзелі на інтэр'еры, на паліцы з кніжкамі. І потым яна павяла нас да царквы. Па дарозе чытала вершы, прысьвечаныя веры. Ідучы, яна раптам азірнулася й кажа: „Ідзе чалавек за намі“».

Гісторык Міхась Чарняўскі, які часта прыяжджаў да Ларысы Антонаўны, прыгадвае, што амаль кожны раз тут жа зьяўлялася цікаўная суседка, каб чарговым разам данесьці ў КДБ пра госьця. І хоць ніякіх антыдзяржаўных размоваў не вялі, тым ня меней стараліся гаварыць шэптам, а то й пісаць адзін другому цыдулкі, бо паўсюль у хаце былі «жучкі».



У 1980 годзе, у дзень свайго сямідзесяцігодзьдзя, Ларыса Геніюш перадала **Міхасю Чарняўскаму** рукапіс успамінаў, якія пазьней пры публікацыі ў часопісе «Маладосьць» назавуць «Споведзь». Ён успамінае:

> «Я сунуў рукапіс пад кашулю. Выйшаў на двор каля сьцяны, каб мяне ня ўбачылі з вакна КДБ. Выбіраўся чужымі гародамі, пералазіў праз платы, потым у поле, каля касьцёлу ў лес, а там у бок Ваўкавыску. Выйшаў на дарогу і далей markerознымі спадарожнымі машынамі да Менску. Я хаваў рукапіс у розных месцах. Потым зь Зянонам Пазьняком зрабілі фатакопію на стужку. Нікому чытаць не давалі. Я хацеў перадаць яе на Захад, і нават быў чалавек, але за ім моцна сачылі. Я так і не рашыўся. Я чакаў, калі можна будзе публікаваць. І раптам кажуць, што настала нейкая адліга, перабудова. Я адразу панёс рукапіс у „Маладосьць“, тады Анатоль Грачанікаў быў галоўным рэдактарам. Ён паглядзеў і кажа: „Тэрмінова друкаваць, і вялікімі кавалкамі, каб не закрылі“».

Глыбокая вера ў Бога і Беларусь дапамаглі Ларысе Геніюш вытрымаць і канцлягеры, і вельмі цяжкое жыцьцё пасьля вяртаньня. Яе непахіснасьць і яе вера давалі новай генэрацыі беларускіх патрыётаў зарад, каб жыць паводле сумленьня і дзеля Беларусі.

# Пісьменьнік Васіль Быкаў у Горадні

## ГОРАДНЯ, ВУЛІЦА ВЯЛІКАЯ ТРАЕЦКАЯ, 28

У гэтым доме ў 1960-я — 1970-я гады жыў выдатны беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў, вястун ідэяў беларускага адраджэньня і свабоды



Калі ў Горадні жыў і працаваў Васіль Быкаў, тады там быў цэнтар беларускай праўды й свабоды. Там жыла літаратура выбару, які савецкія людзі не маглі зрабіць, дый ня ведалі, як яго зрабіць і навошта яго рабіць. Гарадзенская інтэлігенцыя гэта ўсьведамляла.

Разумелі гэта і ўлады. Быкава спрабавалі прылашчыць, але калі гэта не ўдалося, на яго пачалі нацкоўваць вэтэранаў, пісаць пасквілі ў газэтах, асуджаць у працоўных калектывах. Нарэшце, біць шыбы ў ягонай кватэры, тым болей што гэта зрабіць было няцяжка — ён жыў на першым паверсе старога дому.

І чым болей улады такое выраблялі, тым болей рос аўтарытэт пісьменьніка. Хай сабе на кухнях, паўшэптам, але гарадзенская інтэлігенцыя ім захаплялася. Быкаў быў гонарам гораду. Пры ўсёй сьціпласьці, магчыма, нават замкнёнасьці, ягоная прысутнасьць стварала атмасфэру гораду не правінцыйнага. Падтэкстам гораду была свабода — кажа пісьменьніца **Данута Бічэль-Загнетава:**

> «Гэта ж жыў пісьменьнік сусьветнай велічыні. Гэта ж скарб духоўны. Горад меў свой статус. Ён меў вялікага пісьменьніка. Да яго прыяжджалі з Эўропы людзі. Адмыслова ехалі, каб убачыць Быкава, каб пагаварыць зь ім. Ня тое што ён з намі дзяліўся гэтым. Ён заўсёды памятаў, што лепей ня трэба шуму ствараць. Калі трэба было паразмаўляць, дык ён ішоў на бераг Нёмана. Ён увесь час памятаў, што за намі сочаць у дзірку ад замка. І, канечне, калі ён паехаў, стала вельмі дрэнна, бо пры ім пра літаратуру інтэлігенцыя гораду гаварыла. Тады літаратура не была недзе на задворках, як сёньня. Выйду я сёньня на вуліцу, а зь мяне толькі й могуць,

што падражніцца: паэтэса, паэтэса... А тады за мной гэткія ж хлопцы беглі й прасілі аўтограф».

Працуючы літаратурным кансультантам у газэце «Гродненская правда», Быкаў апекаваўся маладымі. І найбольш важнымі для іх былі ягоныя развагі. Ён вучыў іх свабоднаму мысьленьню, — кажа **Вольга Іпатава**, якая пазнаёмілася з Васілём Быкавым у Горадні яшчэ школьніцай:

«Для мяне дом Васіля Ўладзімеравіча быў школай свабоды. Там я якраз чула ўсё тое, што кардынальна адрозьнівалася ад таго, чаму мяне вучылі ў школе і дзіцячым доме. Каб не было гэтых размоваў, гэтых рэплік, я, напэўна б, ня стала тым, кім я ёсьць цяпер. Ня ведаю, калі б я перастала быць савецкім чалавекам з дагматычным спосабам мысьленьня і ўспрыманьня рэчаіснасьці?! Гэта быў шанец, які мне дало жыцьцё, і я вельмі ўдзячная гэтаму шанцу».



# Пісьменьнік Аляксей Карпюк

## ГОРАДНЯ, ВУЛІЦА КАЛІНОЎСКАГА, 3А

У гэтым доме ў 1960-я — 1990-я гады жыў пісьменьнік Аляксей Карпюк, актыўны ўдзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху

Некалькі дзесяцігодзьдзяў пісьменьнік, а ў гады вайны партызанскі камандзір, узрушваў немалы для Беларусі горад. Ім захапляліся. Яго баяліся. Яго чыталі. За ім сачылі. Яго ведалі.

Аляксей Карпюк быў лідэрам вальнадумнай гарадзенскай інтэлігенцыі. Ён казаў, што думаў, і тым самым ствараў у Горадні асяродзьдзе свабоды. Як старшыня Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў, Карпюк і памяшканьне для яго выбраў, каб быць сярод людзей, да іх адкрытым. На шляху да вакзалу — у доме Элізы Ажэшкі. Такой моцнай і непакорнай абласной пісьменьніцкай арганізацыі БССР ня ведала.

Ядро — Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, Данута Бічэль-Загнетава, і побач шмат таленавітай моладзі, якая ў іх вучылася і рамяству, і сумленьню, і вольнай думцы. Успамінае пісьменьніца **Вольга Іпатава:**

> **«**Ён даваў нам пачытаць забароненага Салжаніцына, беларускіх эміграцыйных пісьменьнікаў, што было зусім строга забаронена, раздрукоўкі перадачаў Радыё Свабода. І ўсё гэта мы чыталі. Была такая гісторыя — мне далі пачытаць на дзьве ночы нешта, а я прачытала за ноч і дала на другую ноч твор аднаму маладому паэту (ня буду называць ягонага прозьвішча, бо ён ужо перамяніўся). Калі КДБ на яго націснуў, ён шчыра сказаў, што дала Вольга. А я казала яму, што мне гэта Карпюк даў. І ён нас, можна сказаць, прадаў. Карпюк з гэтага меў вялікую непрыемнасьць. Яго трэсьлі за гэта».

Пры канцы 1980-х гадоў Аляксей Карпюк напісаў і апублікаваў шэраг публіцыстычных артыкулаў са сваёй трактоўкай  падзеяў 1939 году ў Заходняй



Беларусі. Пра гэтыя артыкулы бюро Гарадзенскага абкаму партыі прымае спэцыяльную пастанову. Менавіта з прычыны гэтай пастановы Васіль Быкаў напісаў артыкул у абарону Карпюка. Пісьменьніка тым ня меней надалей цкавалі ў прэсе. Супраць Карпюка сфабрыкавалі справу, быццам ён супрацоўнічаў зь немцамі ў канцлягеры.

Кожны выступ Аляксея Карпюка на зьездах Саюзу пісьменьнікаў у Менску спараджаў імгненную рэакцыю ў Горадні. Яго называлі ідэалістам, змагаром, вар'ятам. Ягоныя прамовы былі ня толькі пра літаратуру. Пісьменьнік прыводзіў факты здушэньня свабоды, безгаспадарчасьці ў вобласьці. Гэта былі выступы пра тое, як нельга жыць.

У красавіку 1991 году Карпюк выйшаў з КПСС, матывуючы гэта тым, што «разуверыўся ў прынцыпах марксізму-ленінізму ды прыйшоў да высновы, што ідэі яго ўтапічныя, ...прыдуманыя бюракратамі ў кабінэтах», але партыйны білет пакінуў сабе «на памяць аб летуценьнях сваёй маладосьці».

Калі часы зьмяніліся, Карпюк не заняў высокай пасады, яго творы не выходзілі надзвычайнымі накладамі. Але ў павароце краіны да свабоды напачатку 1990-х была і энэргія няўрымсьлівага праўдалюбца з Горадні.

# Музэй Максіма Багдановіча ў Горадні

## ГОРАДНЯ, ВУЛІЦА 1 МАЯ, 10

Музэй Максіма Багдановіча з 1982 па 1998 год быў цэнтрам актыўнага беларускага жыцьця. Тут выдавалася незалежная газэта «Рэанімова», працаваў беларускі дзіцячы гурток «Вянок»



У 1982 годзе паэтку Дануту Бічэль-Загнетаву на просьбу Максіма Танка і Аляксея Карпюка ўзялі на працу ў Гарадзенскі гістарычна-археалягічны музэй. Ёй даручылі ствараць экспазыцыю для будучага музэю Максіма Багдановіча ў доме, на якім вісела шыльда, што там жыў вялікі беларускі паэт. Хоць насамрэч жыў ён за тры дамы адсюль — проста, напэўна, гэты дом уладам падаўся прыгажэйшым. Сярод першага, што яна зрабіла, — аднавіла праўду: зьняла тую шыльду й павесіла новую з інфармацыяй, што ў Горадні жыў Багдановіч. А ў 1995 годзе музэй Багдановіча зрабілі самастойным.

Данута Бічэль стварала музэй і зьбірала вакол яго людзей, як сама любіць паўтараць, будавала сваю «вёску», адкрытую для кантактаваньня аднадумцаў. Мастакі дарылі свае працы, пісьменьнікі — кнігі, у экспэдыцыях разам з навукоўцамі Акадэміі навук купляла экспанаты ў мясцовых людзей, часьцей за свае грошы.

Музэй быў адчынены штодня і для ўсіх. Там былі госьці зь Менску, Вільні, Беластоку, з Амэрыкі прыяжджаў Данчык. Памяшканьнем карыстаўся першым часам і гарадзенскі БНФ.

Беларускіх школаў у Горадні тады не было. І бацькі сталі прыводзіць сваіх дзяцей у гэты музэй. Узьнік прыгожы дзіцячы гурток «Вянок» — ставілі спэктаклі на роднай мове, пісалі вершы, малявалі, рабілі свой літаратурны рукапісны альманах.

Суполка імя Багдановіча пры музэі стала таксама выдаваць сваю газэту — «Рэанімова». Расказвае **Данута Бічэль:**

**«**Міша Баярчык прыдумаў гэтую назву — «рэані-

мацыя мовы». Ён у газэту пісаў саркастычныя рэчы і маляваў таксама. Напрыклад, у першым нумары быў малюнак птушачкі, якая глыкае кропачкі над «і», а з заду ў яе выходзяць дзьве літары «і», зьвязаныя паміж сабой. Наклад быў у залежнасьці ад грошай, якія я зьбірала, жабравала. Мне збоку ніхто не даваў. Першы нумар нам бясплатна ў Вільні аддрукаваў Сяргей Дубавец. Пасьля мне адзін літовец даў адрас віленскага друкара, у якога быў нейкі барабан, які ён мазаў чорнай фарбай, і гэта кацілася і капіявалася. Ён рабіў вельмі дрэнна, няякасна. Але мы там усе нашыя ўлёткі, праграмы друкавалі».

Газэта нядрэнна разыходзілася, асабліва на дэмакратычных мітынгах. Улады папярэджвалі, што нельга гэтым займацца, але не арыштоўвалі.

У 1998 годзе Дануту Бічэль насуперак яе жаданьню выправілі на пэнсію й прызначылі новае кіраўніцтва. І цяпер музэй функцыянуе як звычайная дзяржаўная ўстанова культуры.



## «Паходня» ў Горадні

# ГОРАДНЯ, ВУЛІЦА ДЗЯРЖЫНСКАГА, 1

У будынку Гарадзкога дому культуры з 1986 па 2005 год адбываліся паседжаньні Гарадзенскага гарадзкога гістарычна-культурнага аб’яднаньня «Паходня», якое пашырала веды пра Беларусь, бараніла помнікі гісторыі й культуры, актыўна ўдзельнічала ў працэсах дэмакратызацыі грамадзтва. Да 1989 году прэзыдэнтам клюбу быў выдатны навуковец і палітычны дзяяч Міхась Ткачоў

Адна кніга памяняла сьветапогляд аднаго чалавека, а вынікам стала вялікая справа.

У сярэдзіне 1980-х гадоў у Горадні супрацоўнік Інстытуту біяхіміі АН БССР Мікола Таранда з парады сяброў прачытаў кнігу Кастуся Тарасава «Памяць пра легенды». Уражаньне ад велічнай гісторыі Беларусі было такое моцнае, што ўзьнікла ідэя арганізаваць клюб, каб сустракацца з такімі людзьмі, як той жа Тарасаў, вывучаць і прапагандаваць гісторыю і культуру сваёй краіны.

На першае паседжаньне сабраліся 19 чалавек. Пастанавілі самі размаўляць па-беларуску. На дыспуты, вечарыны, сустрэчы з зоркамі беларускай літаратуры, навукі, культуры, якія лічылі за гонар прыехаць у Горадню і выступіць перад «Паходняй», прыходзілі пазьней сотні людзей. Дыскусіі неўзабаве пачалі набываць і палітычны характар.

Найважнейшай справай лічылі абарону старажытнага гораду ад руйнаваньня. Удалося зьберагчы шэраг будынкаў XVIII стагодзьдзя на плошчы Леніна, хаця з гэтага мелі непрыемнасьці. А вось спроба ўратаваць будынак вакзалу мела адваротны вынік — нават паскорыла яго знос.

На трэцяе паседжаньне клюбу прыйшоў ужо знакаміты гісторык Міхась Ткачоў. Ён спачатку не хацеў быць ганаровым прэзыдэнтам клюбу, але, — кажа нязьменны старшыня клюбу **Мікола Таранда**, —

> «калі за нас узяліся, пасьля таго як у Менску адбыўся разгон „Гуканьня вясны“, пасьля таго як мы выступілі ў абарону будынкаў на плошчы Леніна, ён сказаў: „Так і быць, я згодны быць прэзыдэнтам «Паходні», магчыма, мой аўтарытэт дапаможа захаваць клюб“. Пасьля гэтага мне адзін работнік культуры сказаў: „Мы табе так давяралі, але як ты мог паставіць на чале «Паходні» такога антысаветчыка, як Ткачоў?!“»



Веды й красамоўства прафэсара Ткачова зрабілі паседжаньні й акцыі «Паходні» надзвычай папулярнымі. Дзейнасьць клюбу апынулася пад пільным вокам КДБ. Усе «шышкі» валіліся на Ткачова, хоць ён часам нават стрымліваў актыўнасьць сяброў клюбу. І пасьля пераезду Міхася Ткачова ў Менск клюб працягваў працаваць, нягледзячы на перасьлед з боку ўладаў. Супраць «Паходні» выкарыстоўваюць звыклы спосаб пазбаўленьня памяшканьня, які цягне за сабой страту юрыдычнага адрасу. Але Мікола Таранда рознымі спосабамі ўратоўвае клюб, а месцаў, дзе можна сабрацца, у Горадні хапае. Прытуліць аўтарытэтную «Паходню» ёсьць каму, — кажа Мікола Таранда:

> «Самае галоўнае, што ў нас выхаваліся людзі. І кожны мае сваю арганізацыю, ці гістарычную, ці нейкі хор. Практычна ўсімі гарадзенскімі арганізацыямі кіруюць тыя, хто калісьці быў у «Паходні».

«Паходня» працягвае гарэць.

## Ушанаваньне продкаў ля помніку «Пагоня на Грунвальд»

**ГОРАДНЯ,
ПОМНІК «ПАГОНЯ НА ГРУНВАЛЬД»
ЛЯ БАРЫСАГЛЕБСКАЙ ЦАРКВЫ**

Ля гэтага помніку з канца 1980-х гадоў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі гарадзенская дэмакратычная грамадзкасьць ушаноўвае памяць беларускіх ваяроў — змагароў за свабоду Айчыны



Легенды, падмацаваныя гістарычнымі фактамі, кажуць, што сярэднявечныя ваяры выпраўляліся ў паход ад храма. Лічыцца, што і князь Вітаўт таксама ад Барысаглебскай (Калоскай) царквы ў Горадні вывеў свае харугвы на вялікую вайну з крыжакамі пад Грунвальд.

З канца 1980-х гадоў і па сёньня гарадзенская дэмакратычная грамадзкасьць менавіта каля гэтага месца штогод ушаноўвае памяць продкаў, айчынных герояў. Неўзабаве там зьявіўся і помнік «Пагоня на Грунвальд». А заклалі традыцыю адзначаць усе патрыятычныя даты — і дзень перамогі на Грунвальдзкім полі, і Дзень беларускай вайсковай славы, і Дзяды — сябры гістарычна-культурнага клюбу «Паходня». Пазьней справу працягнулі сябры БНФ, «Маладога фронту», руху «За свабоду», іншых дэмакратычных грамадзкіх арганізацыяў і партыяў.

У саборы замаўлялі памінальную імшу. Да помніку ўскладвалі кветкі, узьнімалі бел-чырвона-белы сьцяг, з запаленых зьнічак выкладвалі вялікі крыж Эўфрасіньні Полацкай. Таксама ладзілі маленькія рыцарскія турніры з дударамі й бардамі. Усё гэта вабіла гараджанаў. Зьбіралася гэтулькі людзей, што пагоркі вакол храма не маглі ўсіх зьмясьціць. Урэшце ўлады на гэта зьвярнулі ўвагу і сталі забараняць такія сьвяты ля Калоскай царквы.

Тым ня менш людзі хоць і ня масава, але прыходзяць у нацыянальныя сьвяты да «Пагоні на Грунвальд». **Эдвард Дмухоўскі**, сябра руху «За свабоду», кажа:

> «Так ці інакш, гэтае месца нясе пасыл, закладзены ў канцы 1980-х гадоў. Гэта людзям расплюшчвае вочы на нашую гісторыю, на гарадзенскую гіс-

торыю ў першую чаргу. А гэтая гісторыя вельмі гераічная й рамантычная. Калі зазірнуць у летапіс нашага гораду, дык прачытаеш, што з канца XIII стагодзьдзя і да Грунвальдзкай бітвы былі суцэльныя бойкі з крыжакамі. Калі чалавек даведваецца, што ён жыве ў такім горадзе з такой гісторыяй, ён адчувае гонар за свой горад. Зьбітая, але праўдзівая фраза: той, хто ня ведае гісторыі, ня мае будучыні, а той, хто ведае гісторыю, мае будучыню і ня зробіць тых памылак, якія калісьці былі. І, натуральна, гэта шанаваньне тых, хто зрабіў горад такім, якім ён ёсьць, — княскім, каралеўскім, высакародным, прыстойным».



# Музэй настаўніка Алеся Белакоза ў Гудзевічах

## ВЁСКА ГУДЗЕВІЧЫ МАСТОЎСКАГА РАЁНУ, ВУЛІЦА ЦЭНТРАЛЬНАЯ, 7

Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музэй створаны ў 1968 годзе выдатным беларускім настаўнікам і краязнаўцам Алесем Белакозам. Музэй пад ягоным кіраўніцтвам быў гімнам Беларушчыне

У сярэдзіне 1960-х гадоў вучні Гудзевіцкай сярэдняй школы Мастоўскага раёну пад кіраўніцтвам настаўніка беларускай мовы і літаратуры Алеся Белакоза пачалі ліставацца зь вядомымі беларускімі пісьменьнікамі. Гэтымі лістамі, у якіх былі выказваньні творцаў пра беларускую мову, а таксама чарнавікамі іхных твораў, папаўняўся кабінэт беларускай літаратуры, аж пакуль не ператварыўся ў сапраўдны музэй. Афіцыйнае адкрыцьцё 2 лютага 1968 году было прымеркаванае да 130-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага.

Сёньня ў Гудзевіцкім дзяржаўным літаратурна-краязнаўчым музэі, дырэктарам якога па 2004 год быў Алесь Белакоз, каля 15 тысяч экспанатаў. Самы вялікі — двухсотгадовая традыцыйная сялянская хата. Самыя ўнікальныя — падвойны дыван канца XIX стагодзьдзя і беларускамоўны глёбус, зь якога вучыліся гадаванцы Віленскай беларускай гімназіі. А самымі каштоўнымі, прынамсі для сябе, **Алесь Белакоз** лічыць матэрыялы, зьвязаныя з выбітнымі беларускімі пісьменьнікамі, змагарамі за Беларусь і беларушчыну:

> «Для мяне самае дарагое — гэта лісты нашых беларускіх патрыётаў, іх успаміны, адказы на пытаньні Ларысы Геніюш, Івана Мележа, Уладзімера Караткевіча, Васіля Быкава, Аляксея Карпюка, іхныя чарнавікі, пажаданьні для Беларусі, выказваньні пра мову. У нас вельмі шмат сабрана выказваньняў пра беларускую мову. Цікавых гістарычных зьвестак шмат удалося сабраць — пра Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча».

У часы барацьбы ўладаў зь беларушчынай і нацыяналізмам, а яна ўсе гады існаваньня музэю і не спынялася, няпроста было адстаяць стэнд, прысьвечаны Ларысе Геніюш, ці расказваць вучням пра рэпрэсаваных бальшавікамі пісьменьнікаў.



Белакоз, які любіў быць свабодным у сваёй працы, без энтузіязму прыняў ідэю пераўтварэньня школьнага музэю ў дзяржаўны. Ён разумеў, што кантроль за ідэалёгіяй музэю ўзмацніцца. Так і сталася. А ў 2004 годзе, насуперак жаданьню, Алеся Белакоза выправілі на пэнсію. У ліку ягоных «грахоў» была і адмова павесіць у музэі партрэт Аляксандра Лукашэнкі.

# Культавы нацыяналістычны спэктакль у Віцебску

## ВІЦЕБСК, ВУЛІЦА ЗАМКАВАЯ, 2. ТЭАТАР ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

У канцы 1970-х — 1980-х гадох Беларускі тэатар імя Якуба Коласа ў сваіх спэктаклях найбольш пасьлядоўна разьвіваў нацыянальныя сцэнічныя традыцыі, спрыяў узьнікненьню новай хвалі беларускага адраджэньня



«І гэты час,
І гэты лад —
Не назаўсёды».

Радкі зь песенькі Алеся Разанава на музыку Ўладзімера Кандрусевіча ў тых, хто напачатку 1980-х глядзеў спэктакль «Клемэнс» у Віцебску на сцэне Беларускага тэатру імя Якуба Коласа, гучаць увушшу і сёньня. Хоць і час зьмяніўся, і рытмы, і тэатар іншыя.

У 1980 годзе малады рэжысэр Валеры Масьлюк паставіў камэдыю літоўскага драматурга Казіса Саі «Клемэнс». Атрымаўся спэктакль пра тое, як жыхары нейкай вёскі Дзевяцібедаўкі прамянялі сваю духоўную свабоду, свае таленты й песьні на матэрыяльны дабрабыт, як паддаліся і аддаліся злой волі чужынцаў. Масьлюк адкрыта ставіў беларускі нацыяналістычны спэктакль, перакладнік Алесь Разанаў і рэжысэр далучылі зьмест літоўскай п’есы да беларускага лёсу. Гэта было і яркае, вельмі таленавітае мастацкае відовішча зь беларускімі тыпамі, гэта была і публіцыстыка — заклік да абуджэньня й прасьвятленьня.

Ужо пасьля першых паказаў спэктакль стаў культавым. Авацыямі ён суправаджаўся і ў Віцебску, і на гастролях у буйных гарадох Беларусі. Адмыслова па шмат разоў на «Клемэнса» ў Віцебск езьдзілі менскія інтэлектуалы. Цікава, што самы крамольны спэктакль, а да переменаў заставалася яшчэ дзесяцігодзьдзе, амаль ня меў праблемаў з цэнзарамі ад культуры. Успамінае загадчыца літаратурнай часткі тэатру імя Якуба Коласа **Сьвятлана Дашкевіч**:

«І вось у эпізодзе, калі бык Клемэнс набіраў сілу, а Скалнаса вёска ўжо адмаўляла, Масьлюк рабіў

мэтафарычную мізансцэну. Вяскоўцы распаўзаліся, надзеўшы на галаву гаршкі. Гаршкі пахлі малаком, таму Клемэнс не чапаў тых, хто з гаршкамі. Мізансцэна была вельмі вострая, на той час нават жудасная. Калі я глядзела спэктакль, ніяк не разумела, як можна было гэта не заўважыць цэнзарам, не прымусіць прыбраць яе. Ніхто ніякіх карэктываў у гэты спэктакль ня ўносіў».

Артысты ведалі, што яны граюць, што хочуць сказаць. Такі «Клемэнс» быў невыпадковы для коласаўскай трупы, і толькі ў гэтым тэатры ў 1980-я гады ён і мог зьявіцца. Яму папярэднічалі выразна нацыянальныя спэктаклі галоўнага рэжысэра Валера Мазынскага «Сымон-музыка» паводле Якуба Коласа, «Званы Віцебску» і «Кастусь Каліноўскі» паводле Уладзімера Караткевіча.

Коласаўскі тэатар быў адзіным, дзе акторы ня толькі са сцэны, але і за кулісамі гаварылі па-беларуску. Кіраўніцтва і ядро трупы стварылі выдатнае беларускамоўнае і свабодалюбнае асяродзьдзе ў тэатры, якое кансалідавала вакол сябе інтэлігенцыю гораду.

Гэта быў самы беларускі тэатар у Беларусі.



## «Узгор'е» ў Віцебску

# ВІЦЕБСК, ВУЛІЦА ШУБІНА, 2. СЬВЯТА-ПАКРОЎСКІ КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР

Гэта першы віцебскі будынак, які выратавалі ад зьнішчэньня сябры клюбу аматараў старажытнасьці «Ўзгор'е». Яны склалі касьцяк ініцыятыўнай групы, якой у 1988 годзе ўдалося дамагчыся скасаваньня рашэньня аб будаўніцтве Віцебскай АЭС

Калі ў 1986 годзе віцебскія ўлады заявілі, што будуць руйнаваць Пакроўскую царкву, помнік архітэктуры пачатку XVIII стагодзьдзя, а піратэхнікі нават пачалі закладаць дэтанатары, група энтузіястаў наладзіла талокі й вынесла з будынку тоны зямлі й сьмецьця. Так запачаткаваўся клюб «Узгор'е», у які ўвайшлі дзясяткі чалавек — археоляг Ігар Цішкін, лекар Міхась Паўлаў, мастацтвазнаўца Людміла Вакар, выкладчыкі Валянцін і Эсьфір Арловы, мастак Аляксандар Мемус, журналіст Сяргей Навумчык ды іншыя.

«Узгорцам» удалося ня толькі абараніць ад зьнішчэньня гістарычны цэнтар Віцебску, але і дамагчыся аднаўленьня ўжо зруйнаваных Усьпенскага сабору і Ўваскрасенскай царквы.

У 1988 годзе «Ўзгор'е» стала касьцяком ініцыятыўнай групы, якая змагалася супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС. Згадвае тагачасны карэспандэнт газэты «Віцебскі рабочы» **Сяргей Навумчык**:

> «Рашэньне аб будаўніцтве АЭС прымалі ўпотайкі, і калі я даведаўся пра яго, за адну ноч напісаў артыкул. У нашай газэце мне адмовілі, але яго запусьцілі самвыдавецкім чынам. На віцебскіх прадпрыемствах пачалі зьбіраць подпісы — сабралі некалькі дзясяткаў тысяч. Тады ж у Віцебску адбыліся першыя пікеты й затрыманьні. Першы сакратар абкаму КПБ Уладзімер Грыгор'еў вырашыў спаткацца з грамадзкасьцю і пад тэлекамэрамі паставіць «нефармалаў» на месца. Сход праводзілі ў актавай залі тэхналягічнага інстытуту. Нечакана аўдыторыя запатрабавала даць слова і праціўнікам АЭС. У мяне ўжо былі дакумэнты і вынікі экспэртызы, і ў нас атрымалася даволі эмацыйная дыскусія. Калі тэлевізійнай групе далі каманду згортваць апаратуру, я зразумеў, што мы выйгралі. Казалі, потым Грыгор'еў сам званіў у Маскву і прасіў скасаваць рашэньне аб будаўніцтве АЭС, паколькі сытуацыя ў горадзе выйшла з-пад кантролю».



У канцы 1980-х у Беларусі многія культурніцкія й экалягічныя ініцыятывы пераўтвараліся ў палітычныя.

«Такая пасьлядоўнасьць назіралася практычна паўсюль, — заўважае Сяргей Навумчык. — Спачатку абуджаліся нацыянальная сьвядомасьць, жаданьне ўратаваць культурную спадчыну. Потым даводзілася выратоўваць ужо будучыню ад экалягічнай катастрофы. І ўрэшце прыходзіла разуменьне, што дзеля ўсяго гэтага неабходныя палітычныя зьмены, але найперш — незалежнасьць Беларусі».

Ня быў выняткам і клюб «Узгор'е»: шмат хто зь ягоных удзельнікаў увайшоў у новаўтвораны БНФ, а некаторых абралі дэпутатамі саветаў розных роўняў.

## «Крыніцы» ў Наваполацку

# НАВАПОЛАЦАК,
# ВУЛІЦА БЛАХІНА, 28

У гэтым будынку ў рэдакцыі газэты «Химик» з канца 1970-х да канца 1980-х працавала літаратурнае аб'яднаньне «Крыніцы», якое стала клюбам іншадумцаў. Літаратары, мастакі, музыкі стварылі ў савецкім горадзе творчае беларускае асяродзьдзе



Каля паўтара дзясятка знаных літаратараў, сяброў Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і Беларускага ПЭН-Цэнтру, выйшлі з наваполацкага літаратурнага аб'яднаньня «Крыніцы». Гэта — Уладзімер Арлоў і Лявон Баршчэўскі, Валянціна Аксак і Сяржук Сокалаў-Воюш, Ірына Жарнасек і Якуб Лапатка, Іна Снарская і Вінцэсь Мудроў... Немалая колькасьць унутраных дысыдэнтаў, як некаторыя зь іх сябе называлі, для невялікага і касмапалітычнага гораду, якім быў Наваполацак у 1970-я — 1980-я гады.

Маладыя творцы групаваліся пры гарадзкой газэце «Химик» — не ваяўнічай у сваіх ідэалягічных пазыцыях.

Літаратурнае аб'яднаньне, якое ўзьнікла яшчэ напачатку 1970-х, з прыездам у Наваполацак пасьля заканчэньня гістарычнага факультэту БДУ Ўладзімера Арлова зьмянілася. «Крыніцы» зрабіліся літаратурна-палітычным клюбам. Літаратары і мастакі (прыкладам, Рыта і Сяргей Цімохавы) разумелі, што замінае свабодзе іхнай творчасьці. І пачалі адваёўваць у горадзе беларускую культурную прастору. Яны агітавалі за адкрыцьцё беларускамоўных клясаў, і адным зь першых вучняў такой клясы стаў сын Сяргея Сокалава-Воюша. «Крынічане» дамагліся перайменаваньня дзьвюх вуліц у гонар Янкі Купалы і Якуба Коласа. Маладыя літаратары пайшлі ў працоўныя і навучальныя ўстановы з выступамі. Сталі ладзіць экскурсіі па гістарычных мясьцінах Беларусі. Езьдзілі ў Зэльву да Ларысы Геніюш. Супраца з Наваполацкім рок-клюбам мела вынікам тое, што рок-гурты «Мясцовы час», «Грунвальд», «Рокаш», «Рамонкі» пачалі сьпяваць па-беларуску — першыя па-за Менскам.

Дзейнасьць «Крыніцаў» заўважыла ня толькі інтэлігенцыя, — кажа **Ўладзімер Арлоў:**

> **«**Мы якраз невыпадкова адчулі пільную ўвагу з КДБ. Абсалютна дакладна можна сказаць, што на кожным паседжаньні прысутнічалі інфарматары. Тым болей што некаторыя потым пакаяліся, прызналіся».

Агенты КДБ былі вымушаныя ня толькі засядаць, але й чытаць літаратурную старонку «Химика». А там друкаваліся побач з наваполацкімі літаратарамі ўжо і маладыя пісьменьнікі зь Менску, якіх не публікавалі сталічныя выданьні. Прыкладам, у «Химику» пабачылі сьвет вершы Адама Глобуса пасьля таго, як была «рассыпаная» ягоная першая кніжка.

Пры канцы 1980-х гадоў шляхі «крынічанаў» пачынаюць разыходзіцца. Уладзімер Арлоў ад'яжджае ў Менск.

«Крыніцы» натуральным чынам пачынаюць высыхаць — кажа паэтка **Ірына Жарнасек**, якая пасьля Арлова яшчэ некалькі гадоў кіравала аб'яднаньнем:

> «Проста не было ў той час новых літаратараў, новых цікавых сілаў, якія прыходзілі й прыходзілі б. Так і сканалі «Крыніцы». Сканала газэта «Химик», пры якой існавала аб'яднаньне. «Крыніцы» — зьява свайго часу».

Але іхная жыватворная вада наталіла смагу творчых і нацыянальна сьведамых людзей на шмат гадоў наперад.



## Вярхоўны Савет 12 скліканьня ў Доме ўраду

### МЕНСК, ВУЛІЦА САВЕЦКАЯ, 11. ДОМ УРАДУ. АВАЛЬНАЯ ЗАЛЯ

У Авальнай залі Дому ўраду Вярхоўны Савет БССР 12 скліканьня абвясьціў незалежнасьць Беларусі. У Эўропе паўстала дзяржава Рэспубліка Беларусь

Беларусы добра ведаюць, як выглядае Авальная заля, хоць мала хто там быў. Вырашальныя для лёсу дзяржавы падзеі, якія там адбываліся ў пару Вярхоўнага Савету 12 скліканьня, наўпрост трансьляваліся тэлевізіяй.

Людзі памятаюць, як падыходзілі да мікрафонаў дэпутаты, як горача адстойвалі свае пазыцыі, бачылі іхныя сьлёзы радасьці й роспачы. Ад аднаго дэпутацкага голасу магла залежаць будучыня і краіны, і кожнага беларуса.

Так і было, прыкладам, пры зацьверджаньні бел-чырвона-белага сьцяга ў якасьці дзяржаўнага. Узгадвае лідэр Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце **Зянон Пазьняк**:

> «Я памятаю апошняе галасаваньне. Я адчуваў, што зноў не набяром адзін-два галасы. І гэта ўжо будзе канец. І тады я падышоў да аднаго намэнклятурнага камуніста, узяў яго за руку і, гледзячы ў вочы, сказаў: «Я вас вельмі прашу: прагаласуйце за сьцяг. Дзеля нашай будучыні... Мы ж беларусы...» Ён быў агаломшаны, але ж гэта быў прыстойны чалавек. І ён сказаў: «Добра, прагаласую». І прагаласаваў. Трэба было набраць 231 голас, і калі на табло зьявілася лічба 231, я страціў прытомнасьць. Прыйшоў у сябе хутка, і мяне тут жа пацягнулі на плошчу. Там стаяла, можа, тысячы дзьве людзей. Трэба было выступаць. Я пачаў нешта гаварыць, і ў мяне пацяклі сьлёзы. Як ні дзіўна, гэтага ніхто не заўважыў, бо плакалі многія».

У гэтай самай Авальнай залі 27 ліпеня 1990 году ў выніку вельмі драматычнага абмеркаваньня, калі апазыцыя скарыстала разгубленасьць камуністаў,



была прынятая Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце. А пасьля правалу маскоўскага путчу 25 жніўня 1991 году Вярхоўны Савет надаў ёй канстытуцыйны статус і распусьціў КПБ-КПСС. Менавіта ў гэтай залі была юрыдычна ўтвораная дзяржава Рэспубліка Беларусь.

Авальная заля памятае і дні гонару нацыі, і дні ганьбы. Тут былі зацьверджаныя ў якасьці дзяржаўных беларуская мова, бел-чырвона-белы сьцяг, герб «Пагоня». І тутсама антыбеларускія сілы бралі рэванш, галасуючы за антыканстытуцыйныя рэфэрэндумы, якія скасоўвалі гэты статус.

Тут 11 красавіка 1995 году 19 дэпутатаў апазыцыі БНФ распачалі галадоўку супраць незаконнага рэфэрэндуму, які ініцыяваў Аляксандар Лукашэнка. Уначы супраць дэпутатаў увялі ўзброеных вайскоўцаў у масках. Тыя зьбілі парлямэнтароў і гвалтам выцягнулі з залі. Сьледзтва ў крымінальнай справе за зьбіцьцё дэпутатаў было заблякаванае прэзыдэнцкай уладай.

Пасьля сканчэньня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету 12 скліканьня ў студзені 1996 году ўся ўлада ў Беларусі пераходзіць пад кантроль Лукашэнкі, а спроба групы дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13 скліканьня абвясьціць у гэтай залі імпічмэнт прэзыдэнту цярпіць паразу.

# Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце

## МЕНСК, ВУЛІЦА САВЕЦКАЯ, 11, ПАКОЙ 363

У гэтым пакоі знаходзіўся працоўны кабінэт дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, якая адыграла вырашальную ролю пры абвяшчэньні незалежнасьці Рэспублікі Беларусі ды стварэньні асноваў дэмакратычнага заканадаўства



Раніцай 19 жніўня 1991 году, калі пад музыку Пятра Чайкоўскага Савецкі Саюз даведаўся пра путч у Маскве, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня сабраліся ў сваім кабінэце ў Доме ўраду. І адразу ж пачалі пісаць звароты й адозвы, у тым ліку патрабаваньне, каб прэзыдыюм Вярхоўнага Савету асудзіў пераварот.

Успамінае былы дэпутат **Алег Трусаў**:

> «У часы путчу гэта было першае ў Беларусі месца, адкуль пачалося змаганьне з ГКЧП. У гэтым кабінэце мы напісалі першую адозву да беларусаў і тут жа запусьцілі яе ў народ. З гэтага кабінэту Сяргей Навумчык пайшоў з дыктафонам да Дземянцея. З гэтага кабінэту ўсталявалі сувязь са штабам Ельцына. Мы атрымлівалі падрабязную інфармацыю пра тое, як у Маскве разьвіваюцца падзеі. Факсам нам дасылалі адозвы дэмакратаў. У нас цесныя былі кантакты зь імі. Калі б прайграла Масква, дык і Менск элементарна б задушылі».

Калі ж хунта пацярпела паразу, дэпутаты зразумелі, што атрымалі рэальны шанец павярнуць ход гісторыі. Тры дні і тры ночы, з 21 па 24 жніўня, яны амаль не пакідалі свайго штабу — пакою № 363. Яны падрыхтавалі пакет дакумэнтаў, ухваленьне якіх парлямэнтам зрабіла б незалежнасьць Беларусі рэальнасьцю. Найперш — наданьне Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце канстытуцыйнай сілы і роспуск камуністычнае партыі. Пад ціскам апазыцыйных дэпутатаў і пры магутнай падтрымцы дзясяткаў тысяч людзей, якія сабраліся на плошчы, Вярхоўны Савет увечары 25 жніўня прагаласаваў за гістарычныя дакумэнты.

У прасторным пакоі на трэцім паверсе Дому ўраду

26 дэпутатаў Апазыцыі БНФ падрыхтавалі дзясяткі законапраектаў — юрыдычную аснову незалежнасьці краіны, рынкавай эканомікі, разьвіцьця нацыянальнай культуры, гарантыяў правоў чалавека. У тым ліку — свае варыянты Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце й Канстытуцыі краіны. У гэтым пакоі яны зьбіраліся і на кароткіх перапынках у паседжаньнях, каб узгадніць тактыку паводзінаў у Авальнай залі. Сюды прыходзілі, каб абмяркоўваць законапраекты, іншыя дэмакратычныя дэпутаты, таксама дзясяткі экспэртаў — выдатныя навукоўцы ў розных галінах, юрысты, фінансісты, генэралы, людзі літаратуры й мастацтва.

Натуральна, кабінэт апазыцыі быў пад пільным вокам КДБ. Але дэпутаты працавалі без асаблівых таямніцаў, таму нават жартам казалі: добра было б, каб «праслушкі» захавалі для гісторыі ўсе дыскусіі, што адбываліся ў пакоі.



## Менскі гарадзкі Савет

### МЕНСК, ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 8

5 верасьня 1991 году над гэтым будынкам, дзе працаваў Менскі гарадзкі Савет, упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі быў афіцыйна ўзьняты ў якасьці нацыянальнага сымбалю бел-чырвона-белы сьцяг. Дэпутаты выкасавалі імя Леніна з назвы плошчы і галоўнага праспэкту сталіцы

Ажно два верасьнёўскія тыдні 1991 году ў Менску на плошчы імя Леніна на двух уладных будынках луналі розныя сьцягі. Над Домам ураду — дзяржаўны сьцяг БССР, а насупраць, над будынкам гарсавету — адразу два: афіцыйны бээсэсэраўскі й нацыянальны бел-чырвона-белы.

Тады ў гарадзкім Савеце была іншая раскладка сілаў, чым у Вярхоўным. Камуністаў — меней за палову, і нават калі да іх далучаліся кіраўнікі прадпрыемстваў ці настаўнікі, у іх усё роўна не было дзьвюх трацінаў галасоў, каб прымаць найважнейшыя рашэньні. Таму дэпутаты ад БНФ разам з шэрагам калегаў Дэмакратычнай плыні мелі магчымасьць уплываць на дэпутацкі корпус. А калі галасавалі патаемна, дык шмат што атрымлівалася значна хутчэй, чым у Вярхоўным Савеце.

Ва ўмовах татальнага шальмаваньня нацыянальных сымбаляў змаганьне за тое, каб у Менску разам з сымболікай БССР выкарыстоўвалася і нацыянальная — бел-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоня — было нялёгкае. Каб пераканаць дэпутатаў, запрасілі гісторыкаў Міхася Ткачова і Анатоля Цітова. Артадоксы з прэзыдыюму стаялі мёртва: не ўключаць пытаньне ў парадак дня сэсіі. Аргумэнтам у іх было і тое, што такога рашэньня не прыняў Вярхоўны Савет. Тады ўключылі пытаньне ў парадак дня шляхам галасаваньня ўсіх дэпутатаў. І 5 верасьня гістарычнае рашэньне было прынятае.

Успамінае тагачасны дэпутат Менскага гарсавету, дырэктар музэю імя Максіма Багдановіча **Алесь Бяляцкі**:

«Ведаючы, што гэтае рашэньне, верагодна, будзе прынятае, я перад паседжаньнем гарсавету забег у музэй, узяў бел-чырвона-белы сьцяг, які стаяў у нас заўсёды ў фае, прыйшоў у гарсавет, пакінуў гэты сьцяг каля міліцэйскага паста і пайшоў на паседжаньне. І калі праз адну-дзьве гадзіны было прынятае рашэньне, то я хутка зьбег да паста міліцыянта і літаральна празь дзьве хвіліны ўнёс гэты сьцяг у дэпутацкую залю. Сьцяг быў сустрэты воплескамі і неадкладна вывешаны над будынкам гарсавету. Вось такім чынам бел-чырвона-белы сьцяг з музэю Багдановіча перакачаваў на Менскі гарсавет».



Два сьцягі правіселі над Менскім гарсаветам два тыдні, аж пакуль 19 верасьня Вярхоўным Саветам ня быў зацьверджаны ў якасьці дзяржаўнага бел-чырвона-белы сьцяг.

5 верасьня 1991 году дэпутаты вярнулі Менску і яго гістарычны герб. А на наступны дзень прынцыпова было вырашана перайменаваць плошчу Леніна і Ленінскі праспэкт, якія неўзабаве сталі называцца плошчай Незалежнасьці і праспэктам Францішка Скарыны.

## Менскі страйк 1991 году

# МЕНСК,
# ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Тут 4 красавіка 1991 году адбыўся самы магутны ў гісторыі Беларусі выступ працоўных у абарону сваіх сацыяльна-эканамічных правоў. Страйк, у якім узяла ўдзел сотня тысячаў менскіх рабочых, перарос у агульнанацыянальны, які доўжыўся некалькі дзён



Такога відовішча Менск раней ня бачыў. З уласнай волі, а не пад гукі барабанаў, як у савецкія часы на кастрычніцкую дэманстрацыю, з усіх канцоў гораду ў цэнтар плылі шматтысячныя калёны рабочых у працоўных вопратках. Яны злучаліся на самай вялікай плошчы гораду — імя Леніна. Магчыма, у той дзень яна зьмясьціла больш як сто тысячаў чалавек.

Адзін з арганізатараў усебеларускага страйку ў красавіку 1991 году, рабочы лідэр, дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня **Сяргей Антончык** успамінае:

> «І калі я бачыў, як ідзе праз мост цёмная хмара людзей з «Інтэгралу», як ідуць калёны з трактарнага, аўтазаводу, то было адчуваньне вялікага сьвята свабоды. Людзі адчулі сябе людзьмі. У Беларусі гэтага ніколі не было. Беларусь заўсёды была ціхая, спакойная, пракамуністычная краіна ў складзе СССР. А ў гэты момант людзі адчулі сябе нібы тыя беларускія ваяры, якія змагаліся за незалежнасьць. Тыя як бы нарадзіліся зноў у выглядзе гэтых рабочых. Было шчасьце свабоды, лёгкасьці, што мы можам патрабаваць і дамагацца выкананьня нашых правоў».

Вогнішча незадаволенасьці працоўных сваім сацыяльна-эканамічным станам ужо тлела, але моцная падвышка цэнаў увесну стала той жарынкай, каб яно палыхнула.

Пачаўся страйк стыхійна, у цэхах і на заводзкіх прахадных. А затым кантроль узялі ў свае рукі сябры БНФ, актывісты Рабочага Саюзу, альтэрнатыўныя рабочыя лідэры, што ўжо былі на многіх прадпрыемствах Мен-

ску і Беларусі, — Марыя Аліева, Сяргей Антончык, Генадзь Быкаў, Алесь Галькевіч, Віктар Івашкевіч, Георгі Мухін, Міхась Собаль, Генадзь Фядыніч. Яны і прывялі людзей на плошчу імя Леніна, да Дому ўраду.

Спачатку патрабаваньні былі эканамічныя, а затым і палітычныя — адстаўка ўрадаў СССР і БССР, скасаваньне парткамаў на прадпрыемствах, рэгістрацыя БНФ, адмена выплатаў Беларусі ў саюзны бюджэт (у сувязі з Чарнобылем), новыя выбары ў Вярхоўны Савет. Мітынг доўжыўся цэлы дзень. У натоўпе залуналі бел-чырвона-белыя сьцягі. Паступалі зьвесткі, што да страйку далучаюцца рабочыя іншых гарадоў. Рабочыя спачатку настроеныя былі вельмі рашуча.

Улады пачалі рэагаваць. Дэлегацыю рабочых запрасілі на размову ў Вярхоўны Савет. Урад Кебіча-Мясьніковіча пайшоў на інфляцыйнае падвышэньне заробкаў. На наступны дзень прыйшло значна меней людзей, праз дзень — яшчэ меней. Страйк пайшоў на спад, пакуль не затух зусім.

І тым ня меней лідэры рабочага руху лічаць той страйк перамогай. Сяргей Антончык перакананы:

> «Гэта і быў момант свабоды. І гэта была адметная для Беларусі падзея, не падобная да падзеяў, што адбываліся ў іншых савецкіх рэспубліках. Кампартыя Беларусі так ніколі й не паднялася пасьля гэтага. Гэта быў наймацнейшы ўдар па камуністычнай сыстэме. Па-другое, частка той кебічаўскай намэнклятуры так і не вярнулася ў сваё лона правіцеляў. Яны зразумелі, што мацнейшы за ўсё — народ. І пасьля страйку пачаліся сур'ёзныя спробы рэфармаваць беларускую эканоміку й беларускую палітыку».



## Блякада чыгункі ў Воршы

**ВОРША, ПРЫВАКЗАЛЬНАЯ ПЛОШЧА. ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ**

23—26 красавіка 1991 году жыхары Воршы блякавалі чыгуначны вузел на знак пратэсту супраць пагаршэньня свайго эканамічнага стану

Вясна 1991 году. Яшчэ існуе Савецкі Саюз, але ўрад яго ўжо ня ў стане справіцца з эканамічнымі праблемамі. Растуць цэны, з крамаў зьнікае самае неабходнае.

Напальваецца атмасфэра ў Воршы. Моцная гарадзкая арганізацыя БНФ становіцца ініцыятарам утварэньня гарадзкога страйкаму, усьлед за якім паўстаюць страйкамы амаль на ўсіх буйных прадпрыемствах гораду. Гарадзкія ўлады, якія ня могуць стрымаць абурэньне людзей, нават выдзяляюць страйкаму памяшканьне. Людзі ахвотна здаюць грошы на выданьне газэты «Рабочая воля».

Мітынгі адбываюцца штодня. Але ад размоваў і крыкаў нічога не мяняецца. І аршанцы ідуць на радыкальны крок. 24 красавіка з прывакзальнай плошчы, дзе адбываўся чарговы мітынг, шматтысячны натоўп выходзіць на рэйкі. Адзін з найбуйнейшых чыгуначных вузлоў СССР, дзе перасякаюцца шляхі з поўдня на поўнач і з захаду на ўсход, цалкам блякуецца. У пастцы апынуліся дзясяткі таварных і пасажырскіх цягнікоў.

Страйкам рашэньня аб блякадзе не прымаў, бо разумеў маштабы наступстваў і адказнасьці. Блякада пачалася стыхійна, але далей ёю трэба было кіраваць. Вузел быў заблякаваны ў трох месцах — на станцыях «Ворша-Цэнтральная», «Ворша-Ўсходняя» і «Ворша-Заходняя». Доўжылася яна бесьперапынна тры дні, людзі сядзелі на рэйках зьменамі, — расказвае сябра страйкаму **Віктар Андрэеў**:

> «Сабралі вельмі многа міліцыі, але сіла ніякая не ўжывалася. Яны проста шчыльнымі шэрагамі сталі. А людзей было вельмі шмат. У самым вакзале было вылучанае памяшканьне для паседжаньняў страйкаму. З аднаго боку вакзалу — пакой страйкаму, а з другога боку — пакой, у якім сядзелі КДБ і міліцыя. Вось так праз дарогу і кантактавалі, хто якое рашэньне прыняў».



На трэці дзень кіраўнікоў страйкаму запрасілі ў Менск у Вярхоўны Савет, але перамовы ня мелі выніку. І ў Воршы падзеі зайшлі ў глухі кут. Ні страйкоўцы, ні ўлады ня ведалі, што рабіць далей. Сябры страйкаму таксама ня мелі адзінства. Старшыня Мікалай Разумаў прапаноўваў стаяць да перамогі. Але ня мог патлумачыць, да якой. Іншыя лічылі, што трэба прыгожа разысьціся, бо відавочным было, што беларускія ўлады ня могуць самі без Масквы задаволіць іхныя эканамічныя патрабаваньні. А палітычных патрабаваньняў аршанцы ня мелі й праз тры дні разышліся.

На прадпрыемствах пачаліся ганеньні на актыўных удзельнікаў блякады. Пракуратура распачала крымінальную справу. Але неўзабаве сканаў СССР, і справа была закрытая.

## Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў

# МЕНСК, ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 4

У будынку Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту 20 жніўня 1991 году адбыўся арганізацыйны сход для ўтварэньня Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якое мела на мэце спрыяць стварэньню ўласнага беларускага войска. У 1993 годзе Згуртаваньне было зьліквідаванае ўладамі



На мяжы 1980-х — 90-х гадоў у Беларусі, якая была яшчэ у складзе СССР, пачалі гуртавацца беларускія афіцэры, якія марылі пра самастойнае беларускае войска ў самастойнай беларускай дзяржаве. На восень 1991 году склікалі ў Менску сход афіцэраў, і раптам грымнуў путч у Маскве.

Раніцай 20 жніўня група афіцэраў і прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў сабраліся ў адной з аўдыторыяў БДУ. Прынялі рашэньне аб’яднаць усе патрыятычныя групоўкі вайскоўцаў у адно «Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў», напісалі зварот да вайскоўцаў Беларускай ваеннай акругі не выконваць загады ГКЧП. Празь некалькі гадзінаў старшыня наваствoранай арганізацыі падпалкоўнік Мікола Статкевіч на плошчы Леніна на мітынгу пратэсту супраць ГКЧП абнародаваў гэты зварот. Пазьней стала вядома, што супраць Статкевіча адразу ж была заведзеная крымінальная справа паводле расстрэльнага артыкулу аб здрадзе радзіме. На наступны дзень абрынулася хунта — зьнікла і справа.

У той самы дзень улёткі са зваротам, якія размножыў сябра БНФ Сяргей Міхноў на абсталяваньні Рэспубліканскага страйкавага камітэту, раздавалі ля вайсковых частак. Быў наладжаны кантроль за дарогамі, па якіх маглі перамяшчацца войскі.

Неўзабаве БЗВ падало ў Вярхоўны Савет законапраект аб утварэньні беларускага войска. Была створаная дэпутацкая камісія, у якую ўвайшоў і Статкевіч, але закон прайшоў толькі з чацьвертай спробы, у 1992 годзе. Калі войска было ўтворанае, узьніклі іншыя праблемы — рабіліся перашкоды для вяртаньня на радзіму афіцэрам-беларусам, а ў новым беларускім

войску не прымалася прысяга на вернасьць сваёй адроджанай краіне.

8 верасьня 1992 году, у дзень масавага сьвяткаваньня перамогі беларускага войска над маскоўскім пад Воршай у 1514 годзе, на плошчы Незалежнасьці БЗВ наладзіла прыняцьцё прысягі на вернасьць Беларусі. Прымалі яе ў параднай форме блізу дзесяці афіцэраў. Але на плошчы стаялі сотні вайскоўцаў запасу, якія прынялі прысягу ўсьлед за імі.

У канцы 1991 году актывісты БЗВ напісалі кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі «Забытая слава» і надрукавалі яго ва ўсіх буйных газэтах. Прачыналася нацыянальная памяць.

Згуртаваньне стала першай арганізацыяй, якая пасьля атрыманьня незалежнасьці была забароненая, — кажа **Мікола Статкевіч**:

> «Нас забаранілі пасьля таго, як мы ў 1993 годзе правялі марш за незалежнасьць, бо тады Кебіч пачаў весьці перамовы з Масквой аб увядзеньні адзінай валюты. Тысячы вайскоўцаў, пераважна запасу, з шаўронамі, пад барабанны пошчак 25 сакавіка прайшлі па галоўным праспэкце Менску. Для ўладаў гэта быў шок. Перамовы былі спыненыя, а БЗВ пачалі ліквідаваць. Таксама былі ўнесеныя папраўкі ў закон аб статусе вайскоўцаў, ім забаранялася займацца грамадзка-палітычнай дзейнасьцю. Потым мы выступілі супраць дамовы аб калектыўнай бясьпецы. Мяне за гэта выключылі з войска — за „дыскрэдытацыю званьня афіцэра“».



## Нацыянальны сьцяг над Віцебскам

### ВІЦЕБСК, ПЛОШЧА СВАБОДЫ

На плошчы Свабоды з 19 да 21 жніўня 1991 году віцебскія дэмакратычныя актывісты ладзілі акцыі пратэсту супраць спробы дзяржаўнага перавароту. На Ратушы быў вывешаны нацыянальны беларускі сьцяг

Калі 19 жніўня 1991 году ў Маскве адбылася спроба дзяржаўнага перавароту, разьлік путчыстаў быў на татальны страх.

Але 19 чалавек у Віцебску знайшлі сьмеласьць кінуць выклік уладзе, заявіць, што ня хочуць вяртаньня ў савецкі канцлягер, што ГКЧП — незаконны. Свой пратэст сябры клюбу «За дэмакратычныя выбары» наладзілі на плошчы Свабоды, насупраць будынку абкаму партыі, — успамінала **Алена Залеская:**

> «Надзела чаравікі на нізкім абцасе — а раптам уцякаць давядзецца? — і пайшла. Акружыла нас міліцыя. Але што рабіць з намі, яны ня ведалі. У іх не было каманды нас затрымліваць. Яны проста ўсіх нас перапісалі. А народ на нас кідаўся, абзываў усялякімі словамі».

Тыя два дні, калі ў Савецкім Саюзе спрабавала кіраваць хунта, абвастрылі пратэставыя настроі дэмакратычна арыентаваных людзей і далі імпульс да дзеяньняў нацыянальным сілам. Тады ж над Віцебскам залунаў бел-чырвона-белы сьцяг, які ўзьняў, як прызнаўся пазьней, мастак Алесь Пушкін, а пашыла сьцяг Алена Залеская:

> «А на наступны дзень мы сьвяткавалі перамогу. Мы падышлі да абкаму партыі, запалілі сьвечкі ў памяць пра загінулых у Маскве. У мяне ў руках былі два маленькія сьцяжкі — бел-чырвона-белы й расейскі, таксама самой пашыты, я сініла белую тканіну. Да мяне падышоў Пушкін і пытаецца, а ці не магла б я пашыць вялікі бел-чырвона-белы сьцяг. Я кажу, што ў мяне чырвонай тканіны мэтры тры ёсьць, а белай — няма. Тады ж увогуле ў крамах ніякай тканіны не было. Ён павёў мяне да сябе ў майстэрню. Адарваў вялікі кавалак белай тканіны. Я прыйшла дамоў, пашыла на машынцы сьцяг. Позна ўвечары прыйшоў Пушкін, забраў сьцяг».



Успамін спадарыні Залескай, якой, на жаль, ужо няма сярод нас, працягвае **Алесь Пушкін**:

> «Раніцай, прыкладна а 4-й гадзіне, я падняўся па сходах ратушы (тады можна было зайсьці на гэты аб'ект, бо ішла рэстаўрацыя) аж да самага верху, на гарышча. Але люк, праз які можна выйсьці навонкі, быў замкнёны. Давялося зьбіць замок. Так я апынуўся на самым версе ратушы, на балькончыку, дзе цяпер пляцоўка для агляду. Усталяваў сьцяг. Прывязаў да дрэўка пару трансфарматараў, напісаў цыдулку «Замінавана! Не падыходзіць!» Зачыніў люк на свой замок, па які давялося зьбегаць у сваю майстэрню. Ключ выкінуў у Дзьвіну».

Бел-чырвона-белы сьцяг над ратушай правісеў амаль да самага вечара. Міліцыянты, напэўна ж, доўга баяліся яго здымаць. Спадарыня Алена і Алесь моцна радаваліся. А вэтэраны партыі, якіх сабралі на плошчы, моцна абураліся.

Менавіта плошчу Свабоды віцебскія незалежнікі й дэмакраты абіралі ўякасьці месца свайго змаганьня. Яна ня раз апраўдвала сваю назву.

# Выгнаньне камуністаў у 1991 годзе

МЕНСК,
ВУЛІЦА КАРЛА МАРКСА, 38

26 жніўня 1991 году ля гэтага будынку, у якім знаходзіўся ЦК КПБ, адбыўся масавы антыкамуністычны мітынг. Лідэры БНФ прымусілі камуністычнае кіраўніцтва вызваліць будынак і спыніць дзейнасьць КПСС на тэрыторыі Беларусі



Камуністы заставаліся ў сваім галоўным будынку і пасьля правалу путчу 21 жніўня 1991 году.

24 жніўня сотні людзей удзельнічалі ў пэрформансе «Пахаваньне камунізму». Па цэнтральных вуліцах сталіцы прайшла працэсія з чырвонай труной, аздобленай зоркамі. Людзі несьлі вянкі й партрэты заснавальнікаў камуністычнай ідэалёгіі.

25 жніўня амаль цалкам запоўненая людзьмі плошча Леніна бурна адрэагавала на рашэньне Вярхоўнага Савету 12 скліканьня аб часовым прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі. А на наступны дзень, бліжэй да 17-й гадзіны, тысячы людзей суправаджалі дэпутатаў Сяргея Антончыка, Валянціна Голубева й Сяргея Навумчыка, якія выправіліся да будынку ЦК КПБ праверыць, як выконваецца пастанова Вярхоўнага Савету. Кімсьці кінутая фраза «ідзем выганяць нячыстую сілу» стала ляйтматывам настрою людзей, якія акружылі «цытадэль камунізму» на вуліцы Карла Маркса.

Кіраўніцтва ЦК КПБ, нягледзячы на тое, што ў будынку ўжо была адключаная ўрадавая сувязь, працягвала тым часам кіпучую дзейнасьць, — узгадвае **Сяргей Навумчык:**

> «Разам зь Сяргеем Антончыкам і Валянцінам Голубевым мы прайшлі ў будынак ЦК, каб праверыць, як выконваеца пастанова Вярхоўнага Савету аб прыпыненьні дзейнасьці камуністычнай партыі. І ў кабінэце першага сакратара ЦК убачылі Анатоля Малафеева, які разам з паплечнікамі складаў зварот да камуністаў. «Штаб», хаця і ў абсечаным складзе, працаваў. Мы спынілі гэтую незаконную

дзейнасьць. А потым разам зь Зянонам Пазьняком я спусьціўся ў сутарэньні — аказалася, што там палілі дакумэнты. Печкі яшчэ былі цёплыя. І першае, што я падняў з падлогі, — «плян стварэньня Народнага Фронту ў апярэджаньне «нефармалам», а другое — паперы з уласнаручнымі рэзалюцыямі П. Машэрава. Гэтыя дакумэнты і цяпер у мяне. Выглядае, як і шмат што іншае, «плян» камуністы правалілі, мы іх апярэдзілі, ну а машэраўскія дакумэнты на сьметніку — праява стаўленьня цэкоўцаў да свайго колішняга правадыра».

Сяргей Навумчык, калі выйшаў з будынку, прадэманстраваў гэтыя дакумэнты народу пад абуральны сьвіст.

Так закончылася ў Беларусі ўладарства камуністаў. Але сам чырвоны дом, у будаўніцтве якога бралі ўдзел і нямецкія ваеннапалонныя, на доўгія гады па-ранейшаму застаўся цэнтрам несвабоды й таталітарызму. Відаць, не да канца выгналі тады нячысьціка.



## Віскулі — пачатак новай эры

### ПРУЖАНСКІ РАЁН, БЕЛАВЕСКАЯ ПУШЧА. РЭЗЫДЭНЦЫЯ «ВІСКУЛІ»

8 сьнежня 1991 году тут кіраўнікі Беларусі, Расеі і Ўкраіны — Станіслаў Шушкевіч, Барыс Ельцын і Леанід Краўчук — падпісалі пагадненьні аб ліквідацыі Савецкага Саюзу і аб утварэньні Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў. Беларусь стала самастойнаю дзяржаваю

Найвялікшая, вызначальная для гісторыі Беларусі падзея адбылася 8 сьнежня 1991 году ў Белавескай пушчы, недалёка ад былога хутару Віскулі.

Сюды, на самы край тагачаснага СССР, далей ад сталічнага тлуму й ціску, прыехалі кіраўнікі Беларусі, Украіны й Расеі Станіслаў Шушкевіч, Леанід Краўчук і Барыс Ельцын.

Краіна, якая займала адну шостую частку зямной паверхні, якая 69 гадоў будавала рай на зямлі, а збудавала турму народаў, зайшла ў тупік. Ні ў якія спробы касмэтычнага рамонту (кшталту пераўтварэньня яе ў саюз сувэрэнных сацыялістычных дзяржаваў) ні кіраўнікі рэспублікаў, ні людзі пасьля спробы камуністычнага путчу ўжо ня верылі. Распад Саюзу непазьбежны — паразумеліся кіраўнікі трох рэспублікаў-заснавальніцаў СССР, трэба толькі гэта юрыдычна аформіць.

Над дакумэнтамі пачалі працаваць 7 сьнежня ўвечары, а наступнай раніцай падпісалі дамовы, якія канстатавалі спыненьне існаваньня СССР і ўтварэньне Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў.

Далей трэба было інфармаваць прэзыдэнта СССР, што такой краіны больш няма, і, натуральна, міжнародную супольнасьць. Ельцын меўся званіць Джорджу Бушу, Шушкевіч — Міхаілу Гарбачову. І так сталася, што хутчэй датэлефанаваліся да амэрыканскага прэзыдэнта, чым да савецкага, — узгадвае **Станіслаў Шушкевіч:**

> **«**Калі я яму сутнасьць заявы расказаў, ён кажа: «А вы можаце сабе ўявіць, як на гэта паглядзіць міжнародная супольнасьць?! Вы ж ведаеце, што яны Саюз успрымаюць толькі цалкам?!» І аргумэнт гэты быў вельмі моцны. Незадоўга перад гэтым Буш быў у Кіеве і заяўляў, што яны ўспрымаюць СССР як цэльную структуру, якая валодае атамнай зброяй. Я кажу Гарбачову: «А вы ведаеце, нармальна ўспрымае, Барыс Мікалаевіч яму сказаў, і ён вітае, віншуе». Была нямая сцэна, і мы разьвіталіся з Гарбачовым».



Вынікам Белавескіх дамоваў стала, як кажа Станіслаў Шушкевіч, «цывілізаваная ліквідацыя шлюбу, гвалтоўна заключанага. І я перакананы, што гэтая задача выкананая самым дасканалым чынам. Упершыню за дзьвесьце гадоў кіраўнік Расеі, законна, дэмакратычна абраны прэзыдэнт (яго жартам заўсёды называлі «Цар Барыс») падпісаў пагадненьне, што Расея прызнае незалежнымі Беларусь і Украіну. І гэтае пагадненьне ён падаў Вярхоўнаму Савету Расейскай Фэдэрацыі такім чынам, што яно было ратыфікаванае».

Так перад Беларусьсю адкрыўся шлях самастойнага дзяржаўнага разьвіцьця.

## 75-я ўгодкі БНР

# МЕНСК, ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 50

25 сакавіка 1993 году ў Канцэртнай залі Беларускай дзяржаўнай філярмоніі быў урачыста адзначаны Дзень Незалежнасьці. Ва ўрачыстым паседжаньні, прысьвечаным 75-м угодкам незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, узялі ўдзел старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі Станіслаў Шушкевіч і старшыня Рады БНР Язэп Сажыч



Да і пасьля 1993 году Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка сьвяткаваўся нелегальна ці нягледзячы на забарону, не зважаючы на міліцэйскія дубінкі, сабак, аўтазакі й нават бронетранспартэры.

Але 75-годзьдзе незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі публічна і ўрачыста, з дазволу ўладаў і пры ўдзеле асобных кіраўнікоў дзяржавы. Магчыма, таму, што ўлады хацелі перацягнуць у лягер сваіх прыхільнікаў лідэраў эміграцыі. На сьвяткаваньне са Злучаных Штатаў прыехаў старшыня Рады БНР Язэп Сажыч.

Урачысты сход адбыўся ў самым цэнтры Менску, у канцэртнай залі Беларускай дзяржаўнай філярмоніі. Сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту прафэсар **Анатоль Грыцкевіч** успамінае:

> «Гучалі нацыянальныя беларускія песьні. Быў выкананы беларускі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Калі хор пачаў сьпяваць, усе ўсталі. І я бачу, як Сажыч нават не разумее, дзе ён знаходзіцца. Гэта было сапраўды захапляльна. Але самае галоўнае, што гэта быў той час, калі наш нацыянальны рух быў на ўздыме».

Заля была перапоўненая. Многія не маглі паверыць, што разам на сцэне будуць кіраўнік Рэспублікі Беларусі — старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, кіраўнік ураду ў выгнаньні — старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп Сажыч і прэтэндэнт на кіраваньне краінай — старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. І тое, што яны былі разам, дадавала ўздыму людзям у залі, — кажа акадэмік **Радзім Гарэцкі**:

«Гэта якраз было сьведчаньнем таго, што нарэшце беларусы ня сварацца паміж сабой, як часта гэта бывае, а адным фронтам уздымаюцца да сваёй ідэі, сваёй мэты. Тады ўсе больш думалі пра Беларусь, яе незалежную будучыню. Галоўнае было: «Жыве Беларусь!» Уся філярмонія размаўляла па-беларуску, ніхто не гаварыў па-расейску. Гэта ж выдатна!»

Тым ня меней 25 Сакавіка не было дзяржаўным сьвятам, і, як кажа тагачасны міністар замежных справаў **Пятро Краўчанка,** ані разу ўрад нават не абмяркоўваў гэтага пытаньня:

«Але пэрспэктывы былі, калі б не прыйшоў да ўлады Аляксандар Лукашэнка. Ужо ішло ўсё да таго, каб «легалізаваць» БНР і даць даце 25 Сакавіка дзяржаўны маштаб. Я думаю, што праз трыпяць гадоў сьвяткавалі б Дзень Волі як дзяржаўнае сьвята».

Замест гэтага праз тры-пяць гадоў тых, хто асьмельваўся сьвяткаваць Дзень Незалежнасьці, зьбівалі, кідалі ў турмы, судзілі. Сярод будучых вязьняў былі і тыя, хто 25 сакавіка 1993 году ў філярмоніі стоячы вітаў гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».



## Першы зьезд беларусаў сьвету

# МЕНСК, ПЛОШЧА ПАРЫСКАЙ КАМУНЫ, 1

У будынку Вялікага тэатру опэры і балету 8-10 ліпеня 1993 году адбыўся Першы зьезд беларусаў сьвету, які выказаўся за паяднаньне беларускай нацыі, кансалідацыю беларусаў дзеля нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва й росквіту культуры

Цягам трох ліпеньскіх дзён 1993 году і тыя беларусы, што жывуць у сваёй краіне, і тыя, каго бязьлітасная гісторыя раскідала па сьвеце, шчыра верылі ў рэальнасьць яднаньня на любові да радзімы. У звароце беларусаў замежжа, удзельнікаў зьезду да беларускага народу гаварылася: «Божай воляй мы дачакаліся часу, калі можам зьяжджацца з цэлага сьвету ў цудоўны край свайго паходжаньня, на свае вочы аглядаць яго, адчуваць пульс ягонага жыцьця, разам цешыцца і разам хвалявацца ды супольнымі намаганьнямі шукаць выйсьця зь няпростага становішча».

У Менску, сталіцы нядаўна абвешчанай незалежнай дэмакратычнай дзяржавы, упершыню ў пасьляваеннай гісторыі сабраліся разам каля тысячы беларусаў з усёй зямлі. Першы зьезд беларусаў сьвету адбыўся ў найлепшай залі краіны — Вялікім тэатры опэры і балету. У прэзыдыюме былі старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, міністры. Зьезд віталі Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк.

Бальшыня замежных удзельнікаў, якіх яшчэ нядаўна называлі ворагамі, калябарантамі, упершыню прыехалі ў Беларусь пасьля дзесяцігодзьдзяў жыцьця на чужыне. Успамінае акадэмік **Радзім Гарэцкі,** якога на зьезьдзе абралі прэзыдэнтам Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»:

> «Многія плакалі, цалавалі зямлю беларускую. Яны былі шчасьлівыя, што змаглі нарэшце прыехаць на сваю радзіму. Многія ж сустрэліся тут са сваякамі. І, канечне ж, многія баяліся: а ці не забяруць іх, ці не пасадзяць, бо тут жа КДБ. Але было такое яднаньне ўсіх беларусаў, што здавалася: вось цяпер будзе велізарны росквіт і ўздым Беларусі; што нарэшце мы станем незалежнымі, станем багатай, культурнай эўрапейскай дзяржавай».



Прыехалі людзі, якія ў эміграцыі захоўвалі беларушчыну — мову, традыцыі, перахоўвалі здабыткі нацыянальнай культуры, рэпрэсаваныя бальшавікамі. Галоўнай ідэяй зьезду было скіраваць намаганьні для абʼяднаньня беларускай культуры і для пабудовы сумеснымі сіламі нацыянальнай дзяржавы.

486 дэлегатаў з замежжа і 510 зь Беларусі сваю веру замацавалі ў заключным дакумэнце:

> «Мы можам ажыцьцявіць гістарычную справядлівасьць і назаўсёды замацаваць незалежную Беларусь на мапе Эўропы не як геаграфічнае паняцьце, а як шанаваную, паўнавартасную дзяржаву беларускага народу і іншых народаў, што здаўна жывуць на нашай зямлі. Дасягнуць гэтага можна толькі абʼяднаўшы сілы беларусаў на Бацькаўшчыне і тых яе адданых дзяцей, што жывуць па-за межамі Беларусі, але захавалі ў сваіх сэрцах любоў да яе».

Пасьля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі беларуская дзяржава адвярнулася ад беларусаў і беларушчыны аж да такой ступені, што вольныя зьезды беларусаў сьвету ёй ужо былі не патрэбныя. Зрэшты, як і для бальшыні беларускай эміграцыі непрымальная стала антыбеларуская ўлада.

## Жалобныя шэсьці на Курапаты

# МЕНСК, ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 15

Ад будынку, дзе ў 1930-я гады месьціўся НКУС БССР, у першай палове 1990-х гадоў на Дзяды пачыналася жалобнае шэсьце ў Курапаты на знак памяці ахвяраў бальшавіцкага тэрору



У першай палове 1990-х гадоў жалобнае шэсьце ў Курапаты на Дзяды пачыналася ад будынку Міністэрства ўнутраных справаў, што на рагу праспэкту Незалежнасьці й вуліцы Гарадзкі Вал. У гэтым будынку ў сталінскую пару знаходзіўся Народны камісарыят унутраных справаў, ва ўнутранай турме якога былі закатаваныя сотні бязьвінных людзей. Шмат ахвяраў уначы вывозілі адсюль у лясныя прадмесьці Менску — Курапаты, парк Чалюскінцаў, іншыя лясы й яры, дзе яны былі расстраляныя і закапаныя без крыжоў і абэліскаў.

Адным з такіх жахлівых маршрутаў і прапанаваў БНФ праходзіць на Дзяды.

Дзень памяці пачынаўся раніцай ля будынку МУС. Актывісты БНФ ставілі драўляную сымбалічную каплічку з надпісам: «Адсюль з будынку НКВД пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору».

Ідэя каплічкі належала мастакам, сябрам суполкі «Пагоня» і Беларускага Народнага Фронту, якія афармлялі практычна ўсе масавыя акцыі. Кажа мастак **Мікола Купава**:

> «Я зрабіў эскіз гэтай каплічкі. Мы знайшлі майстроў, і яны яе зрабілі. Увогуле было іх дзьве. Адна была высокая, яе канфіскавалі, яна зьнікла бясьсьледна. Потым зрабілі меншую. Мы ставілі ля яе вахту, і цэлы дзень там гарэлі сьвечкі. Людзі падыходзілі, клалі кветкі. Было прыгожа. Гэтую каплічку мы ўжо бяз варты не пакідалі. Стаялі дзяжурныя з нашых людзей, яны мяняліся кожную гадзіну. А потым увечары мы яе забіралі, і да налецьця ўжо».

Ля каплічкі выступалі Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Сяргей Грахоўскі, Рыгор Барадулін, Мікола Купава, Вінцук Вячорка ды іншыя. Аднойчы масавы мітынг адбываўся на прыступках самога будынку КДБ, і нават тагачасны старшыня КДБ Шыркоўскі ня змог яго спыніць. Затым праз увесь горад пад бел-чырвона-белымі сьцягамі шматтысячная калёна рушыла ў Курапаты з прыпынкам для ўшанаваньня памяці расстраляных у парку Чалюскінцаў.

А пасьля 1995 году сабрацца ля будынку МУС-КДБ, як і ўвогуле ў цэнтры гораду, ужо стала немагчымым. Улады больш не давалі дазволу на такія акцыі, а падступы і да гэтага будынку, і да іншых урадавых будынкаў блякаваліся міліцыяй. Шэсьці на Дзяды пачыналіся ўсё далей і далей ад цэнтру гораду.

Мастакі з суполкі «Пагоня» стварылі ня толькі гэтую сымбалічную каплічку, якая засталася толькі ў памяці людзей. Яшчэ ёсьць Чарнобыльскі звон, Звон Свабоды, мэмарыяльная шыльда на дом, дзе была абвешчаная БНР. Гэтыя знакі — сымбалі свабоды — перахоўваюцца і чакаюць сваёй пары, калі будуць усталяваныя ў належных ім месцах.



## Газэта «Пагоня»

# ГОРАДНЯ, ВУЛІЦА ДАМІНІКАНСКАЯ, 1

У гэтым доме з 1992 году працавала рэдакцыя газэты «Пагоня» — адной зь першых беларускіх незалежных газэтаў эпохі барацьбы за нацыянальную дзяржаву й дэмакратыю. У 2001 годзе за аб’ектыўнае асьвятленьне прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі яе забаранілі, а рэдактара Міколу Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйку пазбавілі волі

Існуе легенда, што на наступны дзень пасьля выступу дэпутата Сяргея Антончыка з антыкарупцыйным дакладам у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня ўсе газэты выйшлі зь белымі плямамі. І гэта няпраўда, бо, прыкладам, гарадзенская незалежная газэта «Пагоня» выйшла з поўным тэкстам дакладу.

Пазьней у «Пагоні», якую не дагнала цэнзура, было надрукаванае скандальнае інтэрвію Аляксандра Лукашэнкі нямецкай газэце «Handelsblatt» з камплімэнтамі Адольфу Гітлеру.

Газэта, якая пачыналася як заходнебеларускі рэгіянальны агляд, хутка стала агульнанацыянальнай грамадзка-палітычнай газэтай з накладам да 17 тысяч асобнікаў.

Каб выдаваць газэту, Мікола Маркевіч і Аляксей Карпюк у 1991 годзе заснавалі культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына». Фонд зьбіраў і зарабляў грошы на выданьне газэты, адмыслова для рэдакцыі ўтрымліваў памяшканьне ў цэнтры гораду. Там жа знайшлі прытулак Таварыства беларускай мовы, БНФ, іншыя свабодныя гарадзенскія ініцыятывы. Пробны нумар «Пагоні» выйшаў на Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка 1992 году.

Да лістапада 1993 году рэдактарам быў Сяргей Астраўцоў, а затым — **Мікола Маркевіч**. Ён і ўдакладняе адрас рэдакцыі:

> «У свой час абсалютна сьвядома мы паставілі ў выходных зьвестках газэты адрас Дамініканская, 1, а не Савецкая, 10. Рэдакцыя газэты месьцілася на рагу гэтых дзьвюх вуліц, і юрыдычны адрас быў — Савецкая, 10. Нам гэта падавалася абсалютна непрымальным, што газэта з такім зьместам, з такой пазыцыяй будзе мець такія выходныя зьвесткі. „Пагоня“ ў розны час месьцілася на розных адрасох. Быў і такі час, калі некалькі нумароў мы ўвогуле выпусьцілі, што называецца, на вуліцы, на каленях. „Пагоню“ часта пазбаўлялі памяшканьня. Я думаю, што ў Горадні мы налічым ня меней як восем адрасоў, дзе рабілася „Пагоня“».



У 2001 годзе газэта шырока асьвятляла прэзыдэнцкую выбарчую кампанію, і зноў, як і ў 1994 годзе, была не на баку Лукашэнкі. Адбылася расправа. Спачатку быў арыштаваны ўвесь наклад нумару 37, затым — рахунак і маёмасьць рэдакцыі. А 12 лістапада Вышэйшы гаспадарчы суд зачыніў газэту. Яна пачала выходзіць у інтэрнэце. І ўсё ж пагоня ўладаў за свабоднымі журналістамі завяршылася пазбаўленьнем волі Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі «за паклёп на прэзыдэнта».

У судзе ў заключным слове, якое сталася выдатным узорам публіцыстыкі, Мікола Маркевіч параўнаў рэжым Лукашэнкі з сталінскім 1937 годам і назваў прысуд «жудасным злачынствам супраць свабоды слова».

Газэта «Пагоня» надалей жыве ў інтэрнэце.

## Газэта «Свабода»

# МЕНСК, ВУЛІЦА ІВАНАЎСКАЯ, 56

У гэтым будынку з 1993 па 1997 год працавала рэдакцыя легендарнай незалежнай газэты, галоўным рэдактарам якой быў Ігар Гермянчук. Улады жорстка ціснулі на газэту і ўрэшце забаранілі яе



Дзеля свабоды, для свабодных людзей і свабоднымі людзьмі рабілася легендарная апазыцыйная газэта 1990-х гадоў «Свабода». Заснаваў газэту літаратар і выдавец Сяргей Дубавец, які пасьля перадаў рэдактарства сябру, журналісту, дэпутату Вярхоўнага Савету 12 скліканьня Ігару Герменчуку.

Зорны час газэты зьвязаны з адрасам: Менск, Іванаўская, дом 56. Ён зьявіўся ў лістападзе 1993 году ў выходных зьвестках трынаццатага нумару. Дэпутат Ігар Гермянчук змог «выбіць» для рэдакцыі вялізную плошчу ў дзяржаўным будынку амаль у цэнтры гораду.

Газэта была папулярнай і дзякуючы публікацыям самога рэдактара, і артыкулам такіх вострых на пяро журналістаў, як Аляксандар Старыкевіч, Сяргей Астраўцоў, Алег Грузьдзіловіч, Алесь Дашчынскі, Тэльман Масьлюкоў, Альгерд Невяроўскі, Расьціслаў Пермякоў, Усевалад Рагойша, Віталь Цыганкоў.

Улады газэту пасьлядоўна перасьледавалі: забаранялі друкаваць ў дзяржаўных друкарнях, арыштоўвалі банкаўскія рахункі, канфіскоўвалі рэдакцыйнае абсталяваньне. На гэты «адрас свабоды» прыходзілі ня толькі журналісты ці чытачы, а і судовыя выканаўцы, міліцыянты, сьледчыя і нават два падпалкоўнікі КДБ з аддзелу барацьбы з тэрарызмам.

Рэдакцыя працавала ў экстрэмальных умовах. Друкавалі за мяжой, арганізоўвалі сетку распаўсюду, калі ад газэты адмовіўся «Белсаюздрук». Але пасьля кожнага ўдару «Свабода» паўставала як птушка Фэнікс з попелу. Так было і з нумарам са знакамітым дакладам Сяргея Антончыка аб карупцыі, які быў аддрукаваны

накладам 100 тысяч асобнікаў амаль што падпольна, як пазначалася, у «друкарні імя Аляксандра Лукашэнкі».

Рэдактар і калектыў былі бескампрамісныя, — сьведчыць **Алесь Дашчынскі**:

> «У студзені 1995 году да нас зьявіўся сьледчы з Генэральнай пракуратуры пасьля публікацыі ў газэце паэмы Ведзьмака Лысагорскага „Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт". Ён шукаў Ведзьмака Лысагорскага і арыгінал яго паэмы. Натуральна, яму далі і арыгінал, і капэрту, у якой паэма трапіла ў рэдакцыю. Сьледчы паведаміў, што супраць галоўнага рэдактара ўзбуджаная крымінальная справа за абразу прэзыдэнта, і прапанаваў разам вызначыць кола экспэртаў, якія б прааналізавалі, ці ёсьць у паэме абразьлівыя выразы. Натуральна, галоўны рэдактар на гэта не пагадзіўся і сказаў яму, што Вядзьмак даслаў працяг паэмы. І ўжо ў лютым 1995 году газэта друкуе дзьве паэмы разам на адной старонцы: „Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт" і „Лука Мудзішчаў адказвае Ведзьмаку Лысагорскаму", і побач літаратуразнаўчы артыкул „Вядзьмак нічога ня выдумаў"».

Такая «Свабода» дорага каштавала Ігару Герменчуку: некалькі крымінальных справаў і ўрэшце стрэлы па вокнах ягонага дому. 24 лістапада 1997 году «Свабоду» забаранілі, і рэдакцыя пакінула Іванаўскую, 56, хоць яшчэ некаторы час на гэты адрас прыходзіла карэспандэнцыя для адроджанай газэты пад назовам «Навіны».



## Радыё Свабода

# МЕНСК, ВУЛІЦА ЭНГЕЛЬСА, 12

У гэтым доме з 1994 па 1999 год знаходзілася першая менская студыя Беларускай службы Радыё Свабода, якое распаўсюджвала ў Беларусі нецэнзураваную, аб'ектыўную інфармацыю. Радыё Свабода зрабіла вялікі ўклад у здабыцьцё беларусамі незалежнасьці й пашырэньне дэмакратыі

Ня выключана, што гэтая звычайная двухпакаёвая кватэра ў цэнтры Менску можа быць унесеная ў сьпіс найважнейшых адрасоў, дзе адбываліся падзеі, якія істотна паўплывалі на захаваньне міру і атамнае раззбраеньне ў сьвеце.

Увосень 1995 году другая паводле значнасьці дзяржаўная асоба ў Рэспубліцы Беларусі — старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі 12 скліканьня, генэрал Мечыслаў Грыб — прыйшоў у менскую студыю Радыё Свабода. Прычынай стала свабода слова па-лукашэнкаўску. Прэзыдэнт павёў атаку на выбары ў Вярхоўны Савет. І на ягонае «ўсё роўна падмануць, не хадзіце» публічна адказаць дэпутаты ня мелі магчымасьці.

Мечыславу Грыбу забаранілі выступіць па тэлебачаньні й радыё, нават адключылі расейскі канал, на якім ён запісаў свой выступ. Адмовіліся публікаваць яго і дзяржаўныя газэты. Не агітаваць за нейкую партыю ці асобу, а толькі заклікаць людзей прыйсьці на выбары — выканаць свой канстытуцыйны абавязак — кіраўнік заканадаўчай улады быў вымушаны зьвярнуцца на амэрыканскую, ці, як яе называлі саветы, «варожую станцыю».

Цана была надзвычай высокая — абраньне новага парлямэнту, які мусіў стаць супрацьвагай аўтарытарнаму прэзыдэнту. Расказвае дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода **Аляксандар Лукашук:**

> «Аднойчы адчыняюцца дзьверы, і ў нашую невялікую кватэру ўваходзіць ахова. Яна хутка правярае усе закуткі, і тут жа зьяўляецца Мечыслаў Грыб, які адразу запоўніў усю невялічкую студыю, змантаваную на двух пісьмовых сталох. Мы запісалі



> сьпікера, і некалькі дзён раніцай, днём і ўначы круцілі ягоны зварот да выбарнікаў. Людзей на ўчастку прыйшло акурат столькі, колькі трэба было, каб прызнаць выбары. Вярхоўны Савет 13 скліканьня праіснаваў менш чым год, але якраз у гэты час, насуперак лютаму супраціву прэзыдэнта, зь Беларусі была канчаткова выведзеная ядравая зброя. Хто ведае, магчыма, без таго адчайнага звароту да выбарнікаў гісторыя пайшла б іншым шляхам — ядравая зброя ў руках некантраляванай улады ў цэнтры Эўропы магла б істотна зьмяніць ходу гісторыі».

Радыё Свабода перадае па-беларуску з траўня 1954 году. Да канца 1980-х гадоў яно было адзіным бесцэнзурным сродкам масавай інфармацыі, які перадаваў адмыслова для беларусаў навіны, палітычную й эканамічную аналітыку, расказваў праўду пра іхную гісторыю й культуру, пра каштоўнасьць свабоды й дэмакратыі. Разам зь іншымі рэдакцыямі Радыё Свабодная Эўропа — Радыё Свабода беларуская служба адыграла важную ролю ў краху камунізму, развалу савецкай імпэрыі, у вызваленьні народаў ад каляніяльнай залежнасьці й пабудове дэмакратычнага грамадзтва.

І ў сучаснай, далёкай ад дэмакратычных стандартаў, аўтарытарнай Беларусі, каб пачуць вольнае й праўдзівае слова, сотні тысяч людзей настройваюць свае прыймачы на хвалі Свабоды ці заходзяць у інтэрнэце на сайт «svaboda.org».

## Сядзіба БНФ

# МЕНСК, ВУЛІЦА МАШЭРАВА (БЫЛАЯ ВУЛІЦА ВАРВАШЭНІ), 8

У гэтым доме з канца 1992 году месьціцца сядзіба Беларускага Народнага Фронту, асяродак беларускага нацыянальна-дэмакратычнага й культурніцкага руху



У беларускай сталіцы ёсьць толькі адно месца, дзе над ганкам казённага будынку свабодна лунае бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта — сядзіба Беларускага Народнага Фронту. Сынонімам сядзібы БНФ ёсьць яе адрас — вуліца Варвашэні, 8, нягледзячы на перайменаваньне апошняй у праспэкт Машэрава.

Гэты адрас самы папулярны ў дэмакратычнай грамады. Дзе адбудзецца выстава суполкі «Пагоня»? На Варвашэні, 8. Дзе можна здабыць нацыянальны сьцяг ці незалежную газэту, пазычыць дыск беларускіх рок-выканаўцаў? Дзе адбудзецца прэзэнтацыя новай кнігі з сэрыі «Бібліятэка Свабоды?» Дзе палітычныя вязьні пасьля вызваленьня з турмаў даюць прэсавую канфэрэнцыю? На Варвашэні, 8.

Калі б павесіць шыльду з імёнамі выбітных людзей, якія тут бывалі, дык яна б заняла не адну сьцяну. І на адным зь першых месцаў было б імя Васіля Быкава. Цягам гадоў кожны чалавек у Беларусі, які раптам адчуў покліч свабоды, ведаў, куды прыйсьці, каб знайсьці аднадумцаў.

Гарачай вясной 1996 году, калі востра паўстала пагроза згубы незалежнасьці Беларусі, сядзіба БНФ стала штабам абароны дзяржавы, — кажа былы старшыня БНФ **Лявон Баршчэўскі**:

> «Там плянаваліся масавыя шэсьці пратэсту. Адтуль выносілі асноўную сымболіку. І туды ўсе тэлефанавалі, пыталіся: дзе зьбірацца, што мы можам зрабіць? Туды людзі прыносілі ахвяраваньні. Вельмі ўразіла, калі неяк ля будынку спынілася аўто, зь яго выйшла прыгожая маладая жанчына, забегла ў памяшканьне, паклала дзьве купюры высокага на

> разуменьне 1990-х гадоў наміналу і кажа: „Зрабіце што-небудзь, каб Беларусь засталася незалежнай“. Гэта быў парыў людзей. І яны ведалі, дзе знаходзіўся цэнтар супраціву. Памяшканьне ня раз штурмавалі амонаўцы, арыштоўвалі людзей проста ў гэтым памяшканьні, выцягвалі іх адтуль сілай. І мяне арыштоўвалі каля гэтай сядзібы, звозілі ў невядомым кірунку байцы падразьдзяленьня „Алмаз“».

Пасьля разгону дэманстрацыяў, калі не было куды ўцячы, многія актывісты апазыцыі хаваліся там. Тады ў будынак урываліся амонаўцы, часам людзям удавалася схавацца, часам усе разам адбівалі напады.

Сядзіба БНФ — ня офіс. Гэта дом дзеля свабоднай Беларусі.



## Выставы «Пагоні» ў Менску

### МЕНСК, ВУЛІЦА КАЗЛОВА, 3. ПАЛАЦ МАСТАЦТВА

З 1991 году ў Палацы мастацтва ладзіла свае выставы суполка «Пагоня» — адна з найбольш пасьлядоўных у адстойваньні сродкамі мастацтва нацыянальных і дэмакратычных каштоўнасьцяў

На хакейным полі ля змрочнай крамлёўскай сьцяны, падпёртай драбінамі, прыснуў на аздобленай зялёна-чырвонымі палосамі клюшцы нейкі чалавек з тулавам-агурком, у якое ўвагнаныя вілы. І ў дадатак верш:

> «Ляжу ля Крамлёўскай сьцяны, халадзею.
> Улезьці наверх я ўжо страціў надзею.
> Каму я тут лішні, урэдзен і гадак?
> Адольф, памажы мне навесьці парадак!»

Карціна «Звычайны натурморт» старшыні суполкі мастакоў «Пагоня» Аляксея Марачкіна была зьнятая з выставы, прымеркаванай да Дня Волі ў 2002 годзе…

У суполку «Пагоня» ў 1991 годзе аб'ядналіся беларускія мастакі, якія ня толькі малявалі, але і гаварылі па-беларуску. Першую супольную выставу наладзілі да Дня Незалежнасьці 25 Сакавіка. Авангард і традыцыю, публіцыстыку й партрэт, скульптуру й графіку злучала ідэя беларускай свабоды й незалежнасьці.

Штогод выстава зьбірала ўвесь палітычны й культурны бамонд сталіцы. Пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі ў Палац мастацтваў вярнулася цэнзура. Раптам нейкі твор зьнікне, а іншы арыштуюць ці ўвогуле зьнішчаць. Пра адзін з такіх выпадкаў расказвае першы кіраўнік «Пагоні» **Аляксей Марачкін**:

«У Палацы мастацтва была вялікая, як вышка, лесьвіца, з дапамогаю якой рабочыя вешалі карціны. І неяк, калі мы ладзілі выставу суполкі «Пагоня» да 25 Сакавіка, у мяне нарадзілася ідэя: «Хлопцы, зірніце на гэтую лесьвіцу. Калі наверсе яе зрабіць будку, дык яна дакладна будзе выглядаць, як турэмны наглядальны пункт». Мы зрабілі будку, павесілі рупары,



а самае галоўнае — аздобілі яе лёзунгамі кіраўніка краіны, адзін зь якіх і даў назоў інсталяцыі: «Я же вас по-хорошему предупреждал!» Гэтая інсталяцыя знаходзілася на выставе дні два ці тры. І раптам гэтую бедную лесьвіцу выкінулі на панадворак, парэзалі, зьнішчылі».

Здымалі з экспазыцыяў ня толькі сатырычныя інсталяцыі, але таксама сюжэтныя карціны, партрэты беларускіх патрыётаў. А пасьля 1998 году пачаліся забароны выставы ўвогуле.

Але «Пагоня» не спынілася: выставы адбываліся ў Доме літаратара, Чырвоным касьцёле, сядзібе БНФ, яны вандравалі па краіне і па замежжы. «Пагоня» аздабляла шматлікія мітынгі, сходы, імпрэзы, Чарнобыльскія шляхі, Дзяды, «Маршы свабоды». Сябры суполкі разьвіваюць новы цікавы жанр «мітынг-арт» — мастацтва грамадзкіх акцыяў.

«Пагоня» не спыняецца.

# Беларускі гуманітарны ліцэй

## МЕНСК, ВУЛІЦА КІРАВА, 21

У гэтым будынку з 1992 па 2003 год працаваў Беларускі гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, у якім рэалізавалася новая канцэпцыя нацыянальнай адукацыі. Пасьля забароны ўладамі дзейнічае падпольна



Беларускі гуманітарны ліцэй — першая сярэдняя навучальная ўстанова, якая паламала стандарты савецкай адукацыйнай сыстэмы. Тут самыя творчыя пэдагогі на беларускай мове ня толькі даюць трывалыя веды будучай нацыянальнай эліце, але і вучаць свабодзе.

Нараджаўся ліцэй з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы на энтузіязьме кінарэжысэра, будучага дырэктара ўстановы Ўладзімера Коласа.

Калі ў 1991 годзе пачаўся падзел маёмасьці камуністычнай партыі, гарадзкія ўлады ліцэю прапанавалі будынак былой вышэйшай камсамольскай школы на вуліцы Кірава. **Уладзімер Колас** напісаў у Савет міністраў просьбу, і нібыта распараджэньне аб перадачы будынку было падпісанае:

> «Але раптам усё памянялася. Напэўна, да спадара Кебіча нехта падплыў з уплывовых асобаў, якія «прыхватызоўвалі» гэтую маёмасьць. І тады мы вырашылі захапіць гэты будынак. Там куча сядзела розных каапэратываў. Мы ўвайшлі туды — і настаўнікі, і бацькі, і дзеці туды пранікл — і зачынілі дзьверы на швабру. Звонку таксама засталіся нашыя людзі. Гэта было да таго, як пачаўся працоўны дзень. Калі прыйшлі каапэратыўнікі, яны выклікалі АМОН. Мы з камандзірам палка паехалі ў Савет міністраў. А там ужо знаходзіліся дэпутаты Лявон Баршчэўскі, Валянцін Голубеў, Алег Трусаў, Ніл Гілевіч, якія правялі перамовы з Кебічам. Той зноў памяняў сваё рашэньне і падпісаў распараджэньне аб выдзяленьні нам будынку».

У гэтым будынку ліцэй правёў дзесяць гадоў свайго жыцьця. Амаль усе выпускнікі без праблемаў пасту-

палі на самыя прэстыжныя спэцыяльнасьці беларускіх і замежных унівэрсытэтаў. Яны ж станавіліся актывістамі дэмакратычных сілаў, дзеячамі культуры.

З 1996 году ўлады пачалі душыць ліцэй: адбіралі будынак, прапаноўвалі зьліцца зь іншымі навучальнымі ўстановамі, здымалі Ўладзімера Коласа з пасады дырэктара. У 2003 было прынятае канчатковае рашэньне зьліквідаваць ліцэй. Адзін з апошніх дзён у будынку на вуліцы Кірава, 21 успамінае былы ліцэіст, журналіст **Глеб Лабадзенка**:

> «Калі паўстала гаворка пра закрыцьцё ліцэю і нам прыслалі зь Міністэрства адукацыі новую дырэктарку, якую звалі Тамара Шчарбацэвіч, у яе выкладчыкі пачалі пытацца, якую яна замежную мову ведае. Высьветлілася, што ніякай замежнай, а таксама і беларускай мовы ня ведае. Калі ж яна сказала, што „нічога страшнага — вывучу“, дык Васіль Сёмуха сказаў ёй, што „ў нас трошкі іншыя мэты, каб вучыць вас“. Калі прыехаў міністар Пётар Брыгадзін са сваімі намесьнікамі, каб улагодзіць нас да гэтай дырэктаркі, мы сядзелі на ліцэйскай лесьвіцы й сьпявалі „Gaudeamus igitur“ — усясьветны студэнцкі гімн. І намесьнік ціхенька пытаецца ў міністра: „На каком языке они поют?“»

У будынку цяпер суд Цэнтральнага раёну Менску, дзе рэгулярна судзяць за іншадумства і былых ліцэістаў. А ліцэйскае навучаньне працягваецца ў падпольлі: на прыватных кватэрах, у загарадных дамох, за мяжой — у Польшчы, Літве. У цэнтры Эўропы напачатку XXI стагодзьдзя працуе партызанская школа. Так вобразна сталі называць ліцэй.



## Беларускі Фонд Сораса

# МЕНСК, ВУЛІЦА БАГДАНА ХМЯЛЬНІЦКАГА, 9

Тут месьціўся офіс Беларускага Фонду Сораса, які з 1992 па 1997 год закладваў у Беларусі падмуркі грамадзянскай супольнасьці й адкрытага грамадзтва

Амэрыканскі дабрачынны фонд, створаны мільярдэрам Джорджам Сорасам, падтрымліваў свабоду слова й свабоду творчага выбару ў былых камуністычных краінах, у тым ліку і ў Беларусі.

Тысячы мастакоў, навукоўцаў, пісьменьнікаў, журналістаў, выдаўцоў, лекараў, пэдагогаў атрымалі тут фінансавую й маральную падтрымку сваіх неардынарных ідэяў. За чатыры гады дзейнасьці ў Беларусі на гэта было выдаткавана 13 мільёнаў даляраў.

З грантаў Фонду Сораса пачалася дзейнасьць прыватных навучальных установаў, а таксама шырокая камputарызацыя й далучэньне да інтэрнэту ўстановаў адукацыі, культуры. Падтрымліваліся недзяржаўныя газэты, часопісы, выдавецтвы. Дзякуючы Фонду былі закладзеныя першыя недзяржаўныя радыёстанцыі. Фонд фінансаваў пастаноўку спэктакляў у тэатрах-студыях, выставы альтэрнатыўных мастакоў, дзіцячую творчасьць, міжнародныя навуковыя й мастацкія кантакты, вучобу й стажы за мяжой. З падтрымкаю Фонду перакладалі на беларускую мову і выдавалі найбольш значныя кнігі замежных філёзафаў, палітолягаў, лінгвістаў.

Беларуская мова была прыярытэтам. У самім офісе многія гаварылі па-беларуску.

Кур'ёзны выпадак у гэтым зьвязку ўзгадвае **Алесь Анціпенка**, які пасьля выгнаньня зь Беларусі амэрыканца Пітэра Бэрна замяніў яго на пасадзе выканаўчага дырэктара:

> «Да мяне заходзіць вядомы чалавек, прафэсар. Сядае й пачынае распавядаць пра сваю ідэю, потым задае пытаньні. І я пачынаю адказваць яму па-беларуску. Зьдзіўленьне яго было такое вялікае, што ён нават у мяне запытаўся: а вы не амэрыканец? На той час беларушчына ў Фондзе Сораса ўспрымалася адназначна як знак амэрыканскага грамадзянства».



З прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі пачынаецца ціск на Фонд. Таталітарныя рэжымы заўсёды зьнішчаюць любыя інстытуты, якія імі не кантралююцца. Гучаць абвінавачваньні, што Фонд працуе дзеля зьмены ўлады ў Беларусі.

Сябра назіральнай рады **Раман Якаўлеўскі** ўзгадвае рабочы сьняданак у Будапэшце з Джорджам Сорасам, на якім абмяркоўвалі, як уратаваць Фонд:

> «Сорас прапанаваў: а можа, з Лукашэнкам згуляць у шахматы, у сэнсе — паспрабаваць дамовіцца? Давялося патлумачыць, што з Лукашэнкам немагчыма гуляць у шахматы, бо ён ня ведае правілаў. Калі Сорас запытаў: а што ён ведае? — я адказаў: дошкай па галаве. Быў выдатны перакладнік, і Сорас зразумеў. Менавіта так і атрымалася. Даволі хутка Сорас сышоў зь Беларусі».

Сышоў, бо працягваць дзейнасьць было немагчыма. Новы ўрад скасаваў пастанову аб вызваленьні грантаў ад падаткаў, а затым пачалася канфіскацыя маёмасьці ў залік падаткаў. У 1997 годзе Беларускі Фонд Сораса спыніў дзейнасьць.

## Беларускі ПЭН-Цэнтар

# МЕНСК,
# ВУЛІЦА ЗАЛАТАЯ ГОРКА, 2

У гэтым доме з 1990 году месьціцца Беларускі ПЭН-Цэнтар — недзяржаўная арганізацыя ў абарону пісьменьніцкіх правоў, свабоды слова й супраць цэнзуры ў сьвеце



Ідэю стварыць Беларускі ПЭН-Цэнтар як філію міжнароднай творчай і праваабарончай арганізацыі свабодных літаратараў ПЭН (‘паэты, эсэісты, навэлісты’) прывёз у Менск з Масквы пісьменьнік Алесь Адамовіч, які тады там працаваў, быў дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР і набыў усясьветную славу пісьменьніка-пацыфіста й змагара супраць пашырэньня атамных установак.

Успамінае паэт **Уладзімер Някляеў**:

> «Прычым ніхто, напэўна, акрамя Адамовіча ды Карласа Шэрмана, і ня ведаў, што гэта такое. Як яно было? Калі табе тэлефануе Барадулін і пытаецца, ці ты хочаш уступіць у ПЭН-Цэнтар. Табе ж няёмка пытацца, а што гэта такое? І ты пытаесься: а ці ты, Рыгор Іванавіч, ужо ўступіў? А ён кажа, што яшчэ не, але зьбіраюся. Відавочна, што ён таксама ня надта цяміць, у што яго агітуюць уступіць. Але тым ня менш даволі хутка з усім гэтым разабраліся, і сабраліся мы, дарэчы, у Чырвоным касьцёле, дзе быў заснаваны і Народны Фронт».

Гэта было пры канцы 1990 году. Увайшлі ў беларускі ПЭН 20 чалавек, сярод якіх такія вядомыя пісьменьнікі, як Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Пімен Панчанка, Сьвятлана Алексіевіч, Віктар Казько, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Адам Мальдзіс ды іншыя. Прэзыдэнтам быў абраны Васіль Быкаў. А непасрэдна ўсімі арганізацыйнымі справамі займаўся нястомны Карлас Шэрман, перакладнік гішпанскай літаратуры.

Улады ад самага пачатку падазрона паставіліся да ПЭН-Цэнтру, была праведзеная кампанія яго дыскрэдытацыі.

Філёзаф **Алесь Анціпенка** адзначае распрацоўку ПЭН-Цэнтрам і пашырэньне ў Беларусі праекту «Ўнівэрсальнай дэклярацыі лінгвістычных правоў», ролю ў гэтым Карласа Шэрмана:

> «Адной з ключавых фігураў, якія гэтую ідэю падтрымлівалі, займаліся яе прамоцыяй, быў Карлас Шэрман. Ясна, што перакладнік Шэрман у гэтым выпадку дбаў не пра гішпанскую мову, а пра беларускую. Гэта адна з заслугаў Шэрмана перад нашай культурай».

ПЭН-Цэнтар абараняе пісьменьнікаў і журналістаў, якіх цкуе ўлада, арганізоўвае доўгатэрміновыя творчыя выправы за мяжу, штогод прысуджае літаратурныя прэміі. Менавіта з дапамогай ПЭН-Цэнтру змог жыць і працаваць за мяжой Васіль Быкаў, калі ягоная праца ў Беларусі стала немагчымая.



# Тэатар «Вольная сцэна»

## МЕНСК, ВУЛІЦА КРАПОТКІНА, 44

Тэатар-лябараторыя беларускай драматургіі з 1990 па 2000 год пад кіраўніцтвам рэжысэра Валера Мазынскага быў адным з самых свабодных нацыянальных мастацкіх асяродкаў. Яго называлі «Вольнаю сцэнаю»

Гэта быў жывы тэатар, выразны творчы асяродак у атмасфэры 1990-х гадоў. Артысты размаўлялі з гледачамі адной мовай — мовай прагі свабоды й незалежнасьці сваёй краіне. Рэдкі выпадак для беларускай сцэны. Хаця вуліца тады была найлепшым тэатрам. І артысты «Вольнай сцэны» імкнуліся ў сваіх пастаноўках адлюстраваць атмасфэру змаганьня за свабоду. Здаралася, што літаральна зь мітынгаў акторы беглі на спэктакль.

На многіх спэктаклях гледачы выгукалі «Жыве Беларусь». Так было нават на спэктаклі «Нечаканы ўзьлёт Артура Ўі, які можна было спыніць». П'еса, напісаная Бэртальтам Брэхтам у 1941 годзе, успрымалася як надзвычай актуальная беларуская. Не выклікалі сумневу і паралелі ў сцэнічнай рэдакцыі гістарычнай хронікі Ўільяма Шэксьпіра «Рычард III», якую зрабіў для «Вольнай сцэны» Аляксей Дудараў і ў якой цікава сыграў беларускага Рычарда Алег Гарбуз. Рэальнасьць і тэатар збліжаліся.

Тэатар на вуліцы Крапоткіна станавіўся адной з выспаў свабоды ў несвабодным вялікім горадзе. Мастацкі кіраўнік «Вольнай сцэны» **Валер Мазынскі** з гэтай нагоды кажа:

> «Урэшце рэшт адна з дэманстрацыяў, праўда, я на яе ня трапіў, бо зблытаў маршрут, увогуле пайшла да «Вольнай сцэны». І каля яе быў канчатковы мітынг. Калі я прыехаў, то людзі ўжо разыходзіліся. І для мяне гэта было знакавым момантам у жыцьці тэатру».

Калектыў, афіцыйна званы «Рэспубліканскі тэатар-лябараторыя беларускай драматургіі», меў на мэце працаваць дзеля разьвіцьця айчыннай драматургіі. Што і рабіў. А назоў «Вольная сцэна» як крэда тэатру Валер Мазынскі проста пусьціў у народ — і ён прыжыўся больш, чым той, што быў на пячатцы.



«Вольная сцэна» была адкрытай і для розных беларускіх і замежных альтэрнатыўных мастацкіх імпрэзаў, паказ якіх на ёй дазваляў Мазынскі. У фае рэгулярна выстаўлялі свае творы мастакі-незалежнікі. Тут артысты польскіх студыйных тэатраў распавядалі пра свае вулічныя спэктаклі пратэсту ў часы «Салідарнасьці» й змаганьня з камунізмам. Да дзесяцігодзьдзя падзеньня Бэрлінскага муру на «Вольнай сцэне» адбылася імпрэза «Нябачны мур», дзе барды з былой ГДР, Польшчы і Беларусі сьпявалі песьні пра свабоду.

Палітычная расправа над «Вольнай сцэнай» у Беларусі, краіне афіцыйных рэфэрэндумаў і палітычных вязьняў, была непазьбежная — у 2000 годзе звольнілі яе заснавальніка й мастацкага кіраўніка Валера Мазынскага. Разам зь ім тэатар пакінула і бальшыня ягоных актораў.

# Маладэчна — «Горад Сонца» Генадзя Карпенкі

## МАЛАДЭЧНА, ВУЛІЦА ПРЫТЫЦКАГА, 5

У гэтым будынку з 1992 па 1994 год працаваў старшынём Маладэчанскага гарадзкога выканаўчага камітэту выдатны палітык і навуковец Генадзь Карпенка. За разьвіцьцё эканамічнай свабоды й нацыянальнай культуры Маладэчна называлі «Горадам Сонца»



Адна зласьлівая дзяржаўная газэта саркастычна напісала, што мэр Карпенка са сваёй камандай хоча з Маладэчна зрабіць «горад сонца». Сарказм быў недарэчны, бо яшчэ ў пераважна пахмурнай Беларусі пачатку 1990-х гадоў сонца сапраўды прабівалася ў Маладэчне.

Малады аўтарытэтны вучоны і палітык Генадзь Карпенка прыйшоў у гарвыканкам з аднадумцамі — ужо вядомымі ў краіне дэмакратамі. Намесьнікам стаў Віктар Ганчар, начальнікам міліцыі — Уладзімер Станкевіч, кіраўніком справаў — Валер Костка. Упершыню ў Беларусі горадам кіравала цалкам дэмакратычная беларуская ўлада.

Маладэчна іхнае пары — горад бізнэсу, будоўляў і сталіца мастацтваў. Тэатральны фэстываль «Маладэчанская сакавіца» адзначаўся асаблівай атмасфэрай павагі да актораў. У многіх у памяці засталася мізансцэна, як на першай «Сакавіцы» мэр Карпенка на сцэне мясцовага тэатру на каленях дорыць кветкі вялікай Стэфаніі Станюце. А затым караван аўтамабіляў скіроўваўся на Менск з падарункамі акторам — лядоўнямі й тэлевізарамі, купіць якія за свае жабрацкія заробкі папулярныя беларускія акторы не маглі.

Гэта стала магчыма толькі таму, што ў Маладэчне былі адкрытыя шырокія магчымасьці для бізнэсу, — кажа **Валер Костка:**

> «Бізнэс і ўлада працавалі ня як карупцыйная зьвязка «ты — мне, я — табе», а ўлада дапамагала бізнэсу, і бізнэс дапамагаў уладзе».

Маладэчна рабілася сапраўдным беларускім горадам. Беларуская мова з будынку гарвыканкаму пашыра-

лася і ў іншыя ўстановы гораду, — успамінае Валер Костка:

«Усе пратаколы былі афармленыя толькі на беларускай мове. І размаўлялі на выканкаме толькі пабеларуску. Калі мэр гораду гаварыў на беларускай мове, дык і астатнія хоць неяк, але стараліся таксама гаварыць на гэтай жа мове».

Гарадзкая ўлада сьмела вяртала гістарычныя і давала новыя беларускія назвы вуліцам замест бальшавіцкіх.

Калі прэзыдэнтам краіны стаў Аляксандар Лукашэнка, Генадзь Карпенка сам пакінуў крэсла мэра, бо ня мог працаваць у той вэртыкалі ўлады, якую выбудоўваў Лукашэнка. Усьлед за ім пакінула выканкам і большыня ягонае каманды. Над Маладэчнам сонца зноў пачало хавацца ў хмары.

Тым часам пра Карпенку ўся краіна загаварыла як пра вельмі верагоднага наступнага прэзыдэнта. Але... 6 красавіка 1999 году ён раптоўна памёр ад кровазьліцьця ў мозг. Мала хто верыць у натуральнасьць ягонай сьмерці.



## Дэмакраты ў Доме Саветаў

## МАГІЛЁЎ, ВУЛІЦА ПЕРШАМАЙСКАЯ, 71. ДОМ САВЕТАЎ

У гэтым будынку ў пакоі 652 у 1990-я гады знаходзіўся штаб асноўных дэмакратычных партыяў і сілаў Магілёўшчыны, а таксама рэдакцыя першай масавай незалежнай газэты «Ратуша»

У 1990 годзе ў Магілёве на мітынгі, якія ладзіла апазыцыя, выходзілі да 10 тысячаў чалавек. Уся Савецкая плошча і падыходы да яе бывалі запоўненыя людзьмі, якія жадалі пераменаў і ў эканамічным жыцьці, і ў палітычным. Арганізатарамі масавых выступаў людзей былі актывісты мясцовай структуры Беларускага Народнага Фронту. Масавыя пратэсты былі такія моцныя, што на плошчы перад народам вымушаныя былі трымаць слова абласныя начальнікі, улучна з тагачасным першым сакратаром абласнога камітэту камуністычнай партыі, будучым міністрам і палітычным вязьнем Васілём Лявонавым.

Гэта не былі стыхійныя пратэсты. Акцыі старанна плянаваліся і арганізоўваліся апазыцыяй у... Доме Саветаў. Пасьля мясцовых выбараў 1990 году мэрам гораду стаў дэмакрат, які быў дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР, Сяргей Габрусеў. Ён і даў мясцовай арганізацыі БНФ на чале з Анатолем Фёдаравым памяшканьне ў Доме Саветаў. А БНФ пацясьніўся й прытуліў аднадумцаў зь іншых партыяў, ініцыятываў, суполак.

Штабам, клюбам рэвалюцыі называлі пакой № 652 апазыцыйныя сілы Магілёву, — успамінае тагачасны актывіст БНФ **Сымон Глазштэйн**:

> «Пакой невялічкі быў. Але там магло сабрацца і трыццаць, і сорак чалавек. Яны стаялі, туліліся, сядзелі й слухалі, як тады казалі, палітынфармацыі Анатоля Фёдаравіча (Фёдарава — **В.Р.**). Для кагосьці гэта было не зусім патрэбнае відовішча, бо газэты чыталі, «галасы» слухалі. А для кагосьці гэта было вельмі патрэбным, бо тут, у гэтым пакоі, яны атрымлівалі веды, якія закладвалі іхнае разуменьне таго, што адбываецца ў краіне. Розныя людзі прыходзілі — ад пракурора да міліцыянта, адвакаты, дырэктары. Яны прыходзілі, каб набыць дэмакратычную газэту, пагаварыць, знайсьці нейкую пэрспэктыву для краіны, дапамагчы».



Дэмакратычная, першая незалежная на Магілёўшчыне газэта «Ратуша» таксама рабілася тут. Паводле яе галоўнага рэдактара **Алеся Сердзюкова**, «Ратуша» была

> «...рупарам апазыцыі. Гэта было вакно, празь якое можна было давесьці ўсе погляды людзей, якія змагаліся за дэмакратыю. Выступалі дэпутаты дэмакратычнага клюбу, выступалі гісторыкі, якія даказвалі, што Беларусь была незалежнай краінай і што яна мае права на вяртаньне незалежнасьці».

Распаўсюджвалася «Ратуша» па ўсёй вобласьці, і неўзабаве наклад яе дасягнуў 15 тысяч.

Пасьля славутай «паўлаўскай» канфіскацыйнай грашовай рэформы ў 1991 годзе 652-гі пакой стаў цэнтрам і рабочага руху. У ім арганізоўваліся свабодныя прафсаюзы, тут каардынавалі свае дзеяньні страйкавыя камітэты. Калі ў жніўні таго ж году адбыўся путч, тут былі аддрукаваныя дзясяткі тысяч улётак пратэсту.

Аднак дэмакратыя ў вялізным абласным урадавым доме пашыралася толькі на адзін пакой і толькі на некалькі гадоў.

## Апазыцыйная сям'я ў Магілёве

# МАГІЛЁЎ, ЗАВУЛАК ГОГАЛЯ, 13

У гэтым доме жыў Сяргей Абадоўскі — арганізатар свабодных прафсаюзаў і праваабарончага руху на Магілёўшчыне ў 1990-я гады. За гэта Абадоўскага перасьледавалі ўлады



Сям'ю магілёўскага праваабаронцы Сяргея Абадоўскага і сёньня дэмакратычная грамадзкасьць называе сапраўды беларускай, а яе галаву — самай маштабнай фігурай у Магілёве пары дэмакратызацыі. Як і ўсе сем'і, Абадоўскія мелі шмат радасных дзён, але няшчасьці, якія іх напаткалі, выпадаюць на долю ня кожнай сям'і.

Напачатку 1990-х гадоў Сяргей Абадоўскі займаецца стварэньнем свабодных прафсаюзаў і становіцца першым старшынём Магілёўскай абласной арганізацыі СПБ.

Затым — удзел у праваабарончым руху. «Магілёўскі праваабарончы цэнтар», дырэктарам якога ён быў, робіцца першай рэгіянальнай зарэгістраванай праваабарончай арганізацыяй. Ладзяць маніторынг дзейнасьці судоў, прымаюць грамадзянаў, якім праваабаронцы тлумачаць іхныя правы й выступаюць ад іхнага імя са скаргамі.

Разам з абласной філіяй Хэльсынскага камітэту цэнтар стварае «Белую кнігу», у якой фіксуюцца парушэньні правоў чалавека на Магілёўшчыне з пазначэньнем прозьвішчаў дзяржаўных чыноўнікаў, судзьдзяў, пракурораў, каб усе ведалі, хто гэтыя парушэньні ўчыніў. Кнігу раздавалі ў судох, дзяржаўных установах, і рэакцыя яе «герояў» была вострая.

Хмары над Абадоўскім гусьцелі. Гром грымнуў пасьля ягонага актыўнага ўдзелу ў правядзеньні альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбараў 1999 году. Удар нанесьлі ўлады па сям'і, — кажа паплечнік Абадоўскага, магілёўскі праваабаронца **Аляксандар Каралёў:**

> **«**На старэйшага сына сфабрыкавалі крымінальную справу й пасадзілі ў турму. Сяргей яго і абараняў.

Пасьля яго вызвалілі датэрмінова. Сярэдні сын актыўна ўдзельнічаў у моладзевым руху і быў вымушаны выехаць у Польшчу, бо і на яго плянавалі завесьці крымінальную справу. Уся сям'я Сяргея пацярпела ад ягонай дзейнасьці. Дый сам Сяргей згарэў ад таго, што хацеў многа зрабіць, але не сачыў за сваім здароўем і ў выніку пайшоў з жыцьця. І старэйшы сын праз некалькі гадоў пасьля бацькі таксама памёр».

За сваю веру ў ідэалы свабоды, справядлівасьці й спробу іх ажыцьцявіць Сяргей Абадоўскі заплаціў найвялікшую цану. Ён памёр у 2003 годзе, на 53-м годзе жыцьця.



## Малітвы па-беларуску ў Вішневе

### МЯСТЭЧКА ВІШНЕВА ВАЛОЖЫНСКАГА РАЁНУ. КАСЬЦЁЛ СЬВЯТОЙ МАРЫІ

У гэтым храме зь сярэдзіны 1950-х па 2001 год служыў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі — патрыёт Беларусі й беларускага касьцёлу

У сямідзясятыя-дзевяностыя гады мінулага стагодзьдзя касьцёл у мястэчку Вішневе быў месцам паломніцтва ня толькі вернікаў-каталікоў, але й інтэлектуалаў, студэнтаў розных веравызнаньняў. Ехалі да айца Ўладзіслава Чарняўскага, які прынцыпова служыў па-беларуску, марыў пра беларускі касьцёл і ўсё, што мог, рабіў, каб касьцёл па ўсёй Беларусі такім стаў.

Успамінае пра свой візыт у Вішнева гісторык, літаратуразнаўца **Анатоль Сідарэвіч:**

> «Сядзіць у гэтым мястэчку ксёндз, перакладае на беларускую мову Сьвятое Пісьмо, перакладае літургічныя тэксты... Пасьля таго як былі зьнішчаныя ксёндз Гадлеўскі, ксёндз Рэшаць, ксёндз Глякоўскі, ксёндз Станкевіч, гэтым ніхто не займаўся на тэрыторыі Беларусі. Ён працаваў на будучыню. Дарэчы, прадказаньне канца СССР у каталіцкай царкве было даволі моцнае. І тыя, хто былі патрыётамі, ехалі да гэтых сьвятароў. У Беларусі — да айца Ўладзіслава, а хто трапляў у Лёндан, той абавязкова хацеў сустрэцца з айцом Аляксандрам (Надсанам — **В.Р.**). Ехаў праваслаўны Ўладзімер Караткевіч, ехалі іншыя, незалежна ад веравызнаньня».

Дзейнасьць айца Ўладзіслава азначала для беларускіх інтэлігентаў, што яшчэ ня ўсё памерла. Агеньчык надзеі гарэў у Вішневе. І людзі ехалі пагрэцца ля яго. Атрымлівалі тут духоўнае апірышча і веру. Дзясяткі маладых людзей, не ахрышчаных у савецкую пару, калі набывалі нацыянальную сьвядомасьць, ехалі ў Вішнева, каб прыняць у айца Ўладзіслава хрост. Вішнева было адным з сынонімаў новага беларускага Адраджэньня.



У Чарняўскага была багатая бібліятэка. Ён быў ня толькі беларускім ксяндзом, ня толькі патрыётам Беларусі, але і глыбокім інтэлектуалам. Калі ў чалавека няма інтэлектуальнага пакліканьня, ён ня сядзе перакладаць Сьвятое Пісьмо.

Наўпрост палітыкай ксёндз Уладзіслаў не займаўся, ён займаўся рэлігіяй, духоўнасьцю. Але ў палітызаванай краіне, якой быў СССР, дзе духоўнасьць разумелася як адданасьць ідэалам камунізму, рэлігійная справа, ды яшчэ на беларускай мове, успрымалася як антыкамуністычная. Натуральна, што партыя, якая вызнавала атэізм, ставілася да ксяндза варожа. Камуністычныя ўлады не далі Ватыкану дазволу прызначыць айца Ўладзіслава біскупам. Адчуваў ён варожасьць і з боку многіх польскамоўных ксяндзоў.

Двойчы ксяндза Ўладзіслава запрашаў Папа Ян Павал II у Ватыкан. «Але я адмовіўся. Адказаў: хай Папа ў Беларусь прыедзе. Хай пабачыць, якія мы занядбаныя, якія мы самотныя ў сваім змаганьні...» — патлумачыў пасьля айцец Уладзіслаў.

Затое ягонае слова было законам для парафіянаў, а для беларускіх патрыётаў — апірышчам надзеі. Вера Ўладзіслава Чарняўскага ў беларускі касьцёл зьдзяйсьняецца.

## Галерэя «Ў Пушкіна»

# ВІЦЕБСК, ВУЛІЦА СУВОРАВА, 2

У гэтым будынку з 1993 па 1996 год працавала першая ў Віцебску прыватная галерэя сучаснага мастацтва «Ў Пушкіна». 26 лістапада 1996 году ў ёй адбываўся першы зьезд беларускіх нацыяналістаў, які быў разагнаны міліцыяй. Назаўтра некалькі дэлегатаў зьезду былі арыштаваныя



У 1990 годзе мастак Алесь Пушкін пасьля заканчэньня Тэатральна-мастацкага інстытуту прыехаў працаваць у Віцебск. Меў неверагодную на той час ідэю — адкрыць прыватную галерэю сучаснага мастацтва.

Папрасіў дапамогі ў беларускай дыяспары ў ЗША. Тыя сабралі тысячу даляраў. Другую тысячу зарабіў сам на рэстаўрацыі. Паўтысячы зь іх пайшлі на хабар аднаму з кіраўнікоў віцебскіх камсамольцаў. Так атрымаў у доўгатэрміновую арэнду памяшканьне ў цэнтры гораду ў будынку XVII стагодзьдзя. На астатнія грошы зрабіў рамонт.

І 23 сакавіка 1993 году ў 0 гадзінаў 12 хвілінаў на вуліцы Суворава (былой Узгорскай) выставаю постмадэрністаў адкрылася галерэя «Ў Пушкіна». Гаспадар сабраў разам творы самых таленавітых мастакоў свайго пакаленьня — Натальлі Залознай, Ігара Цішына, Сяргея Грыневіча, Руслана Вашкевіча, Сержука Цімохава, Сержука Бабарыкі, Вавэна Юрчанкі, Алеся Ксяндзова, Васіля Васільева, скульптараў Алекса Міронычыка, Юрася Анушкі.

Аж да 1996 году адбываліся ў галерэі шматлікія выставы, пэрформансы, не сумяшчальныя з паняцьцем «сацыялістычны рэалізм». Пачаўся ціск на Пушкіна, перадусім фінансавы. Стала зразумела, што ўлады ўсё роўна не дадуць яму жыцьця. І мастак імгненна пагадзіўся на прапанову сябра, паэта Славаміра Адамовіча, правесьці ў галерэі зьезд беларускіх нацыяналістаў.

26 лістапада 1996 году, перад днём Караткевіча, які ў Віцебску найноўшымі часамі рэгулярна ладзілі

мясцовыя патрыёты, на зьезд сабраліся 35 дэлегатаў. Успамінае **Алесь Пушкін:**

> «Мы выступалі, і раптам адчыняюцца дзьверы і заходзіць палкоўнік міліцыі. Кажа, паступіў званок, што будынак замінаваны, а таму просьба пакінуць памяшканьне, а хто не пакіне, выведуць сілаю. І пачалі ачапляць галерэю. Пад'ехалі машыны, павыскоквала шмат міліцыянтаў. Нас усіх выштурхнулі, паставілі пост і цэлы дзень дзяжурылі. Мы тым часам перайшлі ў маю майстэрню. Скончылі зьезд увечары, а раніцой 27 лістапада мы запалілі паходню і пайшлі да помніку Караткевічу, каб ускласьці вянок. Там нас і арыштавалі. Мне далі 15 сутак, Адамовічу — 10, Рамашэўскаму — 10, Карпаву — 7. Астатнія ўцяклі. Але людзі, якія засталіся, зноў пашыхтаваліся, зноў узьнялі сьцяг і пайшлі».

А затым у турму да Пушкіна завіталі людзі з гарадзкога Савету і сказалі, што дамова зь ім касуецца, бо памяшканьне давалася для мастацкай дзейнасьці, а не для палітычнай. І параілі мастаку зьвярнуцца ў суд, калі ён хоча атрымаць кампэнсацыю за рамонт.

У суд Пушкін падаваць ня стаў, а дакумэнты трымае да лепшага часу, калі зьменіцца склад Савету:

> «Я пастаўлю пытаньне перад гарадзкім Саветам аб вяртаньні памяшканьня па вуліцы Суворава, 2 для адкрыцьця зноў галерэі. І калі ў Віцебску зноў адкрыецца галерэя «Ў Пушкіна», значыць, прыйшла свабода».



## Поле нацыянальнай славы

# КРАПІВЕНСКАЕ ПОЛЕ ПАД ВОРШАЙ

Тут з 1991 году рэгулярна адбываецца фэст бардаўскай песьні ў гонар вялікай перамогі войска ВКЛ над войскам Маскоўскай дзяржавы 8 верасьня 1514 году. Шмат разоў улады перашкаджалі правядзеньню культурніцкай патрыятычнай акцыі, затрымлівалі й арыштоўвалі яе ўдзельнікаў

Крапівенскае поле, дзе 8 верасьня 1514 году 30-тысячная армія нашай дзяржавы на чале з гетманам Канстанцінам Астроскім здабыла бліскучую перамогу над 80-тысячным маскоўскім войскам, беларускія патрыёты лічаць полем нацыянальнай славы. Там у 1989 годзе мясцовы краязнаўца Алесь Сярожкін паставіў шасьціканцовы крыж. У жніўні 1991 году двое аршанцаў — бард Андрэй Мельнікаў і журналіст Юрка Копцік — зладзілі на паляне, дзе рэчка Крапіўна ўпадае ў Дняпро, фэст аўтарскай песьні. Удзел у гэтай тады яшчэ камэрнай імпрэзе ўзялі некалькі выканаўцаў — Андрэй Мельнікаў, Вольга Акуліч, Зьміцер Сідаровіч, Лера Сом — і крыху болей слухачоў.

А налета, 4 верасьня 1992 году, фэстываль ужо адбываўся з размахам — прысутнічалі каля 200 гледачоў з усяе Беларусі. На Крапівенскае поле тады прыехалі і сябры Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. Тут было здарылася тое, што праз некалькі дзён паўтарылася на плошчы Незалежнасьці ў Менску, — успамінае **Юрка Копцік:**

> **«**Упершыню ў гісторыі Беларусі яе вайскоўцы прысягалі на вернасьць радзіме. У ходзе фэстывалю кожны, хто хацеў, прысягаў і расьпісваўся ў прысяжным лісьце».

У 1993 годзе ўлады рэзка памянялі стаўленьне да патрыятычнай культурнай імпрэзы. Правакатары кралі грошы і гітары, рэзалі намёты і абразалі драты ад апаратуры. У 1995 годзе дайшло да пабоішча, а наўздагон — у прэсе шалёнае цкаваньне арганізатараў і ўдзельнікаў акцыі сэнтэнцыямі кшталту: на Крапівенскім полі зноў забіваюць пад бел-чырвона-белымі сьцягамі.



У 2000 годзе аршанскі Культурна-асьветніцкі цэнтар імя Ўладзімера Караткевіча на чале з Ларысай Кудраўцавай і Генадзем Шэпелевым аднаўляе фэст. І зноў правакацыі, апагей якіх прыпаў на 2007 год. Менавіта ў дзень фэсту ўладам спатрэбілася шукаць у Дняпры артылерыйскія знарады, якіх, натуральна, там не было. Аблога ахапіла Аршанскі й Дубровенскі раёны: сотні людзей затрымалі на вакзалах, дарогах, іх замыкалі ў пастарунках і нават арыштоўвалі, — успамінае Юрка Копцік:

> «Паводле роўню разгорнутай апэрацыі, назавем яе «Ахтунг: Песьня!», паводле прыцягненьня сілаў на тую апэрацыю на асобна ўзятай тэрыторыі яна супастаўная толькі з экспэдыцыямі нямецкіх карнікаў супраць беларускіх партызанаў у 1942-44 гадох».

Крапівенскае поле памятае ня толькі бой паміж старажытнымі беларускім і расейскім войскамі, але і зацятае змаганьне сучасных уладаў Беларусі супраць беларускага народу, які вольна сьпявае.

## Шляхам Слуцкага збройнага чыну

МЯСТЭЧКІ СЕМЕЖАЎ І ГРОЗАЎ (ВЁСКІ СЕМЕЖАВА І ГРОЗАВА КАПЫЛЬСКАГА РАЁНУ) — МЯСТЭЧКА ВЫЗНА (Г.П. ЧЫРВОНАЯ СЛАБАДА САЛІГОРСКАГА РАЁНУ) — ГОРАД СЛУЦАК

Гэтым памятным шляхам нацыянальна-дэмакратычная грамадзкасьць з 1992 году ўшаноўвае памяць герояў Слуцкага збройнага чыну — Слуцкага Фронту рэгулярнай арміі БНР і народнага паўстаньня супраць акупацыі, за незалежнасьць Беларусі



Увосень 1920 году Случчына апынулася ў «нэўтральнай зоне» паміж Польшчай і Расеяй. Беларускі Зьезд Случчыны ў доме Вайніловіча (цяпер Слуцкі краязнаўчы музэй, вул. Леніна, 171) прысягнуў Беларускай Народнай Рэспубліцы. 26–27 лістапада ўтвораная пераважна зь мясцовых сялянаў і ўзначаленая беларускімі афіцэрамі Першая Беларуская Слуцкая Дывізія ўступіла ў бai з Чырвонай арміяй, баронячы волю й незалежнасьць нашага народу.

Упершыню ўгодкі Слуцкага збройнага чыну ў найноўшай гісторыі Беларусі адкрыта сьвяткавалі ў 1991 годзе ў Доме літаратара. У канцы вечарыны ўсіх вядомых ваяроў назвалі паіменна.

Надалей дэмакратычная грамадзкасьць пачала адзначаць Дзень Беларускай вайсковай славы — Дзень герояў 27 лістапада ў Слуцку ды іншых паселішчах, дзе фармавалася войска і адбываліся бai з бальшавікамі. Прафэсар гісторыі **Анатоль Грыцкевіч** лічыць гэта вельмі важным для разуменьня свабоды ў сучаснай Беларусі:

> «Гэта быў апошні акорд вайны за незалежнасьць у 1920 годзе. Ён паказаў усяму сьвету, што тагачасныя беларусы не згаджаліся з падпарадкаваньнем ані Расеі, ані Польшчы, а стаялі за незалежнасьць. Незалежнасьць была асноўнай ідэяй Слуцкага збройнага чыну. Таму мы павінны яго ўспамінаць, і найперш — вучыць яму моладзь. У школах гэтую тэму замоўчваюць, пачалі ўнікаць яе апошнім часам і ва ўнівэрсытэтах. Хаця частка моладзі ведае пра гэты чын, і моладзевыя нацыянальныя арганізацыі сьвяткуюць гэтую дату».

З пачатку 1990-х гадоў Беларускі Народны Фронт пасьпеў паставіць на месцах змаганьняў тры крыжы, — кажа кіраўнік сэкцыі «Мэмарыял» Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі й культуры **Вячаслаў Сіўчык.** І ён спадзяецца,

> «…што колькасьць мэмарыяльных знакаў, зьвязаных з Слуцкім збройным чынам, будзе павялічаная, іх ужо цяпер можна паставіць дзясяткі. Але ж для гэтага патрабуецца спрыяньне ўлады, якога абсалютна няма».

Штогод у лістападзе дэмакратычныя актывісты ладзяць вандроўкі па мясьцінах змаганьня герояў Слуцкага збройнага чыну, ля крыжоў памяці ўскладаюць кветкі й разгортваюць бел-чырвона-белыя сьцягі. Каб правесьці вандроўку, вымушаныя зьвяртацца па дазвол да ўладаў. І нават атрымаўшы яго, трапляюць пад пільнае вока міліцыянтаў і супрацоўнікаў КДБ. Так было і ў 2008 годзе, — кажа старшыня Таварыства аховы помнікаў **Антон Астаповіч**:

> «На ўсім маршруце нас пільнавалі міліцыянты. Даводзілася папярэджваць, што мы не парушаем заканадаўства, прытрымліваемся правілаў экскурсійнага наведваньня гістарычных мясьцінаў сваёй Бацькаўшчыны».

Узьнікла і новае пачынаньне патрыятычных моладзевых арганізацыяў: там новадалучаныя сябры прысягаюць на вернасьць Беларусі.

Дасьледніца антысавецкага супраціву ў Беларусі 1920-х гадоў **Ніна Стужынская** перакананая, што

> «…тыя людзі зрабілі калясальны падмурак сёньняшняй незалежнай Беларусі. Гэта рэспэктабэльная гісторыя для стварэньня сучаснай ідэалёгіі».



# Сьцягі Мірона над Віцебшчынай

## МЯСТЭЧКА ЛЁЗНА, ВУЛІЦА ДАБРАМЫСЬЛЯНСКАЯ, 11. КАЦЕЛЬНЯ ГАРОДНІНАСУШЫЛЬНАГА ЗАВОДУ

На коміне кацельні Мірон — легендарны герой найноўшай гісторыі Беларусі — улетку 1995 году ўпершыню вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг на знак пратэсту супраць скасаваньня дзяржаўнага статусу нацыянальнай сымболікі

Неўзабаве пасьля рэфэрэндуму 14 траўня 1995 году, які скасаваў дзяржаўны статус беларускай нацыянальнай сымболікі, высока ў небе над раённым цэнтрам Лёзнам залунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Той, хто яго павесіў, пакінуў цыдулку «Вярніце народу гістарычную памяць» і падпісаўся: «Мірон».

Расказвае віцебскі апазыцыянэр **Барыс Хамайда**, найбольш абазнаны ў сотнях зьдзяйсьненьняў няўлоўнага Мірона:

> «Комін быў вышынёй мэтраў трыццаць-сорак, і на ім быў замацаваны бел-чырвона-белы сьцяг. А да яго прымацаваная каробачка з надпісам «замінавана». Міліцыянты пабаяліся лезьці на комін і пачалі страляць з дробнакалібэрнай вінтоўкі па гэтай каробачцы. Яны думалі, што сапраўды там міна, а гэта аказаўся муляж. Была распачатая крымінальная справа за хуліганства. Шукалі гэтага Мірона, але так і не знайшлі. Так пачаў Мірон свой супраціў уладзе, каб паказаць ёй, што гэты сымбаль немагчыма зьнішчыць ніякімі рэфэрэндумамі, ніякімі ўказамі ці дэкрэтамі».

Амаль паўтара дзесяцігодзьдзя Мірон рэгулярна вывешвае сьцягі да нацыянальных беларускіх сьвятаў, важных гістарычных датаў, вызначальных для лёсу краіны палітычных падзеяў. У 2008 годзе ў гонар 90-годзьдзя БНР ён вывесіў больш як два дзясяткі сьцягоў. Пасьля падпісаньня дамовы аб гэтак званай саюзнай дзяржаве Расеі й Беларусі ён папярэджваў: таго, хто першы падпіша дамову аб аншлюсе Беларусі, напаткае лёс Мусаліні. Дзейнічае Мірон ня толькі на Віцебшчыне, але і ў іншых гарадох і мястэчках краіны.



Вывешвае сьцягі дзёрзка, у цяжка даступных месцах, часта на дратох высакавольтных лініяў, на будынках дзяржаўных установаў. Другі раз усчалі крымінальную справу супраць Мірона пасьля таго, як ён на будынку Віцебскага аблвыканкаму замяніў чырвона-зялёны сьцяг на бел-чырвона-белы. І зноў Мірона не злавілі.

У 2000 годзе, пасьля таго як павесіў сьцяг на коміне Віцебскай ЦЭЦ, Мірон ледзь не папаўся, — узгадвае Барыс Хамайда:

> «Калі ён спускаўся з коміну, яго ўбачыў вартаўнік. На твары ў Мірона была чорная хустка. Але падстрахоўваў Мірона Ўладзімер Плешчанка, цяпер ужо нябожчык. Ён падскочыў да вартаўніка, паказаў яму нейкую чырвоную кніжачку і сказаў, што зьяўляецца супрацоўнікам міліцыі і што гэтага чалавека яны ўжо шмат гадоў шукаюць. І перашкодзіў вартаўніку пагнацца за ім. Я лічу, што Мірона ніколі ня знойдуць, бо і акцыі вельмі ўдала рыхтуюцца, і герой вельмі спрытны».

У Мірона зьявілася шмат пасьлядоўнікаў. Дзёрзкія вывешваньні бел-чырвона-белых сьцягоў у самых нечаканых публічных месцах — адна з формаў супраціву рэжыму А.Лукашэнкі.

Мірон, які нечым нагадвае гішпанскага Зора, — найярчэйшая легенда найноўшай гісторыі Беларусі. Яму нават верш прысьвяціў **Рыгор Барадулін**:

> «Дрыжэце і калхозны трон,
> і падхалімскія капэлы,
> калі вывешвае Мірон
> сьцяг родны бел-чырвона-белы».

# Страйк на Менскім мэтрапалітэне

## МЕНСК, ВУЛІЦА ФАБРЫЦЫЮСА, 24. МАСКОЎСКАЕ ЭЛЕКТРАДЭПО МЕНСКАГА МЭТРАПАЛІТЭНУ

З 17 па 21 жніўня 1995 году адбыўся страйк працаўнікоў Менскага мэтрапалітэну — сяброў Свабоднага прафсаюзу, якія дамагаліся паляпшэньня эканамічных умоваў працы. Страйк быў жорстка здушаны ўладамі, яго ўдзельнікаў на гады ўнесьлі ў чорныя сьпісы



Раніцой 17 жніўня 1995 году тысячы жыхароў Менску не змаглі дабрацца да працы. Некалькі гадзінаў не хадзілі цягнікі мэтро. Машыністы, іхныя памочнікі й сьлесары вагоннага дэпо Менскага мэтрапалітэну — сябры суполкі Свабоднага прафсаюзу — абвясьцілі страйк. Яны пратэставалі супраць парушэньня кіраўніцтвам мэтро калектыўнай дамовы й тарыфнага пагадненьня.

Перамовы з прадстаўнікамі ўладаў, якія зьявіліся ў дэпо, не далі плёну — страйк працягваўся. Тады ўлады знайшлі штрайкбрэхераў — машыністаў электрычак Беларускай чыгункі й цягнікоў маскоўскага мэтро, якіх спэцыяльным авіярэйсам з расейскай сталіцы даставілі ў Менск. Падземны рух быў адноўлены, але страйк працягваўся.

Падзеі дасягнулі кульмінацыі 19 жніўня. Расказвае тагачасны кіраўнік Свабоднага прафсаюзу **Генадзь Быкаў:**

> «Калі людзі знаходзіліся на сваіх працоўных месцах у Маскоўскім дэпо, іх акружыла міліцыя. АМОН прыехаў з сабакамі, шмат машын хуткай дапамогі. Калі мне патэлефанавалі й запыталіся, што нам рабіць, я сказаў — калёнай ісьці да офісу Свабоднага прафсаюзу на плошчы Свабоды».

Людзі прыйшлі, болей як дзьвесьце чалавек.

> «Але, — узгадвае колішні машыніст-інструктар і актыўны ўдзельнік тых падзеяў **Сяргей Пісарэнка**, — там ужо былі людзі ў масках, са шчытамі. Пасьля прыехаў моцна экіпаваны АМОН, і я пабачыў вельмі шмат машын і вайскоўцаў. Тут пачалі хапаць людзей, і гэта было страшна. Як пры пінаЧэтаўскім рэжыме: хапаюць, кідаюць у машыну, ускокваюць

> самі й зьяжджаюць. Нейкаму машыністу крыкнулі: «Стой!» — той пабег у бок Кастрычніцкай плошчы, дык пачалі страляць зь пісталета ў паветра. У таго машыніста ад стрэсу нават язва адкрылася, і ён у шпіталь патрапіў. Шок быў. І калі наяве гэта ўсё бачыш, з табою побач, — гэта ўсё страшна».

Пачаліся арышты, суды, звальненьні. Шэраг удзельнікаў страйку апынуліся за кратамі. 56 чалавек звольнілі, і цягам гадоў яны не маглі ўладкавацца на працу. Пазьней адпомсьцілі астатнім: з розных прычынаў урэшце звольнілі некалькі соцень чалавек.

1995 год у Беларусі вызначыўся масавымі выступамі працоўных, якія перадусім патрабавалі падвышэньня заробкаў. Страйк на Менскім мэтрапалітэне быў задушаны асабліва жорстка і паказальна для іншых. Пазьней улады застрахаваліся заканадаўствам, якое зрабіла легальныя страйкі фактычна немагчымымі.



# Свабодны прафсаюз Беларускі і газэта «Рабочы»

## МЕНСК, ПЛОШЧА СВАБОДЫ, 23

У гэтым будынку з 1991 па 2005 год месьціўся Свабодны прафсаюз Беларускі, які ачольваў барацьбу працоўных за свае правы, за што быў разгромлены ўладамі. Таксама тут з 1997 году працавала рэдакцыя газэты «Рабочы». У 2002 годзе рэжым яе зачыніў, а рэдактар Віктар Івашкевіч быў зьняволены

Свабодны прафсаюз Беларускі быў утвораны на хвалі страйкаў 1991 году і ўжо ў 1995 годзе аб'ядноўваў 10 тысячаў чалавек. Улады адчулі небясьпеку, пачалі наступ.

Тады беларуская дэмакратычная апазыцыя ўтварае Камітэт абароны працоўных, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі БНФ, АГП, беспартыйныя. Кіраўнік Свабоднага прафсаюзу Беларускага Генадзь Быкаў, сам сябра БНФ, пацісну́ў працягнутую руку палітыкаў.

З 1997 году яны сумесна выдаюць газэту «Рабочы». Газэта, рэдакцыя якой месьцілася ў тым жа будынку, дзе і прафсаюзы, і якую ачольваў сябра БНФ Віктар Івашкевіч, дапамагала рабочым абараняць свае правы. Так, увосень 1998 году рэдакцыя й свабодныя прафсаюзы сталі ініцыятарамі буйнога мітынгу на трактарным заводзе, у якім узялі ўдзел некалькі тысячаў чалавек.

Улады ўзмацнілі вайну супраць новай маладой сілы свабоды. Першы жорсткі ўдар быў нанесены па газэце «Рабочы». У 2001 годзе ў часе прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі ў ёй быў надрукаваны артыкул «Злачынца павінен сядзець у вязьніцы», за які **Віктар Івашкевіч** быў засуджаны на два гады абмежаваньня волі за «паклёп на прэзыдэнта». Гаворыць былы рэдактар і палітычны вязень:

> «Мы проста зрабілі кампіляцыю з тых матэрыялаў, што друкаваліся ў расейскай, польскай прэсе, у інтэрнэце. Зыходзячы з закону аб СМІ, дзе сказана, што перадрук зь іншых выданьняў ня цягне адказнасьці за зьвесткі, зьмешчаныя ў гэтых матэрыялах, мы і перадрукавалі іх з пазначэньнем крыніцаў. Там было пра вядомыя справы — пра продаж самалётаў дыктатару з Пэру, пра фонд Эсамбаева, які вызваляўся ад мытных збораў, таксама зьвесткі пра гандаль зброяй і гарэлкай. У матэрыяле былі названыя абсалютна канкрэтныя прозьвішчы, фірмы. Але суд палічыў гэта „паклёпам на прэзыдэнта“».



Нумар ня трапіў да чытачоў, увесь наклад сканфіскавалі, а газэту зачынілі.

Затым настала чарга Свабодных прафсаюзаў. Спачатку іх выселілі з дому на плошчы Свабоды, а пасьля і з другога офісу — на вуліцы Захарава, 24. Пачаўся адміністрацыйны адстрэл прафсаюзных актывістаў, — тлумачыць іх былы лідэр **Генадзь Быкаў:**

> **«**Пачалі звальняць з заводаў лепшых работнікаў, якія былі ў нас. І асабліва калі ўвялі кантракты. Зьверху заводзкай адміністрацыі даецца каманда дзейнічаць у любы спосаб, каб не было ніякіх свабодных прафсаюзаў. Чалавек ставіцца перад выбарам: ці праца, дабрабыт сям'і, ці прафсаюз. І калі ён, прыкладам, вузкі спэцыяліст, то выбар невялікі. Засталіся самыя непахісныя».

## Чарнобыльскі шлях — 1996

# МЕНСК,
# ПРАСПЭКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ, 47

Насупраць гэтага дому 26 красавіка 1996 году ў часе Чарнобыльскага шляху адбылося жорсткае сутыкненьне мірных дэманстрантаў зь міліцыяй. Пралілася кроў. Сотні дэманстрантаў былі арыштаваныя



Ані заяўнікі акцыі Юры Хадыка і Генадзь Карпенка, ані міліцыя не чакалі, што болей як 50 тысячаў чалавек 26 красавіка 1996 году возьмуць удзел у мірнай дэманстрацыі, прымеркаванай да 10-годзьдзя Чарнобыльскай катастрофы.

Яшчэ многія ўдзельнікі Чарнобыльскага шляху заставаліся на месцы збору ля Акадэміі навук, калі галава жалобнай калёны перайшла плошчу Якуба Коласа. Тут і адбылася раней ня бачаная на вуліцах Менску бойка з мноствам параненых, пралітай на асфальт і бел-чырвона-белыя сьцягі крывёю.

Праз гады прафэсар **Юры Хадыка** перакана괜ы:

> «Гэта была, безумоўна, правакацыя міліцыі. Людзей было так многа, што яны запоўнілі ўсю вуліцу. І галава калёны ўперлася ў міліцэйскія аўтамабілі, пастаўленыя ўпоперак дарогі. Некалькі легкавікоў былі перакуленыя. Людзі хлынулі далей, і тут адбылася сутычка зь міліцыянтамі. Вынікам — каля 200 чалавек з ранамі зьвярнуліся ў мэдычныя ўстановы. 27 камэраў здымалі шэсьце, але ніводная зь іх не зафіксавала вінаватых».

І далей некалькі разоў міліцыя й спэцназ у шаломах і са шчытамі перакрывалі шлях калёне. Ля мосту на Нямізе адбылася яшчэ адна сутычка. Вялікі мітынг прайшоў ля Палаца спорту. Упершыню там загаварылі пра палітычны Чарнобыль — дыктатуру, здачу незалежнасьці, русыфікацыю.

Затым пачаліся арышты. Некалькі соцень чалавек кінулі ў турмы. Схапілі ўсё кіраўніцтва БНФ. Супраць Юр'я Хадыкі й Вячаслава Сіўчыка распачалі крымінальную справу, абвінаваціўшы іх у арганізацыі масавых беспарадкаў. Тады ж абодва ў турме на Ва-

ладарцы некалькі тыдняў трымалі галадоўку — адну зь першых у часе прэзыдэнцтва А. Лукашэнкі. А праз некалькі дзён пачаліся новыя выступы дэмакратычных сілаў, цяпер — супраць арышту ўдзельнікаў Чарнобыльскага шляху. Тыя падзеі ўвайшлі ў гісторыю нацыянальнага вызвольнага руху пад красамоўным азначэньнем «Гарачая вясна-96».

Правядзеньне Чарнобыльскіх шляхоў штогод сутыкаецца з супрацьдзеяньнем уладаў, якія іх баяцца. Кажа прафэсар **Юры Хадыка**:

> «Чарнобыльскія шляхі ад самага пачатку мелі палітычны характар змаганьня за свабоду. Першая масавая «чарнобыльская» дэманстрацыя ў верасьні 1989 году, якая прайшла па Менску з дазволу ўраду, была ня толькі ў абарону насельніцтва ад радыяцыі, але і супраць таго ўраду, які хаваў праўду пра катастрофу. Гэта ніколі не супрацьпастаўлялася. Канечне, у выступах галоўны націск рабіўся на тое, што ўрад ня робіць захадаў для абароны людзей, для кампэнсацыі стратаў. Але адначасна гэта быў пратэст супраць дзейнага ўраду».

З таго часу Чарнобыльскі шлях — традыцыйна адна з цэнтральных падзеяў вясновых выступаў апазыцыі.



## Радыё 101,2

# МЕНСК, ВУЛІЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ, 8А

У гэтым доме ад 21 ліпеня 1995 па
31 жніўня 1996 году месьцілася рэдакцыя
першай недзяржаўнай бесцэнзурнай
беларускамоўнай радыёстанцыі
«Радыё 101,2»

«Радыё 101,2» было самым свабодным і самым экспэрымэнтальным у гісторыі айчыннага радыёперадаваньня. Яго стварылі Жанна Літвіна і журналісты зачыненай раней уладамі дзяржаўнай радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная».

У наўпроставым этэры маглі выказваць меркаваньні прадстаўнікі і апазыцыі, і ўлады, і людзі навукі, мастацтва, і проста шараговыя слухачы. Незалежнасьць краіны й дэмакратычныя свабоды былі прыярытэтнымі каштоўнасьцямі для калектыву. Ён першы ў краіне прадэманстраваў, што такое абмен інфармацыяй з замежнымі калегамі. На «Радыё 101,2» гучалі перадачы Бі-Бі-Сі, Польскага радыё, Дойчэ Вэле.

Радыё працавала ў інфармацыйна-музычным фармаце. Свабодная думка, нецэнзураваныя навіны, неабыякавасьць інтанацыяў вядоўцаў імгненна зрабілі станцыю папулярнай.

Культывавалася якасная ўсясьветная і беларуская музыка. Прынцыпова не гучала расейская папса. Адзін зь вядучых радыё **Генадзь Кесьнер** падкрэсьлівае, што нават падводкі да песень былі радыёжурналістыкай:

> «Гэта была альтэрнатыва. Прычым мы, адрозна ад іншых FM-станцыяў, спрабавалі даносіць інфармацыю пра падзеі ў краіне ня толькі ў навінах, якія самі рабілі, але і ў гумарыстычных прагнозах надвор'я, і ў падводках да асобных кампазыцыяў. Гэта была цалкам беларускамоўная станцыя».

І вось быў наблізіўся рэфэрэндум 24 лістапада 1996 году, які незаконна зьменіць Канстытуцыю і надасьць прэзыдэнту дыктатарскія паўнамоцтвы. Такая папулярная крыніца незалежнай інфармацыі, як «Радыё 101,2», замінала плянам прэзыдэнцкай каманды.



Кіраўніца радыёстанцыі **Жанна Літвіна** ўзгадвае наўпроставы этэр з старшынём Вярхоўнага Савету 13 склікаdebugньня Сямёнам Шарэцкім:

> «Калі прагучала ў этэры пытаньне, ці маеце вы магчымасьць мець аўдыторыю большую, чым аўдыторыя «Радыё 101,2», і ці можаце вы на Беларускай тэлевізіі ці на дзяржаўным радыё гэтак жа свабодна распавядаць пра сучасную палітычную й эканамічную сытуацыю, Сямён Шарэцкі адказаў, што ў яго іншай магчымасьці няма. Калі прагучаў гэты адказ, шчыра кажучы, у мяне абарвалася сэрца. Зразумела, што за радыёстанцыяй ужо сочаць, што гэты факт незаўважаным не застанецца. Так і сталася. Ужо праз месяц надышоў той сумны дзень, 30 жніўня, калі калектыў рэдакцыі атрымаў службовы факс, у якім сьцьвярджалася, што перадатчык «Радыё 101,2» робіць нейкія некаму тэхнічныя перашкоды, і калектыву паведамлялася, што 31 жніўня стане апошнім днём яго перадаваньня».

Радыё праіснавала ўсяго толькі год і сорак дзён. 31 жніўня вядучыя Вольга Бабак і Ірына Курапаткіна ў наўпроставым этэры паведамілі, што праз некалькі хвілінаў яны спыняць перадаваньне, і папрасілі кіроўцаў аўтамабіляў пасыгналіць на разьвітаньне. Менск напоўніўся аўтамабільнымі гудкамі.

# Пэрформансы ля будынку прэзыдэнцкай адміністрацыі

## МЕНСК, ВУЛІЦА КАРЛА МАРКСА, 38

Насупраць будынку Адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі ў часы кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі беларуская інтэлігенцыя, нягледзячы на рэпрэсіі, ладзіла акцыі пратэсту ў форме дасьціпных палітычных пэрформансаў супраць дыктатуры й здушэньня свабоды



Апоўдні 21 ліпеня 1999 году ля цэнтральнага пад'езду будынку Адміністрацыі прэзыдэнта на вачох дзясятка незалежных журналістаў мастак **Алесь Пушкін** зладзіў дзёрзкі й эфэктны пэрформанс. Расказвае аўтар і выканаўца:

> «Мой пэрформанс меў на мэце паказаць, што інтэлігенцыя — супраць узурпацыі ўлады Лукашэнкам. Я доўга думаў і спыніўся на народнай мэтафары гною. У гной складзеная была ягоная каляніяльная атрыбутыка, дэнамінаваная тысяча рублёў, кайданкі. Толькі шкадую, што забыўся пакласьці Канстытуцыю 1996 году, якую ён зьмяніў. Я наняў вясковага хлопца, і ён, ня ведаючы, што і куды вязе, прывёз мяне а 12-й гадзіне да тэатру імя Янкі Купалы, дзе быў рамонт. Я выкаціў гэты вазок з гноем да параднага пад'езду дому на Карла Маркса, 38. Калі выбег міліцыянт і перагарадзіў мне шлях ля самага ганку, я вывернуў вазок і зрабіў гэтае містычнае дзеяньне: віламі з усяго размаху прыбіў партрэт Аляксандра Лукашэнкі да гною. Быў выкліканы АМОН, мяне даставілі ў пастарунак міліцыі. Там я доўга не называў свайго імя. Я толькі казаў: «Так трэба. Імя маё невядома, подзьвіг мой бесьсьмяротны». Яны дужа рагаталі. І я сам зь імі рагатаў».

Праз 12 гадзінаў Алеся Пушкіна выпусьцілі, а судзілі праз чатыры месяцы — ён атрымаў два ўмоўныя гады пазбаўленьня волі.

Ладзіць акцыі пратэсту ля будынку прэзыдэнцкай адміністрацыі апазыцыйная грамадзкасьць імкнулася шмат разоў. Як правіла, дэманстрацыі спыняліся міліцыяй і АМОНам на падыходах да гэтага месца. А вось нешматлікія пэрформансы часам удавалася

зладзіць, але не ля ганку, як гэта зрабіў Пушкін, а цераз дарогу, у сквэры.

24 траўня 1995 году некалькі дзясяткаў студэнтаў выказвалі пратэст супраць вынікаў рэфэрэндуму, які скасоўваў дзяржаўны статус нацыянальнай сымболікі. Старшыня Партыі аматараў піва Андрэй Рамашэўскі ўзьняў чырвона-зялёны сьцяг на разьмешчанай у сквэры гарадзкой прыбіральні. Калі сьцяг быў зьняты, яго падралі на кавалкі (за прыкладам прэзыдэнцкага «заўхоза» Івана Ціцянкова, які пасьля рэфэрэндуму разадраў на даху Адміністрацыі бел-чырвона-белае палотнішча) і перад тэлекамэрамі спалілі. Удзельнікаў акцыі арыштавалі.

Мастацкі пэрформанс як форму палітычнай барацьбы запачаткаваў у Беларусі Алесь Пушкін. Тады яшчэ студэнт Тэатральна-мастацкага інстытуту, ён у 1989 годзе на ўгодкі БНР выехаў з аркі роднага інстытуту на Ленінскі праспэкт на кані ў вобразе вершніка з гербу «Пагоня». Сярод самых моцных ягоных мастацкіх акцыяў пратэсту — фрэска ў Бобраўскай царкве, дзе сярод грэшнікаў ён намаляваў людзей, падобных да прэзыдэнта Беларусі й менскага мітрапаліта.

Бальшыня такіх акцыяў і Алеся Пушкіна, і ягоных пасьлядоўнікаў завяршаліся судамі.



# Дзеі пратэсту Славаміра Адамовіча

## МЕНСК, ПЛОШЧА БАНГАЛЁР

30 жніўня 1997 году на гэтай плошчы, куды з цэнтру гораду рэжым выцясьняў акцыі апазыцыі, паэт Славамір Адамовіч публічна зашыў сабе рот на знак пратэсту супраць задушэньня свабоды слова

Менскую плошчу зь дзіўным для беларускага вуха індыйскім назовам Бангалёр многія ўдзельнікі апазыцыйных рухаў 1990-х — пачатку 2000-х гадоў гатовыя ўключыць у сьпіс адрасоў не свабоды, а ганьбы. Бо менавіта гэтую плошчу, у баку ад урадавых і грамадзкіх установаў, Лукашэнкава ўлада вызначыла месцам, дзе апазыцыйныя сілы маюць права дэманстраваць свае пратэсты.

Але там усё ж адбыўся шэраг гучных акцыяў. Адна зь іх, у абарону свабоды слова, на гэтым несвабодным месцы стала нават сымбалічнай.

30 жніўня 1997 году беларускія журналісты наладзілі дэманстрацыю на знак салідарнасьці з карэспандэнтам расейскага тэлеканалу ОРТ Паўлам Шараметам, які сядзеў у турме ў Беларусі.

У той дзень гэты задворак сталіцы ўвасабляў вязьніцу, а трынаццаць журналістаў, апранутых у турэмныя робы з кратамі ў руках, — яе вязьняў.

У часе дэманстрацыі паэт Славамір Адамовіч нечакана выняў з кішэні мэдычную іголку зь ніткай і зашыў сабе рот.

Паэт толькі што выйшаў з турмы, у якой ён правёў 10 месяцаў за напісаны ім саркастычны верш «Убей президента». **Славамір Адамовіч** кажа, што форму пратэсту ён вынес менавіта з турмы:

> «Там я пачуў пра гэта і сказаў сабе, што, на жаль, на волі, напэўна ж, гэта давядзецца скарыстаць. Акт зашываньня роту, як і лёзунг «Ня вер, ня бойся, не прасі», нарадзіў яшчэ ў 1930-я гады вялікі кантынгент савецкіх палітычных зьняволеных у якасьці, я сказаў бы, духоўнага акту супраціву».



Гэта быў палітычны заклік да іншых не маўчаць, змагацца з дыктатурай у любы спосаб. Хаця праз гады пасьля яе Адамовіч лічыць, што верш «Убей президента» меў большы плён:

> «Верш меў свой рэзананс і, на жаль, застаецца актуальным. Ён працягвае рабіць справу. Калі актам зашываньня роту я рабіў балюча сабе, дык вершам я рабіў балюча майму палітычнаму апанэнту».

Акцыі з удзелам Славаміра Адамовіча — шэсьце з паходнямі ў Менску 27 ліпеня 1994 году, зьезд нацыяналістаў у Віцебску 27 лістапада 1996 году, сухая галадоўка пратэсту ў турме КДБ у тым жа годзе, зашываньне роту, эміграцыя ў Нарвэгію ў 2002 годзе — мелі выразна палітычны характар. А праз гады сталі прыгожымі легендамі змаганьня за свабоду.

## Беларускі Хэльсынскі камітэт

# МЕНСК, ВУЛІЦА РОЗЫ ЛЮКСЭМБУРГ, 67

У гэтым будынку з 2000 году працуе адна з асноўных праваабарончых арганізацыяў Беларусі — Беларускі Хэльсынскі камітэт



Грамадзтва ня можа быць свабодным, калі за дзеяньнямі ўлады няма грамадзкага кантролю. Гэтую ісьціну востра адчула беларуская інтэлігенцыя ў сярэдзіне 1990-х гадоў, калі ўлада Аляксандра Лукашэнкі пачала распаўсюджвацца на ўсё шырэйшыя сфэры жыцьця грамадзтва.

Ідэя стварэньня Беларускага Хэльсынскага камітэту, які б сачыў за датрыманьнем правоў і свабодаў чалавека, узьнікла ў ПЭН-Цэнтры. Ініцыятарамі стварэньня праваабарончай арганізацыі былі Васіль Быкаў, Карлас Шэрман, Рыгор Барадулін. Калі ў 1995 годзе быў створаны БХК, Васіль Быкаў стаў старшынём яго назіральнага сойму. Ачоліла БХК філёзаф Тацяна Працька. Сябры БХК — ад 400 да 500 праваабаронцаў ва ўсіх буйных гарадох.

Спачатку БХК меў сядзібу ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук на вуліцы Акадэмічнай, потым пад офіс здымалася кватэра на вуліцы Гікалы. А новае тысячагодзьдзе Беларускі Хэльсынскі камітэт сустрэў ва ўласным офісе на вуліцы Розы Люксэмбург. БХК заявіў пра сябе як пра ўплывовую міжнародную арганізацыю, зь якою лічацца і ў самой краіне, і за мяжой.

Ціск міжнародных арганізацыяў і ўрадаў заходніх краінаў грунтаваўся на маніторынгах, якія рабіў і Беларускі Хэльсынскі камітэт.

Асноўны мэтад дзейнасьці ўнутры краіны — звароты ад імя Хэльсынскага камітэту ў органы, якія парушылі правы чалавека. Высокакваліфікаваныя юрысты БХК, сярод якіх Гары Паганяйла і цяперашні старшыня Алег Гулак, робяць экспэртызу справы, выносяць заключэньне і дасылаюць у органы ўлады. І часам

іхныя звароты маюць вынік. Але, — кажа **Тацяна Працька**:

> «Самае галоўнае дасягненьне — гэта тое, што Камітэт існуе, бо ў нашай краіне гаварыць праўду і пісаць паперы на нэгатыўную дзейнасьць вышэйшых асобаў дзяржавы — гэта паставіць пад удар менавіта само сваё існаваньне. Дзяржава гэта разумела, і ўсе падатковыя справы, і абмежаваньне свабоды, якое мелі сябры Камітэту, і звальненьні з працы праваабаронцаў, і проста запужваньне — усё рабілася дзеля таго, каб не было Камітэту, каб ён быў маленькі, каб у яго не было сяброў, каб ён сваю дзейнасьць абмежаваў разглядам нейкіх сацыяльных пытаньняў, а не палітычных».

Беларускі Хэльсынскі камітэт працягвае працу — адстойвае права людзей на свабоду і вучыць іх свабодзе.



## Інтэлектуальныя студыі ў Беларускім калегіюме

## МЕНСК, ВУЛІЦА ВЕРЫ ХАРУЖАЙ, 16

Тут у бібліятэцы імя Янкі Купалы ў 1998 годзе пачынаў працу Беларускі калегіюм — незалежны інтэлектуальны цэнтар, дзе вучаць не прадметам, а свабодзе думкі й творчасьці

Беларускі калегіюм — два прыгожыя і крыху загадкавыя словы, якія зьявіліся ў лістападзе 1997 году. Імі назвалі ўнікальны адукацыйны праект, што паўстаў з ініцыятывы шэрагу няўрадавых беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў. З таго часу штогод некалькі дзясяткаў студэнтаў і нават людзей з унівэрсытэцкімі дыплёмамі прыходзяць у калегіюм. І вось тут загадка — дзеля чаго? Быццам бы вучыцца — філязофіі, літаратуры, гісторыі й журналістыцы.

Філёзаф **Валянцін Акудовіч** абвяргае гэта:

> «Кожны раз, калі я на сваё аддзяленьне набіраю студэнтаў, я ім кажу, што Калегіюм нічому ня вучыць, акрамя як свабодна мысьліць. Нашая галоўная задача — раскатурхаць, вызваліць. І найменей — палітычна. Для палітычнага вызваленьня ёсьць вуліца, газэты. Мы ж імкнемся вызваліць інтэлектуальна, творча. І таму прафэсуру выбіраем абсалютна адменную. Нашая прафэсура, акрамя таго што прафэсіяналы, — яшчэ і людзі, якія сваім жыцьцём, сваёй творчасьцю, сваім чынным удзелам у падзеях як палітычных, так і творчых давялі, што яны сябруюць са свабодай. Толькі асабістым прыкладам свабодзе можна навучыць, а не расказваць, якой яна можа быць».

Калегіюм — гэта яшчэ і альтэрнатыва заімшэлым традыцыям вышэйшай адукацыі ў Беларусі. Выкладчыкі выкарыстоўваюць заходне- і сярэднеэўрапейскія культурніцкія практыкі, сучасныя адукацыйныя тэхналёгіі ў навучальным працэсе й навуковых дасьледаваньнях. Прыярытэтам ёсьць каштоўнасьці адкрытага й дэмакратычнага грамадзтва.



Гэтаму ў калегіюме вучаць інтэлектуальныя зоркі незалежнай Беларусі — Захар Шыбека і Ўладзімер Арлоў, Валянцін Акудовіч і Алесь Анціпенка, Уладзімер Мацкевіч і Андрэй Хадановіч, Вольга Дашук і Максім Жбанкоў, Ігар Бабкоў і Пятро Васючэнка, і шмат хто яшчэ.

Мала які ўнівэрсытэт можа пахваліцца такой колькасьцю публікацыяў сваіх навучэнцаў, як Беларускі калегіюм. Толькі на аддзяленьні філязофіі й літаратуры штогод іх бывае больш за сотню. Таксама Калегіюм выдае свае часопісы — прыкладам, «Паміж», «Праўнік». Унікальным для Беларусі стаў часопіс перакладной літаратуры «ПрайдзіСьвет».

Выпускнікі калегіюму, а гэта не адна сотня чалавек, сёньня працуюць у рэдакцыях амаль усіх незалежных мэдыяў, у недзяржаўных унівэрсытэтах.

Паэтка **Аксана Спрынчан** называе калегіюм асяродкам свабоды:

> «Што ж называць асяродкам свабоды, калі не Беларускі калегіюм? Свабода — гэта творчасьць. Калегіюм — гэта месца, дзе няма адзнак, дзе няма розьніцы ўзростаў, дзе нават твой выпускны твор — эсэ — таксама вельмі свабодны жанр».

## Пікеты ля «сіняга дому»

# ВІЦЕБСК, ВУЛІЦА ЛЕНІНА, 28

Насупраць гэтага дому з 1992 году рэгулярна ладзяцца пікеты ў абарону дэмакратыі й свабоды



Усё пачалося ўзімку 1992 году, калі Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня арганізавала збор подпісаў за яго роспуск. Тады група віцебскіх дэмакратычных актывістаў, сярод якіх былі Ўладзімер Плешчанка й Барыс Хамайда, пачала зьбіраць подпісы насупраць гэтак званага сіняга дому па вуліцы Леніна, 28. Скрыжаваньне тут вельмі люднае, гэта месца перасадак грамадзкага транспарту ў цэнтры гораду.

Пасьля антыканстытуцыйных рэфэрэндумаў Аляксандра Лукашэнкі пікеты Плешчанкі й Хамайды ля «сіняга дому» сталі рэгулярнымі, ладзіліся амаль штодня. Тут жа яны, а да эміграцыі зь імі быў яшчэ адзін віцебскі актывіст Юры Мароз, распаўсюджвалі незалежную прэсу, апазыцыйныя ўлёткі.

Натуральна, іх затрымлівалі й штрафавалі паводле сумнавядомага прэзыдэнцкага ўказу № 5, — кажа **Барыс Хамайда:**

> **«**Калі ў мяне пытаюцца, колькі разоў цябе забіралі, я адказваю — за дзьвесьце, можа. Былі гады, што забіралі амаль кожны дзень. Пад'едуць, у машыну, калі не было машыны — праз мост пешшу вадзілі наўпрост у пастарунак, тут мэтраў шэсьцьсот-сямсот, і складалі пратакол. «Сіні дом» — гэта, скажам так, віцебскі Майдан Уладзімера Плешчанкі й Барыса Хамайды. Вось ужо тры гады як Плешчанкі няма (памёр у 2006 годзе — **В.Р.**), і я тут адзін стаю… Такая ўпартасьць у мяне, магчыма, ад Бога, ці ад маці. Мяне забіралі, а я зноў прыходзіў, стаяў, мяне зноў забіралі, і я зноў вяртаўся, стаяў. І так на працягу шмат гадоў».

Аднойчы ў 1997 годзе Барыс Хамайда выйшаў у пікет

з зусім бяскрыўдным плякатам: «Беларусь. Незалежнасьць. Вясна». Прыехалі міліцыянты, забралі, судзілі, далі штраф — тры мільёны рублёў.

У 2008 годзе ён тут далучыўся да акцыі напісаньня агульнанацыянальнай дыктоўкі:

> «Паставіў стол, да яго прымацаваў плякат «Першая беларуская нацыянальная дыктоўка» і пачаў пісаць пад магнітафонны запіс тэксту. Прыехалі міліцыянты. Падпалкоўнік пытаецца: «Што вы тут робіце? » Я кажу: «Дыктоўку пішу». Ён тады мне кажа: «Калі вам будуць перашкаджаць, вы нам патэлефануйце». Ну, думаю, гэта ўжо крок наперад».

Калі міліцыянты, судзьдзі ў яго пыталіся, чаму не зьвяртаецца па дазвол на правядзеньне пікету ў гарвыканкам, Барыс Хамайда ўпарта адказваў, што пасьля антыканстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 году ў краіне няма легітымнай улады.

Увогуле Хамайда мае дваццацігадовы стаж змаганьня — з 18 студзеня 1990 году, калі стаў сустаршынём створанага ў Віцебску гарадзкога клюбу «За дэмакратычныя выбары».

Барыс Хамайда ўзгадвае, што напачатку 1990-х гадоў у Віцебску на дэманстрацыі й мітынгі супраць камунізму і за незалежнасьць Беларусі выходзілі тысячы людзей. Цяпер хіба толькі ягоныя пікеты ды дзёрзкія акцыі легендарнага Мірона нагадваюць людзям пра свабоду. А «сіні дом», які ў 2009 годзе перафарбавалі ў белы колер, стаў сымбалем змаганьня за яе.



# Культурны цэнтар Ады Райчонак

## МЯСТЭЧКА ГЕРМАНАВІЧЫ ШАРКАЎШЧЫНСКАГА РАЁНУ, ВУЛІЦА ДЗЯРАБІНА, 10

Культурна-асьветніцкі цэнтар імя Язэпа Драздовіча, які заснавала выдатная грамадзкая дзячка Ада Райчонак, — асяродак свабоднай думкі й свабоднай творчасьці

У цэнтры мястэчка Германавічы ў звычайным вясковым будынку знаходзіцца культурна-асьветніцкі цэнтар імя Язэпа Драздовіча. У ім — невялікі музэй, мастацкая галерэя й маленькая заля, дзе адбываюцца выступы беларускіх паэтаў, бардаў, мастакоў, навукоўцаў.

Тое, што гэта культурны цэнтар, ведаюць усе ў Германавічах. Гэтаксама і тое, што будынак выкуплены ва ўласнасьць пэнсіянэркай Адай Райчонак. Але абазначыць яго гаспадыня ня можа, — кажа мастак **Ігар Марачкін**, сябра суполкі «Пагоня»:

> «Мы ёй прывезьлі герб «Пагоня», адліты з гіпсу. Яна хацела павесіць яго на свой музэйчык, напісаць назву музэю. Аднак мясцовыя ўлады афіцыйна не прызнаюць гэтага музэю, хоць ён зарэгістраваны як культурна-асьветніцкі цэнтар імя Язэпа Драздовіча. Ніякіх шыльдаў ёй не даюць павесіць на яе ж прыватны будынак, каб абазначыць яго».

Вяскоўцы бітма запаўняюць залю музэю, калі тут адбываюцца сустрэчы з творцамі. Людзі прыходзяць пачуць свабоднае слова, пагаварыць пра гістарычны й сучасны лёс Беларусі. Вось гэта і не падабаецца ўладам.

Ада Райчонак — былы вязень Віцебскага гета, колішняя настаўніца расейскай мовы й літаратуры, маці, якая страціла маладога й таленавітага сына, руплівая сялянка зь немалой гаспадаркай — у асьветніцкую й грамадзкую дзейнасьць прыйшла ўжо немаладой. Выказваць свабодна й сьмела свае думкі пачала ў сталым узросьце, пераняла гэта ад маладзейшых, — кажа Ігар Марачкін, які пазнаёміўся зь ёй напачатку



1990-х гадоў, калі разам з Хведарам Ладуцькам афармляў у Германавіцкай школе музэй:

> «Падчас нашых гамонак, а мы ўжо былі даволі свабодалюбныя людзі, пачыналі ёй пра Беларусь праўду расказваць. Яна працавала настаўніцай, і гэтыя тэмы там былі абсалютна закрытыя. І яна на нас глядзела зьдзіўленымі вачыма: як мы можам пра ўсё гэта спакойна гаварыць? Пасьля гэтага і адбыўся ў яе пералом. Яна потым нам сказала, што мы дапамаглі ёй стаць такой, якая яна цяпер. Пасьля мы ўжо адзін другога падсілкоўвалі энэргетыкай творчасьці й свабоды, бо ў нас былі агульныя інтарэсы — музэйная справа й спадчына Язэпа Драздовіча».

Цяпер Аду Райчонак называюць маці ўсіх пленэраў, якія тут яна штогод арганізоўвае, запрашаючы ня толькі беларускіх мастакоў, але і творцаў з Польшчы, Літвы, Латвіі, Расеі. Да яе едуць, едуць на выспу свабоды ў беларускай глыбінцы. І ўжо ў яе вучацца свабодзе.

Гэтымі справамі **Ада Райчонак** зьдзяйсьняе мару, якую выказала ў 1997 годзе ў этэры Радыё Свабода:

> «Я веру, што прыйдзе час, і мая краіна Беларусь стане вольнай і дэмакратычнай, што шчасьлівыя людзі будуць радасна сьмяяцца і радавацца жыцьцю. А пакуль што гэта мара, у зьдзяйсьненьне якой я вельмі веру».

## Музэй Уладзімера Караткевіча

ВОРША,
ВУЛІЦА ЛЕНІНА, 26

Музэй Уладзімера Караткевіча месьціцца ў гэтым будынку з 2000 году. Гэта знакаміты нацыянальна-культурны асяродак, які прапагандуе беларушчыну й вольную думку



Музэй Уладзімера Караткевіча ў Воршы — месца, дзе жыве сьвет і дух пісьменьніка, які глыбока, моцна, шчыра любіў і разумеў Беларусь. Прысутнасьць і місія яго ў пераважна расейскамоўным рабочым горадзе — нібы фрагмэнт містычнай і адначасна рэалістычнай прозы Майстра.

Падобныя адчуваньні наведваюць і загадчыцу музэю **Галіну Юркевіч**:

> «Сястра Караткевіча, Натальля Кучкоўская, расказала такі эпізод. Аднойчы быў моцны лівень, і ён зь дзяўчынай забег на ганак гэтага дому і сказаў ёй: «Вось тут некалі будзе мой музэй». Так, гэта былы радзільны дом, і сьцены яго чулі першы крык Караткевіча. Бываюць моманты, калі мы, супрацоўнікі, адчуваем, што ён ці не фізычна побач з намі. Раптам нейкія нечаканыя гукі чуем… А ў лістападзе дык абавязкова, нібыта ён дае згоду на існаваньне тут свайго музэю».

У былы радзільны дом, дзе 26 лістапада 1930 году зьявіўся на сьвет вялікі пісьменьнік, музэй зь невялічкага пакойчыку ў мясцовай бібліятэцы пераехаў у 2000 годзе. І практычна адразу стаў месцам паломніцтва пісьменьнікаў, паэтаў, мастакоў, настаўнікаў, студэнтаў — усіх прыхільнікаў творчасьці Ўладзімера Караткевіча. Едуць у Воршу таксама актывісты партыяў і нацыянальна-дэмакратычных рухаў. Супрацоўнікі музэю кажуць, што тут за гэты час пабывала болей як 70 тысячаў чалавек.

Асабліва шматлюдна становіцца ў Воршы напярэдадні дня народзінаў вялікага беларуса. Тут ладзіцца тыдзень памяці Караткевіча з канцэртамі, літаратурнымі

чытаньнямі, навуковымі канфэрэнцыямі, чытацкімі дыскусіямі. Горад ажывае, імпрэзы ахвотна наведваюць жыхары гораду й рэгіёну. На некалькі дзён, здаецца, расейская мова цалкам саступае месца беларускай.

Уражаньнямі пасьля аднаго з выступаў тут дзеліцца бард **Зьміцер Бартосік**:

> «Гэта найбольш камэрная і ўвогуле найлепшая аршанская пляцоўка для літаратурных імпрэзаў. Прыйшлі маладыя і зусім не маладыя людзі, але людзі вельмі неабыякавыя да таго, што называецца беларушчынай. Была атмасфэра, як на добрай старой інтэлігенцкай кухні».

Калі напачатку 2009 году ЮНЭСКО ўнесла беларускую мову ў атляс «Мовы сьвету ў небясьпецы», супрацоўнікі музэю Караткевіча выступілі з ініцыятывай правесьці тыдзень у абарону роднай мовы. І іх падтрымалі іншыя культурныя ўстановы гораду — раздаваліся ўлёткі з заклікам размаўляць па-беларуску, каб мова не памерла, ладзіліся самыя розныя імпрэзы з прапагандай беларушчыны.

Адданым беларускай справе і вольналюбным аршанцам пашанцавала, што ў іхным горадзе нарадзіўся Караткевіч.



## «Кола сяброў» у Магілёве

# МАГІЛЁЎ, ЗАВУЛАК ЧКАЛАВА, 16

Гэты дом, збудаваны ўласнымі сіламі дэмакратычнай грамады гораду ў 1996 годзе, стаў культурным цэнтрам вольнай Магілёўшчыны. Аб’ядноўвала ініцыятывы й рухі грамадзкае аб’яднаньне «Кола сяброў», якое існавала юрыдычна з 1995 па 2006 год

«Кола сяброў». Такі назоў кажа пра дух і справы аднадумцаў, апантаных ідэяй стварэньня ў сваім асяродзьдзі й грамадзтве свабоднай супольнасьці.

Ля вытокаў цэнтру стаялі Віталь Васількоў, Сымон Глазштэйн, Ігар Шары, Сяргей Шышкін, Аляксандар Ліцін, Валянціна і Ўладзімер Гвазьдзёвы, Алесь Асіпцоў, Валадар Цурпанаў і яшчэ багата людзей, якія не ўваходзілі ў арганізацыю, але лічылі сябе прыналежнымі да «кола». Спачатку яны стварылі рэальны дэмакратычны, вольны асяродак між сабой. Нават склалі сваю маленькую канстытуцыю, у якой прапісалі супольныя прынцыпы й каштоўнасьці.

А ў 1995 годзе пашырылі сваё кола да «Кола сяброў» як асацыяцыі грамадзкіх ініцыятываў, праектаў, суполак. Зьбіраліся ў аднапакаёўцы на вуліцы Міру, 10. На 17 мэтрах часам не зьмяшчаліся ўсе, хто там хацеў быць. І тады яны прыдумалі свой дом і самі пабудавалі яго.

І да іх з усёй Беларусі паехалі творцы, патрыёты, дэмакраты — Уладзімер Арлоў, Сьвятлана Алексіевіч, Валянцін Акудовіч, Алесь Камоцкі, Віктар Шалкевіч… Хто яшчэ там ня быў з зорак новага беларускага адраджэньня?!

«Кола сяброў» спрыяла разьвіцьцю самых розных грамадзкіх ініцыятываў, асацыяцыяў, супольнасьцяў, — кажа **Ігар Шары:**

> «Добрым прыкладам будзе вядомы ў Магілёве клюб «Чароўны ўспамін». Яны зрабілі сабе тусоўку ў самым лепшым сэнсе гэтага слова. Тусоўка, накіраваная на дасьледаваньне, пазнаньне свайго краю. Акцэнты зробленыя на нацыянальныя каштоўнасьці, на мову, на традыцыю, на гісторыю. Яны аб'езьдзілі ўсю Беларусь, наведалі багата месцаў за межамі, якія маюць дачыненьне да Беларусі. Яны ў гэтыя вандроўкі цягнуць новых людзей. Яны ім адкрываюць Беларусь».



Круглыя сталы, творчыя вечарыны, адукацыйныя сэмінары адбываліся без сакрэтаў, дзьверы былі адчыненыя для ўсіх. Паводле Сымона Глазштэйна, арганізацыя была непалітычная: ідэю дэмакратыю ўмацоўвалі непалітычнымі сродкамі. Тым ня менш у 2006 годзе Магілёўскі абласны суд зьліквідаваў аб'яднаньне. Але **Віталь Васількоў** падкрэсьлівае:

> «Фармальна зьліквідавалі. Але людзі ня зьніклі. Яны працягнулі, захавалі атмасфэру грамадзкага цэнтру і трымаюць дэкляраваныя ад пачатку каштоўнасьці. Дом і грамадзкі цэнтар «Кола» застаецца важнай для ўсяго рэгіёну пляцоўкай, дзе ёсьць магчымасьць ладзіць канцэрты й выставы, сэмінары й трэнінгі, дзе ёсьць магчымасьць сустракацца, спрачацца і рабіць на карысьць будучай Беларусі…»

Свабодныя людзі гуртуюцца незалежна ад фармальнасьцяў.

## «Ратуша» ў Горадні

ГОРАДНЯ,
ВУЛІЦА БУДЗЁННАГА, 48А

У гэтым будынку з 1996 па 2003 год дзейнічала гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне «Ратуша» — лідэр грамадзянскай супольнасьці на Гарадзеншчыне. Зьліквідаванае ўладамі



Увесну 2003 году ўлады Беларусі распачалі татальны перасьлед структураў грамадзянскай супольнасьці й незалежнай прэсы. Цэлая хваля прымусовых ліквідацыяў грамадзкіх аб'яднаньняў праз рашэньні судоў пракацілася па краіне. Падставы былі самыя дробязныя, часам увогуле ніякім законам не аргумэнтаваныя. Толькі ў 2003 годзе было зьліквідаванае 51 грамадзкае аб'яднаньне.

Адной зь першых ахвяраў стала гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне «Ратуша».

Спачатку судзілі, ня даўшы права на абарону, старшыню аб'яднаньня Аляксандра Мілінкевіча за быццам незаконны рызограф, няправільную пячатку, ня тую сымболіку. Затым Гарадзенскі аблвыканкам і ўвогуле зьліквідаваў «Ратушу».

Чым жа яна так разьюшыла ўлады?

А тым, што ад самога моманту свайго заснаваньня ў траўні 1996 году вядомымі гарадзенцамі — журналістамі, выкладчыкамі ўнівэрсытэту, бізнэсоўцамі, акторам — аб'яднаньне стала цэнтрам грамадзкай актыўнасьці на Гарадзеншчыне. Вельмі хутка яно ператварылася, па сутнасьці, у палітычны клюб розных партыйных, прафсаюзных, грамадзкіх ініцыятываў. Бадай што гэта быў у Беларусі самы моцны прыклад аб'яднанай ініцыятывы з палітычнаю мэтаю пабудовы незалежнай, дэмакратычнай, эўрапейскай беларускай дзяржавы.

Навуковыя канфэрэнцыі, пашырэньне інтэрнэту, выданьне невялікім накладам твораў, якія немагчыма было надрукаваць у дзяржаўных друкарнях, кантроль за выбарамі, дапамога ў стварэньні грамадзянскай

супольнасьці ў іншых гарадох вобласьці — спэктар дзейнасьці аб'яднаньня быў вельмі шырокі. І галоўнае дасягненьне «Ратушы» яе былая каардынатарка, пазьней старшыня гарадзенскай арганізацыі Таварыства беларускай школы **Тацяна Канопкіна** бачыць у зьмене сьвядомасьці людзей:

> «Самыя цяжкія зьмены — гэта зьмены ў мазгох чалавечых. Калі раней людзі прыходзілі проста пакарыстацца інтэрнэтам ці чымсьці іншым, то пазьней яны ўжо былі апанаваныя ідэяй штосьці зрабіць у сваіх арганізацыях, у сваіх колах. І гэта, мне здаецца, галоўны вынік. Кола пашыраецца».

У выступе на судзе старшыня «Ратушы» Аляксандар Мілінкевіч заявіў, што дзейнасьць актывістаў будзе працягвацца незалежна ад зьместу судовага рашэньня.

«Ратушу» зьліквідавалі, але людзі, што ў ёй працавалі, надалей вядуць працу дзеля дэмакратыі й свабоды ў іншых структурах, як абласных, так і агульнанацыянальных.

Былы лідэр гарадзенскіх дэмакратаў Аляксандар Мілінкевіч у 2006 годзе балятаваўся ў прэзыдэнты Беларусі як адзіны кандыдат дэмакратычных сілаў.



## Імпрэзы й акцыі ў сядзібе гарадзенскіх фронтаўцаў

# ГОРАДНЯ, ВУЛІЦА КАРЛА МАРКСА, 11

У гэтым будынку з 1996 па 2003 год знаходзілася сядзіба Гарадзенскай гарадзкой арганізацыі Партыі БНФ — адзін з цэнтраў нацыянальна-дэмакратычнага руху

Адкрыта сабраць у цэнтры вялікага гораду байцоў-антысаветчыкаў, вітаць іх, слухаць іхныя ўспаміны, ушаноўваць воплескамі сёньня выглядае нерэальным, амаль фантастычным. А ў 2000 годзе гарадзенскім дэмакратычным актывістам гэта ўдалося. У офісе БНФ адбыўся сход удзельнікаў антысавецкага супраціву ў Заходняй Беларусі. Дасьледнік Сяргей Ёрш даў адрасы, прывезьці гасьцей каштавала ня надта дорага, а рэзананс імпрэза мела вельмі вялікі, — успамінае старшыня гарадзенскай гарадзкой арганізацыі Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў:**

> «Было вельмі шмат народу, амаль дзьвесьце чалавек. Мы здолелі прывезьці каля трыццаці байцоў, якія змагаліся з саветамі тут, у Заходняй Беларусі. Вялікае ўражаньне для ўсіх было. Гэта былі ўжо вельмі старыя людзі, ім тады было каля васьмідзесяці — васьмідзесяці пяці гадоў. І ім самім было цікава, што пра іх памятаюць, іх яшчэ хочуць паслухаць».

За сем гадоў, што гарадзенская арганізацыя БНФ займала гэтае вялікае памяшканьне, тут прайшлі сотні імпрэзаў. Тутака пэўны час месьціліся й рэдакцыя пазьней забароненай газэты «Пагоня», і Таварыства беларускай мовы. Знайсьці шлях было вельмі проста — цэнтар гораду, шыльда «БНФ» на дзьвярох і партыйны бел-чырвона-белы сьцяг.

Выціснуць з цэнтру гораду асяродак свабоды ўладам удалося праз спосаб, апрабаваны шмат у якіх кутках Беларусі, — кажа Вадзім Саранчукоў:

> «Упраўленьне камунальнай гаспадаркі вырашыла, што дом аварыйны і яму патрэбны рамонт. Нам як



> арандатарам выставілі рахунак каля 30 тысячаў даляраў на правядзеньне рамонту. Ясна, што для нас сума была непад'ёмная, і давялося вызваліць памяшканьне. І нягледзячы на тое, што мы правodзілі незалежную экспэртызу, якая ня выявіла ніякіх вялікіх пашкоджаньняў у будынку, суды прынялі бок камунальнай гаспадаркі. Сёньня там месьцяцца крамы й вясельны салён. А рамонту ў будынку так і не было».

Улады не зламалі актывістаў БНФ высяленьнем — ідэалягічна нічога не зьмянілася, але меней стала наведнікаў у офісе, бо далей ад цэнтру і памяшканьне ў разы меншае. Але зноў амаль усе гарадзенцы-дэмакраты разам: грамадзкія арганізацыі й партыі знайшлі прытулак у прыватным доме.

## Газэта «Беларускі ўсход»

# ВЁСКА МАРКАЎКА ХОЦІМСКАГА РАЁНУ

Тут з 1991 па 2002 год журналіст Васіль Даўгалёў выдаваў незалежную газэту «Беларускі ўсход», якая стаяла на пазыцыях незалежнасьці Беларусі й дэмакратыі, была адным з самых папулярных рэгіянальных недзяржаўных выданьняў



На Магілёўшчыне кажуць, што далей за Хоцімск — толькі Расея. На самым усходзе Беларусі ў невялікай вёсцы Маркаўка Хоцімскага раёну ў 1990-я гады адзін чалавек выдаваў незалежную газэту «Беларускі ўсход». Яе чыталі жыхары Хоцімскага, Краснапольскага, Крычаўскага, Клімавіцкага раёнаў, падпісваліся ў Магілёве. Наклад беларускамоўнага дэмакратычнага выданьня вагаўся ад 5 да 10 тысяч асобнікаў. Імя выдаўца Васіля Даўгалёва сталася шырока вядомым у нацыянальна-дэмакратычным асяродзьдзі Беларусі.

Пасьля паразы ГКЧП рэдакцыя хоцімскай раёнкі «Шлях кастрычніка» вырашыла зьмяніць назву на «Беларускі ўсход», але райвыканкам з гэтым не пагадзіўся. Тады намесьнік галоўнага рэдактара Васіль Даўгалёў паехаў у Менск і зарэгістраваў (у той час гэта было няцяжка) новае выданьне, заснавальнікамі якога выступілі хоцімская Сьвята-Траецкая царква і саўгас «Трасьціно». Першы нумар «нацыянальнай дэмакратычнай газэты», як пісалася на тытуле побач з дэвізам «Жыве Беларусь!», выйшаў 28 сьнежня 1991 году. Праіснавала газэта дзесяць гадоў — да 14 лютага 2002 году.

Праваабаронца **Леанід Сьвецік**, які ў той час у Крычаве кіраваў няўрадавай арганізацыяй «Кантакт-цэнтар», называе газэту

> «…фантастычнай зьявай, бо ідэя, па-першае, належала аднаму чалавеку, да таго ж выхаванаму падчас савецкага ладу. І калі зьявілася магчымасьць, гэты чалавек вынес ідэю незалежнай газэты як праект, магчымы для ажыцьцяўленьня ў правінцыі, на ўсходзе Беларусі. Даўгалёў знаходзіў спонсараў — прадпрымальнікаў, сярод якіх былі нават

кіраўнікі буйных прадпрыемстваў ва ўсходняй частцы Магілёўшчыны».

Уся рэдакцыя складалася з двух чалавек — самога Васіля Даўгалёва і бухгальтаркі. Пісаў аўтар і рэдактар пераважна ад рукі ці на машынцы, кампутарам так і не навучыўся карыстацца. У лазьні (рэдакцыі) было самае прымітыўнае абсталяваньне. А затым Даўгалёў вёз рукапісы ў Магілёў, дзе газэта і друкавалася.

Да 1996 году зьмест газэты можна назваць радыкальным — зьмяшчаліся і перадрукі зь менскіх незалежных газэтаў. У другой палове дзесяцігодзьдзя Васіль Даўгалёў таксама адчуў ціск уладаў на незалежную прэсу. Давялося крыху зьмякчыць зьмест публікацыяў, аднак пазыцыя заставалася тая ж. Ён даваў прыклад іншым, што і ў вёсцы можна быць свабодным, — кажа **Сяргей Аржанцаў**, настаўнік, журналіст з Клімавічаў:

«Тым болей што ён ужо быў у сталым узросьце, але здолеў рабіць газэту ў няпростых умовах. Да яго таксама ж міліцыя прыяжджала і спрабавала адабраць тэхніку. Ягоны прыклад найперш быў паказальным для асобаў, падобных да яго, што можна нешта рабіць. Калі ў яго атрымліваецца, дык і мы здолеем».

Памёр Васіль Даўгалёў 28 лютага 2002 году, не дажыўшы два тыдні да свайго сямідзесяцігодзьдзя. Ён працаваў над 188-м нумарам газэты. Яго пахавалі на вясковых могілках у Маркаўцы.



# Памяць пра паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы

## МЯСТЭЧКА СЬВІСЛАЧ. ПРАВАСЛАЎНЫЯ МОГІЛКІ

На гэтых могілках ля магілы Віктара Каліноўскага ад 1997 году дэмакратычная беларуская грамадзкасьць штогод ушаноўвае памяць паўстанцаў 1863 году

Штогод пры канцы кастрычніка ў мястэчка Сьвіслач зьяжджаюцца людзі з усяе Беларусі, каб ушанаваць памяць паўстанцаў Кастуся Каліноўскага.

Дзень памяці традыцыйна пачынаецца з ускладаньня кветак да магілы брата Кастуся — Віктара Каліноўскага, які быў ідэолягам паўстаньня 1863 году. Таксама госьці кладуць кветкі да адзінага ў Беларусі помніку Кастусю Каліноўскаму і да помніку выбітнаму паўстанцу Рамуальду Траўгуту, наведваюць месца, дзе была сядзіба Каліноўскіх. Адбываецца мітынг, апошнімі гадамі памінальная імша ў мясцовым касьцёле.

Ініцыятыва нарадзілася ў гарадзенскім дэмакратычным асяродку, — кажа актор, бард **Віктар Шалкевіч:**

«У раньнія дэмакратычныя гады Зьміцер Кісель і нехта зь ім з Горадні знайшлі ў Сьвіслачы на праваслаўных могілках магілу Віктара Каліноўскага. Потым Юры Мацко выкаваў крыж. Тым часам прафэсар Міхась Ткачоў капаў сядзібу Каліноўскіх у Якушоўцы. Усё гэта неяк сышлося да адной купы. І ў асяродзьдзі дэмакратаў вырашылі, што гэта варта ўшаноўваць, і мы пачалі кожны год туды езьдзіць».

У днях памяці за амаль паўтара дзесяцігодзьдзя ўзялі ўдзел практычна ўсе знакавыя фігуры дэмакратычнай Беларусі. Філёзаф **Валянцін Акудовіч,** які родам са Сьвіслачы, штогод бывае на гэтых могілках, абавязкова наведвае і магілу Віктара Каліноўскага. Браў ён удзел і ў адным зь першых Дзён памяці паўстанцаў:

«Сюды прыехалі два паўнюткія аўтобусы з Горадні й Менску, і мы ладнай калёнай з разгорнутымі сьцягамі пайшлі да цэркаўкі на гары, побач зь якой і знаходзіцца магіла Віктара Каліноўскага. Толькі мы падышлі да помніку, як з царквы шугануў натоўп разьятраных бабулек, якія, нагледзеўшыся дзяржаўнага тэлебачаньня, палічылі, што мы прыехалі ў Сьвіслач рабіць рэвалюцыю. Чамусьці найбольшую нянавісьць у іх выклікаў Уладзімер Арлоў. Яны акружылі яго, махалі кулачкамі, а некаторыя сваімі торбачкамі нават спрабавалі хляснуць па славутым пісьменьніку. Гэта было сьмешна, але потым мне зрабілася сумна. Гэтак жа сама пасьля паўстаньня мужыкі лавілі па лясох касінераў Каліноўскага і здавалі іх царскім уладам. І тады падумалася зусім скрушнае: паспаліты беларус ніколі не змагаўся з уладай, ён заўсёды змагаўся толькі з уласнымі героямі».

Першыя сьвяткаваньні выклікалі насьцярожанасьць і нават гнеў мясцовых уладаў. Яны прасілі не разгортваць нацыянальныя сьцягі, не ісьці калёнамі, фільмавалі ўдзельнікаў акцыяў. Але паступова напружанасьць зьнікла. І хоць улады ў Днях памяці ня ўдзельнічаюць, ставяцца да іх больш ляяльна. На магіле Віктара Каліноўскага заўсёды кветкі й бел-чырвона-белыя стужкі. Іх ніхто не чапае. Усё ж свой чалавек пахаваны.

## Змагарныя песьні над Мілавідзкім полем

# ВЁСКА МІЛАВІДЫ БАРАНАВІЦКАГА РАЁНУ

Тут, на месцы бітвы паміж расейскімі карнікамі й паўстанцамі Кастуся Каліноўскага 22 траўня 1863 году, з 1993 году мясцовыя патрыёты ўшаноўваюць памяць беларускіх ваяроў



Сёньня на Мілавідзкім полі ў памяць пра бітву 22 траўня 1863 году паміж расейскімі карнікамі й ваярамі Кастуся Каліноўскага стаяць тры помнікі. Праваслаўны мураваны крыж памяці маскоўскіх жаўнераў да 50-годзьдзя бітвы паставілі расейцы ў 1913 годзе, калі гэтыя землі належалі Расейскай імпэрыі. Да 70-годзьдзя бітвы ў 1933 годзе, калі заходнія землі Беларусі былі ў складзе Польшчы, польскі ўрад насупраць таго крыжа збудаваў каталіцкую капліцу. І, нарэшце, у 1993 годзе, да 130-годзьдзя падзеі, ужо ў незалежнай Беларусі сябры баранавіцкага аддзяленьня Таварыства беларускай мовы паставілі камень у гонар беларускіх паўстанцаў-касінераў з шыльдай, напісанай па-беларуску: «За нашу і вашу свабоду».

Найбольшую працу для гэтага зрабіў тагачасны старшыня Баранавіцкай рады ТБМ краязнавец Міхась Бернат. Адкрыцьцё мэмарыяльнага знаку 22 траўня 1993 году адбылося ўрачыста, з удзелам вучняў мясцовай школы, грамадзкасьці й кіраўніцтва сельсавету.

З тых часоў штогод у гэты дзень на Мілавідзкім полі адбываюцца ўрачыстыя цырымоніі. Ля помніку зьбіраецца мясцовая грамадзкасьць, прыяжджаюць госьці зь Менску — палітыкі, пісьменьнікі, мастакі, гісторыкі. Але пасьля 1994 году — без удзелу ўладаў і мясцовай школы, дзе ёсьць, дарэчы, музэй Каліноўскага. Патрыёты ўскладаюць кветкі, сьпяваюць беларускія змагарныя песьні. Улады не чапаюць, хоць і назіраюць. Тым болей што абавязковы атрыбут сьвята — бел-чырвона-белы сьцяг, — кажа цяперашні старшыня Баранавіцкай рады ТБМ **Віктар Сырыца:**

«Там побач шаша, вельмі шмат машын езьдзіць. І машыны спыняюцца, трубяць у трубы — падтрым-

ліваюць нас. Два гады таму праехала машына, а затым спынілася. Зь яе выйшаў прадстаўнічы чалавек у белай кашулі, у гальштуку. Стаяў здалёк, глядзеў. Калі мы скончылі мерапрыемства, я падышоў да яго, назваўся і запытаў, а хто ён. Ён адказаў, што дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Івацэвіцкага раёну Аляксандар Сьвірыд. Так што і ён, хай сабе і ўскосна, але паўдзельнічаў у нашым сьвяце. Напэўна ж, быў зьдзіўлены, што ў вёсцы лунаюць бел-чырвона-белыя сьцягі й людзі нешта гавораць».

Віктар Сырыца лічыць Мілавідзкае поле мясьцінаю свабоды ў баранавіцкім рэгіёне, бо: «Туды прыяжджаюць людзі вольна. Гэта — тэрыторыя, дзе вольна лунаюць нашыя бел-чырвона-белыя сьцягі. Гэта — нашая баранавіцкая Ворша».



# Выкраданьне генэрала Юр’я Захаранкі

## МЕНСК, ВУЛІЦА ЖУКОЎСКАГА, 9

У гэтым доме ў 1990-я гады жыў апазыцыйны палітык, генэрал Юры Захаранка, які 7 траўня 1999 году быў выкрадзены непадалёк адсюль. Далейшы ягоны лёс невядомы

Генэрал, былы міністар унутраных справаў Юры Захаранка стаў першым апазыцыйным палітыкам, хто лічыцца зьніклым. Насамрэч ён быў па-бандыцку выкрадзены недалёка ад дому, дзе жыў, — у цэнтры беларускай сталіцы.

Людзі бачылі, як трое ў цывільным у раёне вуліцы Магілёўскай скруцілі чалавека, падобнага да Захаранкі, запхнулі ў легкавік і павезьлі ў бок вуліцы Жукоўскага. Ніхто Захаранкі больш ня бачыў, ніякіх вынікаў сьледзтва не дало. А сваякі, апазыцыйныя палітыкі й праваабаронцы лічаць, што па-сапраўднаму сьледзтва і не вялося, бо найвышэйшае кіраўніцтва краіны не зацікаўленае ў адшуканьні тых, хто замовіў і зьдзейсьніў злачынства.

Хто стаіць за гэтым выкраданьнем і каму замінаў апазыцыйны палітык? Найбольш пашыранае ў дэмакратычных колах меркаваньне падае **Аляксандар Дабравольскі**, партыйны паплечнік Юр'я Захаранкі:

> «Захаранка быў адным зь нямногіх людзей, якія маглі б стварыць рэальную канкурэнцыю Лукашэнку ня столькі нават на выбарах, бо там магчымыя маніпуляцыі, колькі ў барацьбе за сымпатыі людзей, таму што ён быў ня менш, а нават больш харызматычным чалавекам, чым Лукашэнка. Гэта быў генэрал, чалавек, якога вельмі паважалі ў праваахоўных органах. І гэта чалавек быў рашучы, у пэўнай ступені вельмі таленавіты ў камунікацыях зь людзьмі. Тое, што былі людзі, якія баяліся, што прыйдзе Захаранка, і вызначыла ягоны лёс. Ён мог бы прэтэндаваць на прэзыдэнта».

Усё ж тады найбольш рэальным кандыдатам на прэзыдэнта ад апазыцыі лічыўся Генадзь Карпенка, а



Юры Захаранка меўся ўзмацніць ягоныя пазыцыі. Але пасьля сьмерці Карпенкі небясьпечнымі рабіліся ўжо Юры Захаранка і Віктар Ганчар. Захаранку выкралі празь месяц, Ганчара — празь пяць.

Юр'ю Захаранку ішоў толькі 48-ы год. А за сьпінай была імклівая кар'ера. Ён быў у камандзе, якая ў 1994 годзе прывяла да ўлады Аляксандра Лукашэнку. Падзякай стала крэсла міністра ўнутраных справаў. Але праз год прэзыдэнт адпомсьціў генэралу за непаслухмянасьць звальненьнем.

Юры Захаранка становіцца ў жорсткую апазыцыю — уступае ў Аб'яднаную грамадзянскую партыю, стварае Саюз афіцэраў. Улады відавочна напалоханыя: уплывовы генэрал, які яшчэ нядаўна сам аддаваў загады на разгон апазыцыйных акцыяў, цяпер актыўна ў іх удзельнічае. І заўсёды побач з Генадзем Карпенкам. У 1999 годзе Захаранка падтрымлівае ініцыятыву альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбараў і ўваходзіць у каманду былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра.

Праваабаронцы, апазыцыйныя палітыкі, дэмакратычныя актывісты ўжо дзесяць гадоў патрабуюць ад улады праўды: дзе Юры Захаранка? А старэнькая маці, якая ня бачыла сына ў труне, ня верыць у ягоную сьмерць і чакае, што ён вось раптам прыйдзе.

# Зьнікненьне палітыка Віктара Ганчара і бізнэсоўца Анатоля Красоўскага

## МЕНСК, ВУЛІЦА ФАБРЫЧНАЯ, 20

Побач з гэтым будынкам 16 верасьня 1999 году былі выкрадзеныя апазыцыйны палітык Віктар Ганчар і бізнэсовец Анатоль Красоўскі. Лёс іхны невядомы. Беларуская і міжнародная супольнасьць падазраюць у датычнасьці да злачынства прадстаўнікоў кіраўніцтва Беларусі



20 ліпеня 1999 году, паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі 1994 году, завяршаўся тэрмін прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. Лукашэнка ж на падставе вынікаў незаконна праведзенага рэфэрэндуму працягнуў тэрмін свайго кіраваньня краінай. Апазыцыя дамагалася выкананьня закону і правядзеньня новых прэзыдэнцкіх выбараў.

У цэнтры падзеяў, якія віравалі вакол гэтага пытаньня, быў яркі апазыцыйны палітык, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар. Ён ініцыяваў і пры падтрымцы Вярхоўнага Савету 13 склікаьня ў траўні правёў альтэрнатыўныя выбары прэзыдэнта краіны. А праз два месяцы абвясьціў пра сканчэньне тэрміну легітымнага кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі.

Улада распачала жорсткія рэпрэсіі. Ганчара арыштоўвалі, катавалі ў турме, але ён не спыняўся. 16 верасьня 1999 году яго зь бізнэсоўцам Анатолем Красоўскім выкралі каля лазьні на вуліцы Фабрычнай, якую сябры й паплечнікі рэгулярна наведвалі. На месцы злачынства засталіся плямы крыві і пабітае шкло ад аўтамабіля Красоўскага.

У Беларусі і ў сьвеце шмат хто не сумняваецца ў датычнасьці да іх выкраданьня высокіх чыноўнікаў з атачэньня прэзыдэнта Беларусі. **Аляксандар Фядута**, які ў часе першых прэзыдэнцкіх выбараў разам зь Віктарам Ганчаром быў найбліжэйшым паплечнікам Лукашэнкі, кажа, што тут была ня толькі помста:

> «Віктар Ганчар уяўляў пагрозу Лукашэнку не таму, што ён быў выдатным арганізатарам. Перш за ўсё тым, што яго аб'ядноўвала і з Лукашэнкам, і з Пазьняком: ён, калі размаўляў, дык зьвяртаўся да

той часткі чалавечай падсьвядомасьці, дзе размова павінна была ісьці пра веру — верыш ты мне ці не? І Ганчара прымалі такім, які ён быў. І тыя, хто за ім ішоў, любілі яго, нягледзячы на тое, што ён быў занадта адукаваны, занадта культурны. Дый шмат чаго яшчэ было ў ім занадта. Занадта адукаваны, але наш. Наш беларускі хлопец, які атрымаў гэтую адукацыю. Я памятаю, як слухалі яго падчас прамых трансьляцыяў паседжаньняў Вярхоўнага Савету. Ён жа сапраўды быў лідэрам. І за ім хацелі ісьці нават тыя, хто спрачаўся зь ім».

Вялі паляваньне ўлады і на бізнэсоўца Анатоля Красоўскага, якога абвінавачвалі ў фінансаваньні апазыцыі. У жніўні яго схапілі спэцслужбы і кінулі ў турму. Ня маючы падставаў (ці баючыся) абвінаваціць у падрыўной дзейнасьці, яму інкрымінавалі невяртаньне банкаўскага крэдыту. Калі справа развалілася, выпусьцілі. А затым ён зьнік разам з Ганчаром.

Няма чалавека, няма і справы, — з гэтай бальшавіцкай тэзай ня хочуць мірыцца сумленныя людзі. У Беларусі й па-за межамі краіны яны штомесяц 16-га дня, у дзень зьнікненьня палітыка й бізнэсоўца, ладзяць акцыі салідарнасьці зь сем'ямі ўсіх зьніклых — выходзяць на плошчы ці проста запальваюць сьвечкі ў вокнах.



## «Марш свабоды» — 1999

# МЕНСК, ВУЛІЦА ПЕРШАМАЙСКАЯ, 18

17 кастрычніка 1999 году на скрыжаваньні вуліц Першамайскай і Пуліхава адбылася жорсткая сутычка паміж удзельнікамі «Маршу свабоды» і міліцыяй. Дзясяткі чалавек былі параненыя, шмат каго кінулі ў турмы

17 кастрычніка 1999 году ў часе «Маршу свабоды» вулічныя змаганьні апазыцыі і ўлады, распачатыя ў 1996 годзе Чарнобыльскім шляхам, дасягнулі свайго піку. Адбылася сапраўдная бітва зь дзясяткамі параненых з абодвух бакоў і дзясяткамі кінутых у турмы.

У той дзень з патрабаваньнямі да ўлады спыніць выкраданьне палітычных апанэнтаў, выпусьціць на волю палітвязьняў, а таксама зь лёзунгамі за незалежнасьць краіны выйшлі на менскія вуліцы больш як 30 тысячаў чалавек.

Стартаваў марш на плошчы Якуба Коласа і па праспэкце Скарыны й вуліцы Сурганава дайшоў да плошчы Бангалёр. Пасьля невялікага мітынгу дэманстранты рушылі ў цэнтар гораду, разгарнуўшы трыццацімэтровыя палотнішчы сьцягоў — бел-чырвона-белага і Эўразьвязу. У калёне дэманстрантаў пераважала моладзь. Людзі скандавалі: «Свабоду палітвязьням!», «Не — дыктатуры!», «Беларусь у Эўропу!» ,«Жыве Беларусь!»

На шляху дэманстрантаў міліцыянты й людзі ў цывільным раз-пораз правакавалі ўдзельнікаў на бойкі. Арганізатары шэсьця, якія хацелі пазьбегнуць сутыкненьняў, вырашылі збочыць з праспэкту. Пайшлі па вуліцы Першамайскай, а на скрыжаваньні з вуліцай Пуліхава іх чакала пастка, — кажа **Мікола Статкевіч**, які кіраваў шэсьцем:

> «Там ужо стаялі вельмі шчыльныя міліцэйскія шыхты. І я зрабіў усё, каб не дапусьціць лабавога сутыкненьня, бо маглі быць ахвяры. Мне ўдалося амаль немагчымае — разьвярнуць натоўп. Людзі пайшлі назад. Тады група спэцназаўцаў ударыла ў сьпіну дэманстрацыі, і людзі былі проста вымушаныя абараняцца. Яны сталі хапаць плітку, якая там валялася, і пачалі адганяць іх. Адагналі. Калёна дэманстрантаў зноў пачала адыходзіць. І зноў ім ударылі ў сьпіну. Усё паўтарылася некалькі разоў. Людзі вымушаныя былі бараніцца. Міліцыянты таксама хапалі гэтыя пліткі й кідалі ў бок дэманстрацыі».



Бойка трывала каля паўгадзіны. Уцякаючы з-пад дубінак і ботаў спэцназаўцаў, людзі нават кідаліся ў ледзяную раку. Працягваліся сутычкі і пазьней, калі міліцыя пачала рабіць зачысткі двароў.

Дзясяткі людзей былі схопленыя й кінутыя ў турму на Акрэсьціна, а сем чалавек трапілі ў «Валадарку» з пэрспэктываю крымінальнае справы. Пасьля двухтыднёвай галадоўкі пад ціскам міжнароднай супольнасьці выпусьцілі з турмы Міколу Статкевіча, а празь дзень і астатніх. Судзілі толькі Статкевіча з Валерам Шчукіным, а пяцёх маладых людзей удалося пераправіць за мяжу, дзе яны працягнулі адукацыю.

«Марш свабоды» паказаў беларусам, што з дыктатурай можна змагацца. Мікола Статкевіч лічыць, што высновы вымушаны быў зрабіць і рэжым: «Упершыню беларусы паказалі, што ёсьць мяжа, якую ўладзе пераходзіць нельга. Гэта — незалежнасьць і палітычныя забойствы».

# Зьнікненьне журналіста Зьмітра Завадзкага

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ АЭРАПОРТ «МЕНСК»

7 ліпеня 2000 году па дарозе ў аэрапорт загадкава зьнік апэратар расейскай тэлекампаніі ОРТ Зьміцер Завадзкі. Дэмакратычная грамадзкасьць падазрае ў зьнікненьні журналіста прадстаўнікоў найвышэйшай улады Беларусі



7 ліпеня 2000 году апэратар расейскага тэлеканалу ОРТ Зьміцер Завадзкі выехаў у аэрапорт «Менск-2», каб сустрэць з Масквы карэспандэнта гэтай жа тэлекампаніі Паўла Шарамета. Аднак сустрэча не адбылася. Зьміцер загадкава зьнік па дарозе, а ягоны аўтамабіль пазьней быў выяўлены ў аэрапорце.

У параўнаньні з справамі зьніклых раней палітыкаў справу Зьмітра Завадзкага, здавалася б, расьсьледавалі й нават давялі да суду. На закрытым працэсе вінаватых у выкраданьні апэратара асудзілі пажыцьцёва й на доўгія тэрміны зьняволеньня. Таксама суд прызнаў Завадзкага памерлым. Аднак ані жонка, ані сын, аніхто цела ягонага так і ня бачыў. Няма і дакладных адказаў на пытаньні: хто і чаму замовіў злачынства? І хто ж яго насамрэч выканаў?

**Павал Шарамет** адкрыта абвінавачвае ўладныя структуры як у непасрэдным удзеле ў выкраданьні (а можа, і забойстве) Зьмітра, так і ў стварэньні ўмоваў для ўсёдазволенасьці ў дзейнасьці спэцслужбаў у Беларусі:

> «„Эскадроны сьмерці“ адчулі поўную беспакаранасьць, адчулі, што яны могуць вырашаць лёсы ўсіх людзей. Гэтыя „эскадроны сьмерці“, якія часткова былі ўцягнутыя ў нейкія сакрэтныя апэрацыі ў Чачні ці ў нейкія сакрэтныя апэрацыі са зброяй, палічылі, што здымачная група Першага каналу, і Завадзкі ў тым ліку, могуць раскрыць таемныя апэрацыі гэтых „эскадронаў сьмерці“ і гэтых групаў спэцслужбаў. І вырашылі не дапусьціць агалоскі. Іншай вэрсіі, акрамя як помсты за інтэрвію Зьмітра пра тое, што ў Чачні былі арыштаваныя беларускія спэцназаўцы, як боязі афіцэраў спэцслужбаў, што

мы вядзем нейкае расьследаваньне і што нейкія факты будуць ускрытыя, і таму яны схапілі Дзіму, каб даведацца нейкія падрабязнасьці, — іншай вэрсіі пакуль няма».

Журналісты, як беларускія, так і з расейскага тэлеканалу ОРТ, не забываюць Зьмітра, гэтаксама як і ў 1997 годзе яны салідарызаваліся зь ім, калі яго асудзілі на паўтара году пазбаўленьня волі ўмоўна за незаконны пераход мяжы пры здымках выкрывальнага рэпартажу. Яны вераць, што пры першай жа магчымасьці незалежнага расьследаваньня ў справе Завадзкага будуць пастаўленыя кропкі, бо, як любіць паўтараць Павал Шарамет, «ніхто і нішто не забытыя».

А пакуль і ў дзень выкраданьня Зьмітра Завадзкага, і ў традыцыйны дзень салідарнасьці зь сем'ямі ўсіх зьніклых за часы Лукашэнкі сваякі, калегі, палітыкі выходзяць на вуліцы з патрабаваньнем праўды пра зьнікненьне журналіста.



## Дзень Незалежнасьці — 2000

## МЕНСК, ПЛОШЧА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

У Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка 2000 году на гэтай плошчы ўлады ўжылі вайсковую тэхніку, сабак, вялікія сілы спэцслужбаў і міліцыі для жорсткага разгону мірнай дэманстрацыі. Былі зьбітыя й арыштаваныя каля 500 чалавек, улучна з журналістамі й замежнымі дыпляматамі. На плошчы імя Якуба Коласа рэгулярна адбываліся шматлюдныя акцыі пратэсту супраць дыктатуры і ў абарону незалежнасьці Беларусі

Раніца 25 сакавіка 2000 году прывітала менчукоў яркім сонцам і... бронетранспартэрамі на цэнтральных плошчах гораду. З часоў Другой усясьветнай вайны горад ня памятаў такой колькасьці выведзенай на вуліцы вайсковай тэхнікі, вадастрэлаў, міліцыянтаў, жаўнераў і сабак.

У тэатар ваенных дзеяньняў супраць уласнага народу ў дзень нацыянальнага сьвята рэжым пераўтварыў плошчу імя Якуба Коласа.

Камандаваў на полі бою сам міністар унутраных справаў Юры Сівакоў. На вачох камандзіра падначаленыя стараліся. Білі ўсіх без разбору — мужчын, жанчын, падлеткаў, замежных дыпляматаў, журналістаў. Разьбівалі відэа- і фотакамэры, дыктафоны. Людзей кідалі ў машыны і зноў білі й зьневажалі. Успамінае актывіст «Хартыі-97» **Мікалай Халезін**:

> «Тады адбыўся вельмі сьмешны эпізод з Крыстафэрам Панікам, які працаваў у місіі АБСЭ. Калі яго ўкінулі ў машыну, ён сказаў: „У мяне недатыкальнасьць. Я дыплямат“. Адзін зь міліцыянтаў яму адказаў: „Яна ў цябе была, пакуль я цябе не затрымаў“».

Бел-чырвона-белыя сьцягі ўзьвіваліся на вялікай плошчы то ў адным месцы, то ў іншым. Безьліч жаўнераў, міліцыянтаў, кадэбістаў не маглі зь імі справіцца. Пад пераможныя воклічы «Жыве Беларусь!» скрозь заслоны міліцыі людзі прабіваліся па вуліцы Веры Харужай у бок вуліцы Кульман. Там на аўтастанцыі каля 10 тысячаў чалавек і правялі сьвяточны мітынг.

У этэры Радыё Свабода карэспандэнтка **Любоў Лунёва**, якая таксама была затрыманая і якой разьбілі дыктафон, падводзіла вынікі Дня Волі-2000:



> «Падчас зачысткі на плошчы Якуба Коласа вайскоўцы зьбілі й затрымалі каля пяцісот чалавек. Большасьць гэтых людзей, у тым ліку журналісты, назіральнікі й іншаземцы, трапілі на стадыён вайсковай базы. Журналістаў было затрымана больш як 30 чалавек».

Схопленыя беларусы, француз, славак, расейцы разам пераможна сьпявалі беларускія песьні ў вялізным ангары на вуліцы Маякоўскага. Тым часам карцінкі, якія перадавалі зь Менску ўсе найбуйнейшыя замежныя тэлекампаніі, прывялі сьвет у шок. Разгубленая ўлада бліжэй да вечара пачалаа-такі выпускаць журналістаў, дыпляматаў. А міліцыянты ўсё яшчэ працягвалі зачысткі па дварох гораду.

На наступны дзень улады афіцыйна выбачыліся перад журналістамі. Суды выносілі пераважна апраўдальныя прысуды.

Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка 2000 году стаў днём ганьбы рэжыму й маральнага вяршэнства нацыянальна-дэмакратычнай супольнасьці.

## Абарона Курапатаў

# УРОЧЫШЧА КУРАПАТЫ, МЕНСКІ РАЁН

Тут з 24 верасьня 2001 па 3 чэрвеня 2002 году цягам 250 дзён адбывалася кругласуткавая народная вахта ў абарону пахаваньняў ахвяраў бальшавіцкага тэрору ад разбурэньня пры будаўніцтве дарогі. У часе вахты адбыліся жорсткія сутычкі зь міліцыяй. Пралілася кроў



Кульмінацыя шматмесячнага супрацьстаяньня абаронцаў Курапатаў з будаўнікамі, якім было загадана пашырыць менскую кальцавую дарогу, наступіла 8 лістапада 2001 году. Удзень бульдозэры зруйнавалі крыжы, а ўвечары спэцназаўцы напалі на лягер абаронцаў, зьбіваючы людзей кулакамі, нагамі, дубінкамі, утоптваючы іх у раскіслы восеньскі жвір, кідаючы іх, як дровы, у машыны і вывозячы ў пастарункі. Лес поўніўся крыкамі, стогнамі. Мастака Рыгора Кійка зьбілі да крыві, да страты прытомнасьці.

Але гэты гвалт не зламаў людзей, — кажа былы лідэр «Маладога фронту» **Павал Севярынец:**

> «Пасьля разгону і бурэньня намёту быў проста адчай. Але некалькі чалавек, сабраўшыся ў лесе, вырашылі стаяць да канца — аднаўляць намёт, аднаўляць варту, аднаўляць крыжы. І ўсю ноч мы пілавалі й зьбівалі гэтыя крыжы. І якім жа шокам для амапаўцаў і будаўнікоў было зьяўленьне новых крыжоў за гэтую ноч!..»

На наступны дзень народу сабралася яшчэ болей. Людзі ўсталёўвалі новыя крыжы, бульдозэры іх руйнавалі. Курапаты былі ачэпленыя спэцназам. Успамінае актывіст партыі КХП-БНФ **Уладзімер Юхо,** які бараніў крыж, пастаўлены ім у памяць свайго рэпрэсаванага дзеда:

> «Крыж з расьпяцьцем Хрыста быў амапаўцамі і людзьмі ў цывільным зьнесены няведама куды. Тады было зьнішчана больш за сто крыжоў. На другі дзень, 9 лістапада, я быў зноў у Курапатах і паставіў яшчэ адзін крыж і не даваў яго засыпаць. Ён так пад палатном і застаўся».

Больш за паўсотні чалавек былі аштрафаваныя, некалькіх арыштавалі. Дзясяткі былі зьбітыя.

Кругласуткавая вахта ў Курапатах працягвалася з 24 верасьня 2001 па 3 чэрвеня 2002 году. Кожны дзень з Курапатаў гучалі рэпартажы Радыё Свабода, сабраныя пазьней у кнізе «Дарога праз Курапаты». У абароне бралі ўдзел сотні чалавек — і вэтэраны дэмакратычнага руху, і зусім юныя маладафронтаўцы, «зубры». Нямала было і дзяўчат, жанчын. У намёце яны сустрэлі і новы 2002 год.

Менавіта ў гэтыя 250 гераічных дзён і начэй Курапаты сталі народным мэмарыялам. Народ паставіў тут крыжы памяці па сотнях тысяч ахвяраў чырвонага тэрору. Народ абараніў магілы й крыжы ад новай улады, якая гэтым гвалтам пацьвердзіла сваю пераемнасьць са сталінізмам.



## Плошча-2006

# МЕНСК, КАСТРЫЧНІЦКАЯ ПЛОШЧА

Тут з 20 па 24 сакавіка 2006 году на знак пратэсту супраць сфальшаваных прэзыдэнцкіх выбараў быў пастаўлены народны намётавы лягер, жорстка здушаны спэцыяльнымі сіламі. Сотні чалавек былі зьбітыя й кінутыя ў турмы. На гэтай плошчы адбылося багата іншых акцыяў пратэсту супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі

«Плошча Каліноўскага» ў найноўшай гісторыі змаганьня за свабоду была, відавочна, самым моцным адказам людзей на нахабную хлусьню ўладаў. Калі ў беларусаў скралі галасы на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году, яны паставілі на цэнтральнай плошчы сталіцы намётавы лягер — сваю тэрыторыю свабоды. І назвалі гэтае месца Плошчай Каліноўскага.

Некалькі сотняў адважных людзей правялі чатыры ночы й тры дні ў намётах пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. На зьледзянелым бруку, у атачэньні спэцназу, міліцыі й пад зьнявагамі адмыслова прывезеных гэтак званых вэтэранаў. Адзін з актыўных удзельнікаў акцыі **Вячаслаў Сіўчык** называе гэта нацыянальнай дзеяй:

> «Гэта былі дзеяньні беларускай нацыі. Плошча патрэбная была Беларусі. Гэта паказьнік таго, што беларуская нацыя ёсьць. І што, нягледзячы на жорсткі рэжым, нягледзячы на запалохваньне, беларусы жадаюць людзьмі звацца».

На выспачцы свабоды ішлі мітынгі, сьпяваліся беларускія песьні, вялася рэтрансьляцыя перадачаў Радыё Свабода, акцыю паказвалі праз CNN па ўсім сьвеце. Міліцыя распачала блякаду лягеру: абшуквала кожнага, хто ішоў на плошчу, каб не праносілі ежу, коўдры, цёплае адзеньне. Канфіскоўвала «кантрабанду» і арыштоўвала «кантрабандыстаў». І тым ня меней людзі, пераважна старэйшага веку і дзеці, пад футрамі ды ў кішэнях праносілі на Плошчу ежу і перадавалі ў лягер.

Людзі не здаваліся. І тады ўлады пайшлі на штурм.



Успамінае лідэр «Маладога фронту» **Зьміцер Дашкевіч**:

> «А трэцяй ночы, вывеўшы ўсіх журналістаў, нас атачылі спэцназам. Дагэтуль я такіх бачыў толькі ў дзіцячых мультфільмах — баевікі з налакотнікамі, накаленьнікамі, у шаломах, са шчытамі, у адмысловых пальчатках. Падагналі трактары, новыя аўтазакі і пачалі зачыстку. Усе, хто знаходзіўся ў намётавым мястэчку, селі на зямлю, узяліся за рукі. На жаль, некаторыя маладыя людзі, якія былі сярод нас, аказаліся супрацоўнікамі міліцыі, і яны ўставалі й цягнулі за сабой у бок спэцназу яшчэ кагосьці. Зачыстка адбылася вельмі хутка і брутальным чынам. Па некалькі спэцназаўцаў разам хапалі нас. Тых, хто супраціўляўся, білі. Дзяўчаты плакалі, крычалі».

Сотні чалавек былі кінутыя ў турмы, выключаныя з унівэрсытэтаў, звольненыя з працы.

Гэта была, бадай, самая гераічная акцыя пратэсту зь дзясяткаў, што адбываліся тут. Плошча памятае ланцугі салідарнасьці са зьніклымі апанэнтамі рэжыму, мітынгі й дэманстрацыі рабочых, прадпрымальнікаў, флэшмобы маладафронтаўцаў. Сюды прарываліся ўдзельнікі сьвяткаваньняў Дзён Незалежнасьці, а на подступах да плошчы іх хапалі амонаўцы. Тут у адчаі апазыцыянэры прыкоўвалі сябе кайданкамі да слупоў.

Гэта месца славы прагных волі й месца ганьбы ахоўнікаў рэжыму.

## Турма на Акрэсьціна

МЕНСК,
1-Ы ЗАВУЛАК АКРЭСЬЦІНА, 36

ЦІП («Цэнтар ізаляцыі правапарушальнікаў»). Тут за час уладараньня Аляксандра Лукашэнкі знаходзіліся ў зьняволеньні тысячы ўдзельнікаў апазыцыйнага дэмакратычнага руху



Праз турму на вуліцы Акрэсьціна ў Менску ў пару Лукашэнкі прайшлі тысячы людзей, якія шануюць свабоду.

**Наста Палажанка** з «Маладога фронту» трапіла туды ў сямнаццацігадовым узросьце:

> «Калі я ўпершыню трапіла на Акрэсьціна, то супрацоўнікі турмы з усьмешкай казалі: «Нарэшце і Палажанка, мы цябе чакалі». Яшчэ калі я была непаўналетняй, мяне там ужо добра ведалі, бо я насіла перадачы нашым сябрам. Ахоўнікі ўсьміхаліся і казалі: «Што, Наста, насіла ты перадачы, цяпер табе панясуць». І настолькі мы хацелі быць маральна побач з гэтымі людзьмі, якія былі ў зьняволеньні на Акрэсьціна, што калі адчыніліся дзьверы, у мяне было такое ўражаньне, што я гэта ўжо бачыла. Калі ты зазнаеш усё на ўласнай скуры, усё падаецца не такім страшным. На дзіва, стараесься падбадзёрыць тых людзей, якія на волі: не турбуйцеся, усё добра, змагайцеся, і праз ... наццаць сутак мы да вас далучымся».

У дні апазыцыйных акцыяў камэры запаўняліся так, што спалі па чарзе ці ўпрытык. Зьняволеныя пасьля Чарнобыльскага шляху 1996 году ўзгадваюць, што калі паварочваўся адзін, мусілі прачнуцца і павярнуцца ўсе. Бывалі дні, калі на Акрэсьціна адразу кідалі па тры і болей сотні «палітычных».

У 2006 годзе напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў цягам аднаго тыдня прэвэнтыўна на Акрэсьціна кінулі сотні чалавек. І калі праз некалькі дзён намётавы лягер пратэсту разагналі й аўтазакі з новай партыяй людзей накіраваліся да вязьніцы, там ужо не было месцаў. Тады дзяўчат адвезьлі ў турму на вуліцы

Скарыны, а хлопцаў — ажно ў Жодзінскі ізалятар. А на Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка, калі былы кандыдат на прэзыдэнта Аляксандар Казулін павёў дэманстрацыю на Акрэсьціна падтрымаць вязьняў, там месцы ўжо былі. Іх дэманстранты і занялі, калі паход быў люта разагнаны войскам.

Праз Акрэсьціна прайшлі і моладзь, і многія выбітныя людзі мастацтва, навукі, літаратуры. Як сказаў неяк журналістам адзін з ахоўнікаў турмы, ён пазнаёміўся там з тымі, пра каго чытаў у кнігах, газэтах, бачыў на тэлеэкране. Аднойчы разам з тэатральным рэжысэрам Валерам Мазынскім сядзелі ў адной камэры палітык Анатоль Лябедзька, журналіст Мікалай Тоўсьцік, маладафронтаўцы. Усяго 14 чалавек. Бавілі час рэпэтыцыямі сугучнае сучаснай Беларусі п'есы Горкага «На дне». Гаворыць **Валер Мазынскі:**

> «Была раздрукаваная п'еса ў 16 экзэмплярах на кожную дзейную асобу. На дзіва, яе нам ахоўнікі перадалі. Толькі зьдзівіліся: чаму мне столькі паперы прынёс сын? Чыталася п'еса па ролях. Нашыя рэпэтыцыі перапыняліся тым, што мы прыліпалі да вокнаў і крычалі «Жыве Беларусь!», тым самым падтрымлівалі тых, хто быў на вуліцы, новых, якіх прывозілі. Сытуацыя была блізкая да горкаўскай. Але пры ўсім тым больш радасная. Таму што ў Горкага не было ніякага прасьвету, а ў нас у той час былі вялікія надзеі».

З турмы на Акрэсьціна апазыцыянэры часьцей выходзілі ня зломленымі, а загартаванымі «суткамі» для новага змаганьня.



# Турма «Валадарка»

## МЕНСК, ВУЛІЦА ВАЛАДАРСКАГА, 2

У гэтай турме ў 1990-я — 2000-я гады былі зьняволеныя дзясяткі палітычных вязьняў — актывістаў нацыянальна-дэмакратычнага руху

Палітык Павал Севярынец правёў на «Валадарцы» ў 1998 годзе крыху болей за два месяцы. Трапіў туды пасьля акцыі ў дзень гэтак званага яднаньня Беларусі й Расеі, нібыта за зрыў канцэрту. Сядзеў у камэры № 180. Нары ў два паверхі, цяжкі дух, 24 гадзіны на суткі гарыць сьвятло, вельмі кепская ежа. Камэра перапоўненая, спалі па чарзе. Грубасьць і хамства аховы. Вязьні-правакатары зь іхнымі «шчырымі» размовамі, каб выцягнуць інфармацыю для сьледчага. Забойцы й палітычныя разам.

Такі мікраклімат вельмі цяжкі для непадрыхтаванай псыхікі, кажа палітычны вязень **Павал Севярынец**. Але:

> «„Валадарка“ — гэта своеасаблівае гарніла, дастаткова сур'ёзнае месца, дзе беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух выпрабоўваўся. Шмат хто прайшоў праз гэтую турму — ад Якуба Коласа да Юр'я Хадыкі, Аляксея Шыдлоўскага, Андрэя Клімава. І я не сустракаў чалавека, для якога б „Валадарка“ была прагулкай ці проста нейкім звычайным этапам жыцьця. Яна заўсёды была выпрабаваньнем на злом. І людзі яго вытрымлівалі. Калі толькі туды трапляеш, пачынаеш сумнявацца, ці выстаіш, ці вытрымаеш. Разам са шляхам Бог дае сілы. Гэта як з мэталам, які гартуюць спачатку ў полымі, потым у вадзе. Гэта трэба таксама прайсьці, каб пасьля цябе не палохалі пагрозы, допыты, калёніі. Гэта месца, дзе гартуюцца».

Збудаваны паводле праекту архітэктара Пішчалы ў 1825 годзе ў якасьці Менскай губэрскай турмы, замак вельмі хутка здабыў славу палітычнага астрогу, дзе сядзелі ўдзельнікі паўстаньняў 1831 і 1863 гадоў, пазьней — клясыкі беларускай літаратуры Вінцэнт



Дунін-Марцінкевіч, Карусь Каганец, Алесь Гарун, Якуб Колас.

І хоць у сучаснай «Валадарцы» ўтрымліваюць да сьледзтва перадусім меркаваных злачынцаў, яна і сёньня захоўвае славу палітычнай турмы. Празь яе прайшлі самыя небясьпечныя з гледзішча рэжыму яго апанэнты — прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір і прафэсар Юры Хадыка, міністар Васіль Лявонаў і надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Міхаіл Марыніч, мастак Рыгор Кійко і бізнэсовец Андрэй Клімаў, марскі афіцэр Валеры Шчукін і студэнт Андрэй Кім, яшчэ дзясяткі актывістаў апазыцыі.

У цэнтры Менску свабоднай думцы і сумленьню заўсёды знаходзіцца месца за кратамі й калючым дротам.

## Турма «Віцьба-3»

# ПАСЁЛАК ВІЦЬБА ВІЦЕБСКАГА РАЁНУ. ПАПРАЎЧАЯ КАЛЁНІЯ № 3

У гэтай турме з 21 верасьня 2006 году па 16 жніўня 2008 году знаходзіўся ў зьняволеньні палітычны вязень Аляксандар Казулін. Тут ён 53 дні трымаў галадоўку пратэсту. Быў вызвалены датэрмінова пад ціскам беларускай і міжнароднай дэмакратычнай супольнасьці



Два гады турма пад Віцебскам была ў цэнтры ўвагі як беларускай дэмакратычнай грамадзкасьці, гэтак і міжнароднай супольнасьці. На нары «Віцьбы-3» быў кінуты канкурэнт Аляксандра Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах, прафэсар Аляксандар Казулін. У часе выбарчай кампаніі 2006 году колішні паплечнік кіраўніка краіны абвінаваціў Лукашэнку ў парушэньнях правоў чалавека, усталяваньні дыктатуры. Праз некалькі дзён пасьля выбараў, на Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка, Казуліна арыштавалі. Яго засудзілі на пяць з паловай гадоў турмы за хуліганства і арганізацыю вулічных беспарадкаў.

У віцебскай калёніі палітык 53 дні трымаў галадоўку, дамагаючыся адстаўкі Лукашэнкі й разгляду становішча з правамі чалавека ў Беларусі на Радзе Бясьпекі ААН. У турме Аляксандра Казуліна напаткала трагедыя — сьмерць жонкі.

Уся беларуская дэмакратычная супольнасьць салідарызавалася з Аляксандрам Казуліным. Ладзілі шматлікія пікеты з патрабаваньнем яго вызваліць, пісалі адозвы да кіраўнікоў дзяржаваў сьвету з заклікамі падтрымаць вязьня сумленьня. Маральная падтрымка Казуліна стала справай гонару для віцебскіх дэмакратаў, — кажа праваабаронца **Леанід Сьвецік:**

> «Калі ў Казуліна быў дзень народзінаў, мы набылі вялікія віншавальныя паштоўкі. І пад віншаваньнямі зьбіралі подпісы людзей. Затым мы павезьлі гэтыя паштоўкі й букет ружаў у калёнію. Нас сустрэў сам начальнік калёніі. Ён сказаў, што кветкі не перадасьць Казуліну, бо яны не зьяўляюцца прадметам першай неабходнасьці для вязьня. Паштоўкі ж узяў і перадаў. Тады мы вырашылі пакласьці гэтыя ружы да крыжа, што стаіць недалёка

ад турмы, як знак павагі да ўсіх пакутнікаў, што знаходзяцца ў гэтай калёніі».

Праз два гады **Аляксандар Казулін** быў вызвалены, але ўспрыняў гэта не як памілаваньне, а як справядлівасьць, як вынік ціску на кіраўніка дзяржавы з боку беларускай і міжнароднай грамадзкасьці. Заявы Казуліна на першай пасьля вызваленьня прэсавай канфэрэнцыі засьведчылі, што турма яго не зламала:

«Гэта ганьба для спадара Лукашэнкі, што такая вялізная колькасьць сем'яў трапляе пад рэпрэсіі. Вялізная колькасьць людзей пакутуе. Гэта, паводле нашых падлікаў, каля мільёна чалавек. Гэта як прагон праз канцлягеры. Неяк у размове з адным дыпляматам я сказаў, што ў нас канцлягер. Мне было сказана, што трэба больш акуратна выкарыстоўваць гэты выраз. А я сьцьвярджаю, што ў нас духоўны канцлягер. У нас праўны генацыд. Праўны генацыд беларускага народу і ўсёдазволенасьць. Гэта сапраўдныя факты, якіх ня хочуць заўважаць».

Аляксандар Казулін працягвае барацьбу.



## Прыкуты ланцугом настаўнік

### БАБРУЙСК, ПЛОШЧА ЛЕНІНА, 1

Насупраць гэтага будынку 31 жніўня 2006 году прыкаваў сябе да слупа дэмакратычны дэпутат, настаўнік Алесь Чыгір на знак пратэсту супраць парушэньня права чалавека на працу

Бабруйск неаднойчы ў найноўшай гісторыі ўзрушалі розныя палітычныя акцыі пратэсту. Але такога, што адбылося 31 жніўня 2006 году насупраць будынку гарадзкога Савету дэпутатаў, горад раней ня бачыў.

Сярод белага дня дэпутат гарадзкога Савету настаўнік Алесь Чыгір прыкуў сябе ланцугом да слупа. У руках меў плякат з артыкулам Канстытуцыі, які гарантуе права на працу.

Настаўніка гісторыі Алеся Чыгіра ў Бабруйску ведалі як прапагандыста беларускай гісторыі, правоў чалавека, дэмакратыі, рынкавай эканомікі. Ладзіў сэмінары для моладзі, выдаваў бюлетэні, пашыраў дэмакратычны актыў у горадзе, арганізоўваў акцыі супраць падпісаньня пагадненьняў з Расеяй. У 30 гадоў стаў дэпутатам гарадзкога Савету і разбурыў у ім аднагалосны спакой.

У 2006 годзе на прэзыдэнцкіх выбарах Чыгір ачоліў штаб адзінага кандыдата дэмакратычных сілаў А.Мілінкевіча ў Бабруйску. 20 сакавіка быў у Менску на Плошчы, затым зьехаў у Бабруйск на працу. А 25 сакавіка зноў паехаў на сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці ў Менск, насуперак намаганьням бабруйскіх уладаў ня выпусьціць яго туды. Спрабавалі забраць на вайсковыя зборы — не атрымалася: у Алеся трое дзяцей. Ля дому пільнавала машына — ён выбраўся з двара «таямнічымі сьцежкамі». А вось падпісаная ім папера пра тое, што субота 25 сакавіка ў школе мае быць працоўным днём, вырашыла ўсё. Адразу ня звольнілі за прагул — прафкам заступіўся, але пры канцы лета, калі скончыўся кантракт, настаўнік стаў беспрацоўным.



Алесю Чыгіру прапаноўвалі пакаяцца. Але ён, які вучыў людзей стаяць да канца, ня мог пайсьці на кампраміс.

Акцыю ён рыхтаваў з кансультантам — студэнтам Кіеўскага нацыянальнага ўнівэрсытэту тэатру, кіно і тэлебачаньня імя І.К. Карпенкі-Карага Максімам Буйніцкім, раней выгнаным зь Беларускай акадэміі мастацтваў за тое, што прыкаваў сябе да слупа на Кастрычніцкай плошчы ў Менску ў 2004 годзе. Успамінае **Алесь Чыгір:**

> «Я набыў ланцуг, замкі, і мы трэніраваліся прыкоўвацца. Максім засякаў, колькі часу спатрэбіцца, каб зрабіць гэта хутка. Таксама ён схадзіў на плошчу, дакладна зьняў памеры гэтага слупа. Мы вырашылі, каб да рукі я прыкаваўся яшчэ дома, а на плошчы нам заставалася толькі замкнуць замок. Так і атрымалася. Супрацоўнікі спэцслужбаў зьявіліся толькі праз 15 хвілін. Можа, я і даўжэй прастаяў бы. Але тады горад рыхтаваўся да «Дажынак» і паўсюль вяліся працы. У працоўных была «баўгарка», і міліцыянты яе ў іх узялі».

Уся акцыя доўжылася 23 хвіліны, але дзякуючы журналістам атрымала вельмі вялікі розгалас. Праз два тыдні, калі абласны пракурор даў згоду на арышт дэпутата гарсавету, суд арыштаваў Алеся Чыгіра на 10 сутак за несанкцыянаваную акцыю і непадпарадкаваньне міліцыі.

## Крыжы памяці героя антысавецкага падпольля

ЛЕС ЛЯ ВЁСКІ КРАСНЫ БЕРАЖОК ВЯЛЕЙСКАГА РАЁНУ

На гэтым месцы ў 1950 годзе быў расстраляны кіраўнік моладзевага антысавецкага падпольля Расьціслаў Лапіцкі. Тут дэмакратычныя актывісты ў 2008 і 2009 годзе ставілі мэмарыяльны знак і крыжы памяці героя. Іх руйнавалі ўлады



1 верасьня 2009 году ў лесе ля вёскі Красны Беражок вялейскія дэмакратычныя актывісты Аляксей Сюдак, Уладзімер Малярчук і Аляксандар Наркевіч паставілі два крыжы на месцы расстрэлу ў 1950 годзе кіраўніка моладзевага антысавецкага падпольля на Смаргоншчыне й Мядзельшчыне Расьціслава Лапіцкага. Адзін крыж у памяць Лапіцкага, другі — у памяць усіх ахвяраў камуністычнага тэрору. 9 верасьня крыжы асьвяціў праваслаўны сьвятар, а назаўтра іх зьнішчылі прадстаўнікі мясцовай улады.

Пазьней суд пакараў Сюдака, Малярчука і Наркевіча вялікімі штрафамі за тое, што пры ўсталяваньні крыжоў яны нібыта правялі несанкцыянаваны мітынг. **Аляксей Сюдак** кажа:

> «Мы кіраваліся здаровым сэнсам: калі быў расстраляны гэты чалавек, дык мы маем права на месцы расстрэлу паставіць яму крыж. А па-другое, я перакананы, што цяперашнія ўлады ніколі не дазволілі б паставіць крыж Расьціславу Лапіцкаму, бо ён не рэабілітаваны, дый насамрэч выступаў супраць савецкай улады, выпускаў улёткі супраць Сталіна, супраць гвалтоўных дзеяньняў савецкай улады. Мы проста паставілі крыжы чалавеку, які гэтага заслугоўвае».

Гэта была ня першая спроба ўшанаваць памяць Расьціслава Лапіцкага, якога сучасныя беларускія патрыёты лічаць нацыянальным героем. Летась на тым самым месцы да ягонага 80-годзьдзя быў пастаўлены мэмарыяльны знак — вялікі валун. Помнік прастаяў аж да вясны, а на Радаўніцу яго зруйнавалі трактарам. Таксама летась і ў Смаргонскім раёне людзі паставілі крыж і памятны камень у гонар Расьціслава

Лапіцкага, а мясцовыя ўлады валун наагул вывезьлі ў невядомае месца.

Памяць пра легендарнага героя ніколі не зьнікала ў гэтых мясьцінах, іншая рэч, што людзі баяліся пра Лапіцкага гаварыць уголас. Гэта ён пасьля вайны ў Смаргоні ў сярэдняй школе ўтварыў моладзевую антысавецкую падпольную групу, раскідваў зь сябрамі па горадзе ўлёткі. Гэта ён на судзе выкарыстаў права заключнага слова для антыкамуністычнай прамовы. Яму прысудзілі расстрэл, і ён не папрасіў памілаваньня.

Месца, дзе стаяў памятны знак і крыжы на месцы гібелі Расьціслава Лапіцкага, наведала яго сястра — 92-гадовая **Алена Шарэпа-Лапіцкая**. Пра зьдзейсьнены вандалізм яна сказала:

> «Улады баяцца памяці пра Расьціслава Лапіцкага таму, што на ягоным прыкладзе новыя маладыя патрыёты распачнуць змаганьне супраць крыўды, якая існуе і сёньня».

Вялейскія патрыёты гэта і робяць.



# Вольныя сьвяты паэзіі ля хаты Анатоля Сыса

## ВЁСКА ГАРОШКАЎ РЭЧЫЦКАГА РАЁНУ

У гэтым доме нарадзіўся і жыў паэт Анатоль Сыс. У двары з 2006 году штогод на дзень нараджэньня паэта ладзяцца вольныя сьвяты беларускай паэзіі й бардаўскай песьні

«Дух — гэта, людзі, я!»

— пад гэткай назвай у Гарошкаве, роднай вёсцы Анатоля Сыса ў Рэчыцкім раёне, штогод пры канцы кастрычніка, да ягонага дня народзінаў, ладзіцца сьвята паэзіі й бардаўскай песьні.

Бацькоўская хата культавага паэта канца XX — пачатку XXI стагодзьдзя ня можа ўмясьціць дзясяткаў гасьцей з усёй Беларусі і яшчэ болей мясцовых жыхароў, якія зьбіраюцца, каб ушанаваць свабодалюбнага паэта, чалавека, патрыёта Беларусі. А ўлады ўпарта не пушчаюць іх у мясцовы дом культуры. І беларускае слова пад бел-чырвона-белымі сьцягамі гучыць на панадворку Сысовай хаты, аточанай міліцыянтамі й чужынцамі ў цывільным.

Паэт **Міхась Скобла** кажа, што Анатоль Сыс міталягізаваў Гарошкаў, ператварыў яго ў знакавае паселішча на мапе Беларусі:

> «„З Гарошкава я і Пакацігарошак“, — казаў паэт і працягваў агарошваць сваім Гарошкавам знаёмых і сяброў. Паводле Анатоля, першую выяву „Пагоні“, гліняную, знайшлі менавіта ў Гарошкаве на гарадзішчы мілаградзкай культуры. Ён сам яе і раскапаў. А гарошкаўскі дзед Грынця памятаў Францішка Багушэвіча, хоць і быў кантужаны пад Бэрлінам. І цяпер ужо ўдзячны Гарошкаў складае міты пра свайго паэта».

Анатоль Сыс быў адным з стваральнікаў легендарнага літаратурна-палітычнага аб'яднаньня «Тутэйшыя», арганізатарам першага публічнага адзначэньня «Дзядоў» з выразным антыкамуністычным патасам. Яму балела за Беларусь, і галоўным сэнса-вобразам



вершаў Сыса было слова «кроў», — кажа паэт **Анатоль Вярцінскі**:

> «Яно сочыцца калі ня ў кожным другім, то ў кожным трэцім вершы. Можна меркаваць, што паэт адзначае сваю кроўную повязь з роднай зямлёй, з радзімай, зь яе людам. Для Сыса паэзія — не старажытная гульня ў словы, а самаахвярная кроўная справа. Крывавым сьледам пазначаны ўвесь гістарычны шлях беларускай літаратуры».

Паэт, бард **Эдуард Акулін** верыць, што сьвята ў Гарошкаве ў памяць Анатоля Сыса стане агульнанародным:

> «І аднойчы, у залацісты ясны дзень, на сьвяце ў Гарошкаве будзе выступаць і беларускі прэзыдэнт. Той прэзыдэнт будзе так любіць нашу Беларусь, як любіў яе Анатоль Сыс. І той беларускі прэзыдэнт будзе чытаць вершы Анатоля на памяць, як, напрыклад, на Шаўчэнкаўскіх сьвятах вершы Тараса Шаўчэнкі чытае прэзыдэнт Віктар Юшчанка».

У Гарошкаў варта прыехаць ня толькі ў кастрычніку, як і вершы паэта Анатоля Сыса варта чытаць ня толькі раз на год.

# Народны рэфэрэндум супраць зносу кірмашу

МАГІЛЁЎ,
МІКРАРАЁН САЛОМІНКА.
СПАРТОВЫ КОМПЛЕКС

На гэтым месцы знаходзіўся кірмаш «Крыніца», прадаўцы й пакупнікі якога ў 2008 годзе правялі народны рэфэрэндум супраць зносу кірмашу й будоўлі гэтага комплексу. Дэмакратычная воля 6 тысячаў чалавек, якія не пабаяліся паставіць свае подпісы, была груба праігнараваная ўладамі



Цэлы год цягнулася бітва на Дняпры — канфлікт магілёўскіх уладаў і жыхароў мікрараёну Саломінка. Улады хацелі збудаваць чарговы спартовы комплекс на месцы міні-кірмашу «Крыніца» ў цэнтры мікрараёну. Жыхары хацелі мець у зручным месцы кірмаш. У барацьбе з уладай аб'ядналіся пакупнікі, прадпрымальнікі й сяляне.

Калі 350 чалавек там гандлявалі, яны зараблялі грошы, плацілі падаткі. У іх не запыталіся, як яны будуць жыць далей. Не запыталіся і ў пакупнікоў, ці ім будзе зручна дабірацца ў іншае месца на кірмаш. Не пацікавілася ўлада і думкаю жыхароў мікраёну ўвогуле пра неабходнасьць спартовых заляў. А тыя, хоць ня маюць нічога супраць спорту, сказалі б «не», бо ў раёне ёсьць больш важныя патрэбы, прыкладам, у дзіцячых садкох.

Людзі пісалі лісты на ўсе роўні вэртыкалі, накіроўвалі дэпутацыі ў розныя кабінэты. Іх думку праігнаравалі. Яны пачалі патрабаваць ад гарадзкой улады правядзеньня мясцовага рэфэрэндуму, што гарантуе ім закон. І зноў  адмова. Тады людзі вырашылі аб'ядначца і правесьці сваімі сіламі свой, народны рэфэрэндум, — кажа старшыня ініцыятыўнай групы для правядзеньня мясцовага рэфэрэндуму **Ігар Каваленка:**

> «Да разуменьня, што неабходна праводзіць мясцовы рэфэрэндум, дайшло таму, што ад ніводнага чыноўніка з вэртыкалі мы не пачулі нейкага добрага, станоўчага адказу ў абарону простых грамадзянаў. Таму і праводзілі рэфэрэндум. Гэтыя подпісы накіроўваліся ва ўсе інстанцыі, пачынаючы ад кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёну, заканчваючы адміністрацыяй прэзыдэнта. Да

подпісаў прыкладаліся адпаведныя тлумачальныя запіскі».

Была створана ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі ўсе зацікаўленыя бакі. Рэфэрэндум адбываўся на самім кірмашы. Кожны гандляр сам паставіў подпіс у абарону кірмашу й прапаноўваў пакупнікам падпісацца «за».

6 тысячаў чалавек паставілі подпісы.

Прызнаць іх для ўлады было б раўназначна прызнаньню права гэтых людзей на дэмакратыю. У Беларусі 2008 году гэта было немагчыма.

Кірмаш, які існаваў 15 гадоў, зьнесьлі. Сотні людзей страцілі працу. Жыхары Саломінкі вымушаныя езьдзіць па закупы ў іншыя месцы.



## Мэмарыял у Глыбокім

### ГЛЫБОКАЕ, ВУЛІЦА ГОРКАГА, 22

Тут у 1891 годзе нарадзіўся Кляўдыюш Дуж-Душэўскі — сябра Ўраду БНР, аўтар эскізу беларускага нацыянальнага сьцяга, савецкі палітычны вязень. У гонар выбітнага беларускага дзеяча на гэтым доме дэмакратычныя актывісты 23 сакавіка 2008 году ўсталявалі мэмарыяльную шыльду, якая правісела тры дні й была зьнятая ўладамі

Уся Глыбоччына — адрас свабоды ХХ стагодзьдзя.

Тут жылі такія знакавыя асобы, як Вацлаў Ластоўскі, Кляўдыюш Дуж-Душэўскі, Ігнат Буйніцкі, Язэп Драздовіч, Паўліна Мядзёлка, Лявон Савёнак... Гэты край быў адным з цэнтраў Саюзу беларускіх патрыётаў і Саюзу беларускай моладзі. На Глыбоччыне аж да пачатку 1950-х гадоў актыўна дзейнічаў антысавецкі супраціў.

А ў найноўшую гісторыю горад Глыбокае актыўна супраціўляўся русыфікацыі. Тут найпазьней, чым дзе ў краіне, улады змаглі зачыніць беларускую школу і беларускія дзіцячыя садкі, а людзі пераважна гавораць на роднай мове. Тут выдаецца адна з найлепшых рэгіянальных недзяржаўных газэтаў «Вольнае Глыбокае». Тут дзейнічаюць моцныя й актыўныя дэмакратычныя арганізацыі, якія працягваюць традыцыі свабоды.

Менавіта яны да 90-годзьдзя БНР у 2008 годзе вырашылі ўшанаваць мэмарыяльнай шыльдай памяць дзяржаўнага сакратара Ўраду БНР, аўтара эскізу бел-чырвона-белага беларускага сьцяга Кляўдыюша (Кляўдуша, Клаўдзія) Дуж-Душэўскага.

Краязнаўца й выдавец газэты «Вольнае Глыбокае» Ўладзімер Скрабатун выявіў месца, дзе быў дом, у якім нарадзіўся выбітны дзяяч нацыянальна-вызвольнага руху. Там на вуліцы Горкага (за польскім часам Генрыка Сянкевіча) цяпер стаіць іншы дом, і гаспадар яго Раймунд Салодкі пагадзіўся (і гэта зусім у традыцыях шляхотных і свабодалюбных глыбачанаў), каб ягоны дом аздобілі шыльдай памяці.

Шыльду з выяваю Дуж-Душэўскага і надпісам «Тут у 1891 годзе нарадзіўся Клаўдзій Сьцяпанавіч Дуж-Душэўскі — палітык, асьветнік, дойлід» зрабіў мясцовы мастак Аляксандар Мядзелец на ахвяраваньні глыбоцкіх сяброў Партыі БНФ.



Вывешвалі шыльду ўдзень 23 сакавіка. Да дзясятка актывістаў і гаспадара дому далучыліся выпадковыя мінакі. Атрымаўся несанкцыянаваны мітынг.

Правісела шыльда ўсяго тры дні, а 25 сакавіка (акурат у Дзень Незалежнасьці) была зьнятая раённым начальствам. Уладзімера Скрабатуна і Юр'я Калбасіча выклікалі ў міліцыю па тлумачэньні. Успамінае **Ўладзімер Скрабатун**:

> «І я, зразумела, сказаў ім: што гэта робіцца ў нашай незалежнай дзяржаве?! Пры немцах у Глыбокім былі беларускія школы. На беларускай мове адпраўлялася набажэнства ў касьцёле. На беларускай мове было і набажэнства ў праваслаўнай царкве. Па горадзе маршыравалі сто пяцьдзясят чалавек з СБМ, якія сьпявалі беларускія песьні. А цяпер беларуская ўлада зрывае шыльды дзеячам беларускай гісторыі. Міліцыянт сказаў: напэўна, вы ня будзеце падпісваць пратакол? — і запытаўся, на якой мове яго пісаць. Кажу: вядома, на беларускай. Ну добра, — гаворыць. На гэтым усё і скончылася».

Кажуць, што шыльда ня зьнішчаная і захоўваецца на складзе жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Напэўна, да лепшых часоў.

## Вайсковыя перамогі Францішка Вячоркі

# МАЗЫР, ВУЛІЦА АСТРОЎСКАГА, ВАЙСКОВАЯ ЧАСТКА 48694

Тут з 28 студзеня 2009 па 14 красавіка 2010 году праходзіў вайсковую службу лідэр «Моладзі БНФ» Францішак Вячорка, які сваім змаганьнем за правы салдата і беларусізацыю войска прыкаваў увагу грамадзтва да праблемаў беларускай арміі



У 2008—2009 гадох у змаганьне з моладзевымі дэмакратычнымі актывістамі ўключыліся ваенкаматы. Нягледзячы на мэдычныя заключэньні аб непрыдатнасьці да службы або на адтэрміноўкі ў зьвязку з вучобай, актывістаў гвалтоўна забіралі ў войска, каб ізаляваць і зрабіць паслухмянымі. Аднак палітычнай расправы не адбылося. Зьміцер Жалезьнічэнка, Зьміцер Хведарук, Іван Шыла, Андрусь Цянюта, Францішак Вячорка ня толькі не замоўклі, але пашырылі змаганьне за свабоду і беларушчыну на войска.

Францішка Вячорку, якога тройчы мэдыкі прызнавалі непрыдатным да службы з прычыны хваробы сэрца, забралі ў войска бяз позвы і без мэдычнага абсьледаваньня — схапілі на вуліцы і ўжо праз тры гадзіны стрыглі пад нуль. Пазьней «мэдыкі» чатыры разы прызнавалі Францішка прыдатным да службы — завочна.

Як толькі Вячорка прыбыў у вайсковую частку, зампаліт і псыхоляг сабралі сяржантаў і нефармальных лідэраў і сказалі, што дазваляюць рабіць зь ім што захочуць.

«Армія, зь якой сутыкнуўся я, — гэта школа подласьці й цынізму, — перакананы **Францішак Вячорка**. — Мяне сапраўды ламалі, цкавалі. Але я здабыў сяброў, якія мяне падтрымалі, разам мы перамаглі. Ставіліся да мяне прыязна і непалітызаваныя вайсковыя прафэсіяналы. Я ўдзячны свайму камандзіру падпалкоўніку Ігару Лябедку, які дапамог мне вытрываць. Ён нават уратаваў ад турмы, у якую мяне неаднаразова спрабаваў заперці зампаліт».

Змагаўся ён за правы салдатаў і за тое, каб падразь-

дзяленьне стала беларускамоўнай выспачкай свабоды, дало прыклад усёй арміі. Ён дамогся, каб салдаты мелі права гаварыць і аддаваць каманды па-беларуску, пачувацца годна.

Перамагчы, кажа Вячорка, дапамагла і падтрымка звонку:

> «Я штодня атрымліваў дзясяткі лістоў з усёй Беларусі і з-за мяжы. І калі палітычныя афіцэры загадалі ўчыніць мне сацыяльны байкот, забаранілі салдатам размаўляць са мной, нават быць побач, я ўвечары чытаў лісты і не адчуваў сябе самотным. Да таго ж ведаў, за што цярплю і змагаюся».

Увесну 2010 году Францішак Вячорка кінуў уладзе яшчэ адзін выклік — узяў удзел у выбарах як кандыдат у дэпутаты раённага Савету. Нечакана, дзякуючы разнабою ў інструкцыях войску й выбарчым камісіям, быў зарэгістраваны, штодня вёў кампанію — пад наглядам афіцэра — і правёў яе бліскуча. Галоўнае пытаньне — беспадстаўнасьць нядаўняга скасаваньня статусу Мазыра як забруджанай радыяцыяй тэрыторыі. Дзякуючы напору кандыдата ў раёне «Станцыя Мазыр» тэрмінова паклалі асфальт, зрабілі ходнікі, упарадкавалі двары. Людзі загаварылі свабадней. Фармальны вынік «выбараў» прадказальны, але фальсыфікацыі зафіксаваныя на відэа.

Францішак Вячорка быў у цэнтры ўвагі праваабаронцаў і незалежнай прэсы. Нават нэгатыўныя артыкулы пра яго у афіцыйных газэтах спрыялі ўвазе грамадзтва да праблемаў войска. Бітвы Францішка, якія даказвалі, што салдат можа і здольны бараніць свае правы, завяршыліся капітуляцыяй уладаў — яго камісавалі за чатыры месяцы да завяршэньня тэрміну.



## Плошча-2010

# МЕНСК, ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

19 сьнежня 2010 году на плошчы Незалежнасьці адбылася шматтысячная мірная акцыя пратэсту супраць фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў. Улады люта разагналі акцыю. Болей як 700 чалавек былі арыштаваныя і засуджаныя

У 2010 годзе пад ціскам Захаду і пры пагаршэньні дачыненьняў з Расеяй Аляксандар Лукашэнка вымушаны быў вонкава лібэралізаваць выбарчую кампанію: зарэгістравалі кандыдатамі амаль усіх, хто хацеў; дазволілі агітацыйныя пікеты, на якіх луналі бел-чырвона-белыя сьцягі; не цэнзуравалі жорсткія выступы кандыдатаў на дзяржаўнай тэлевізіі («Аддай тое, што ўкраў», «Час мяняць лысую гуму!» , «Сыходзь!»). Але ў камісіі, якія лічылі галасы, апазыцыю фактычна не дапусьцілі.

Увечары 19 сьнежня дзясяткі тысячаў менчукоў і выбарнікаў з усёй Беларусі сабраліся на Кастрычніцкай плошчы, а адтуль рушылі на плошчу Незалежнасьці, дзе распачаўся мітынг з патрабаваньнем адстаўкі Лукашэнкі. Бел-чырвона-белыя і эўрапейскія сьцягі луналі над людзкім морам. Але падзеі разгарнуліся паводле сцэнару ўлады. Спачатку невядомыя правакацыйна разьбілі шыбы ў Доме ўраду, а затым з засады выскачылі сотні людзей у форме, з дубінкамі і шчытамі. Білі старых, малых, жанчын. Білі дубінкамі, кулакамі, нагамі. Білі ў твар, па нагах, па рэбрах. Сьнег набрыняў крывёю. Людзей вывозілі аўтазакамі. Хапун перамяшчаўся на прылеглыя вуліцы.

56-гадовая Тацяна Кім кажа, што людзі ішлі на мітынг як на сьвята, з надзеяй. Жанчыну затрымалі пасьля асноўных падзеяў, калі цэнтар сталіцы ў шаленстве «зачышчалі» ад любой жывой душы. На яе вачох жорстка зьбівалі юнака. Тацяна заступілася. Схапілі і яе.

«Мяне кінулі ў невялікую жалезную машыну, — успамінае **Тацяна Кім**. — Было цесна, не хапала паветра, мы задыхаліся, прасілі адчыніць дзьверы. Нам у адказ гаварылі, што трэба сядзець дома і вязаць шкарпэткі.



А цяжарнай жанчыне, якая проста выйшла на шпацыр, заявілі, што калі яна цяжарная, дык хай шпацыруе на бальконе. Чатыры гадзіны мы праседзелі на жалезнай лаўцы на марозе. На наступны дзень я трапіла ў рэанімацыю».

Болей як 700 чалавек былі кінутыя ў турмы на тэрміны да 15 сутак або пакараныя вялікімі штрафамі. Супраць некалькіх дзясяткаў узбуджаныя крымінальныя справы. Пазьней іх засудзілі на гады зьняволеньня. На нарах турмы КДБ апынуліся сямёра кандыдатаў у прэзыдэнты і шэраг іхных паплечнікаў. Спэцслужбы штодня і штоночы праводзілі ператрусы і канфіскацыі ў кватэрах і офісах. Зафіксавалі нумары тэлефонаў, якія былі ў раёне плошчы, і цягам наступных месяцаў у Менску і па ўсёй Беларусі людзей выклікалі на допыты.

Такога гвалту над прыхільнікамі мірных дэмакратычных зьменаў Эўропа ня ведала ад часу ваеннага стану ў Польшчы.

У ноч, калі завяршаўся 2010 год і наступаў год 2011, усясьветна вядомыя палітыкі, філёзафы, літаратары, у тым ліку былыя прэзыдэнты ЗША і Чэхіі Джордж Буш і Вацлаў Гавэл, прачыталі імёны ўсіх арыштаваных у этэры Радыё Свабода. АБСЭ не прызнала выбары справядлівымі, супраць рэжыму былі ўведзеныя эканамічныя санкцыі. Аляксандру Лукашэнку і больш як 150 вышэйшым служкам рэжыму быў забаронены ўезд у краіны Эўрапейскага Зьвязу і ЗША.

# Беларусь, якая не на каленях

*Пасьляслоўе аўтара*

Гісторыя Беларусі налічвае сотні гадоў змаганьня за свабоду.

У гэтай кнізе — толькі яе найноўшы пэрыяд, сучасьнікамі і ўдзельнікамі якога мы самі зьяўляемся: ад 1980-га, ад першых акцыяў беларускіх іншадумцаў да масавага выступу супраць дыктатуры 19 сьнежня 2010 году.

Адрасы свабоды — гэта вуліцы й плошчы гарадоў, дзе адбываліся мітынгі, дэманстрацыі, маршы, пікеты. Гэта — офісы грамадзкіх аб'яднаньняў і палітычных партыяў, кватэры дэмакратычных актывістаў, рэдакцыі незалежных мэдыяў. Таксама гэта турмы, міліцэйскія пастарункі, суды, дзе свабода сутыкаецца зь несвабодаю.

Радыё Свабода абвясьціла конкурс — дзе варта павесіць шыльду свабоды? — і слухачы дасылалі прапановы.

Прынцыпы адбору адрасоў, дзе панавала свабода, былі лягічныя: падзеі павінны быць завершаныя, а факты паддавацца праверцы. Затым мы з групай экспэртаў, у якую ўвайшлі актыўныя ўдзельнікі й дасьледнікі нацыянальна-дэмакратычнага руху Ўладзімер Арлоў, Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Аляксандар Лукашук, Вячаслаў Сіўчык, Сяргей Харэўскі, выбралі сто, як нам падалося, ключавых адрасоў за 30 гадоў змаганьня. Экспэртам, а таксама журналістам Алесю Асіпцову, Сяргею Астраўцову, Сяргею Навумчыку, Алене Сьцяпанавай і Антону Тарасу, якія дапамаглі ў пошуку і ўдакладненьні фактаў, запісах сьведчаньняў, мая асаблівая падзяка.

Сто кароткіх эсэ, якія я напісаў, гучалі цягам ста дзён у ранішнім эфіры Радыё Свабода. Цяпер яны — пад адной вокладкай.

Тэкст для шыльдаў гатовы.



# Паказьнік асобаў

**А**

**Б**



**В**







**Г**

Д



Е







Ж



З



І



К

**Н**







**П**



**Р**

### С







### Т



### Ф



### Х

### Ц



### Ч



### Ш







### Э



### Ю



### Я

# Пра аўтара

Вячаслаў Ракіцкі (нарадзіўся ў 1953 годзе ў мястэчку Празарокі Глыбоцкага раёну) — кандыдат мастацтвазнаўства, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і Беларускай асацыяцыі журналістаў. Тэатральны і кінакрытык, перакладнік, журналіст. У сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» ў 2006 і 2010 гадох выйшлі дзьве кнігі Вячаслава Ракіцкага «Беларуская Атлянтыда» — «Рэаліі і міты эўрапейскай нацыі» і «Міты і брэнды калянізаванай нацыі».



# Summary

«100 Addresses of Liberty» — 100 expeditions to those islands of resistance in Belarus where the country's freedom was and continues to be fought for. Encompassing the early 1980's through 19 December 2010, the book will assist future tour guides, historians and local government officials in locating important landmarks.

Viachaslau Rakitski, PhD, is a member of the Union of Belarusian Writers and the Belarusian Association of Journalists. He is a theater and motion picture critic, translator and journalist. Two volumes of his book «Belarusian Atlantis» appeared in the «Liberty Library. 21st Century» series in 2006 and 2010. They were, respectively: «The Realities and Myths of a European Nation» and «The Myths and Brands of a Colonized Nation.»

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.



*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік*. **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.